*Прымай, дарагая краіна,*
*Прымай свайго сына ізноў!*
*І месячным светам —*
*Крывёю рабіны,*
*І сумам начэй, і трывогаю сноў…*

В. Маракоў

УДК 882.6.09(092)+929 Маракоў
ББК 83.3(4 Беи)
М 25

**Маракоў Л.**
М 25 Валеры Маракоў. Лёс, хроніка, кантэкст. — Мн.: «Беларускі кнігазбор», 1999. — 192 с.
ISBN 985-6318-47-5

У кнізе на прыкладзе лёсу таленавітага беларускага паэта Валерыя Маракова паказана панарама літаратурнага жыцця 1920-1930-х гг. Аўтарам шырока выкарыстаныя архіўныя дакументы, у тым ліку раней недаступныя даследчыкам. Змешчана таксама больш сотні фотаздымкаў, многія з якіх друкуюцца ўпершыню.
УДК 882.6.09(092)+929 Маракоў
ББК 83.3(4 Беи)

ISBN 985-6318-47-5 

# З «маладняцкім» імпэтам

*Тут нарадзіўся я ў вячэрнім дагаранні.*
*Таму й паэтам стаў*
*Туманных абразоў,*
*Тут першы раз*
*Зарніцы палыханне*
*Ў маіх грудзях пранеслася гразой.*

"Мая паэма"

Валеры Дзмітрыевіч Маракоў нарадзіўся 14(27).3.1909г. У тым жа годзе ён быў ахрышчаны ў Сенніцкай царкве пад Менскам.

Бацька, Дзмітры Маракоў, разам з маладой жонкай Вольгай з Майсіевічаў, мясцовай ураджэнкай, пасяліўся каля чыгуначнага прыпынку Менск-4 (пазней – Козырава[1]).

З кнігі М.Гарэцкага "Маладняк" за пяць гадоў"[2] (Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва, 1928. С. 94):

"Бацька, расіец, родам з вёскі Азяроўка Холмскага павета Пскоўскай губерні, быў меншы сын у сям'і і мусіў шукаць кавалак хлеба ў свеце".

Ён працаваў у Ленінградзе, на Балтыйскім суднабудаўнічым і Пуцілаўскім заводах. Маці, беларуска, была вельмі прыгожая і адукаваная жанчына, валодала талентам спявачкі, у хаце часта гучалі беларускія песні.

З успамінаў С.Шушкевіча:

"На поўдні горада Менска, каля чыгуначнай лініі Менск - Гомель, у канцы дзевятнаццатага стагоддзя ўтварылася невялічкае паселішча. Жылі тут у асноўным будаўнікі чы-

---

[1] Цяпер чыгуначная станцыя Менск-Паўднёвы.
[2] Далей усе цытаты з М.Гарэцкага (акрамя адзначаных асобна) – паводле гэтай кнігі.



Менск, вул. Вялікаморская, 10.
Хата, у якой нарадзіўся В. Маракоў.

гункі - грабары, укладчыкі рэек, цесляры, муляры. Большасць з рабочых - дэмабілізаваныя салдаты царскай арміі - атрымлівалі тут прысядзібныя ўчасткі на казённай зямлі, будавалі невялічкія хацінкі, а некаторыя нават і зямлянкі. Рашыў тут пасяліцца і былы царскі салдат Дзмітры Маракоў. Прывабіла яго і маляўнічая мясцовасць, і беларуская прыгажуня Вольга родам з тутэйшай вёсачкі, і моцнае сяброўства з былымі аднапалчэнцамі, якія, як і Дзмітры, пасяліліся паблізу чыгуначнага прыпынку Козырава. Усім тут знайшоўся кавалак хлеба, знайшлася праца. Муляр і цясляр Дзмітры Маракоў пабудаваў тут спачатку невялічкую хацінку, а праз пэўны час з новых бярвенняў вырас даволі прасторны і прыгожы домік, і над комінам яго ўзвіўся роўны слупок сіняга дыму. Радаваўся Дзмітры свайму жытлу.

З маладой жонкай яны пасадзілі вакол дома маленькі садзік, агарадзілі яго штыкетамі, навесілі моцную браму. Побач з іхняй сядзібай пачалі расці, нібы грыбы, і другія суседскія хаты і домікі.

Праз 5 гадоў побач з хатай Мараковых вырасла ўжо новая вуліца. І таму, што першым пасяліўся на ёй Дзмітры Маракоў, чалавек, род якога, як відаць з прозвішча, звязаны з морам, тутэйшыя жыхары і назвалі вуліцу Марской, а ў далейшым, пры забудове, яна стала Вялікаморскай. Раз ёсць тут Маракоў, павінна быць нешта марское, хоць і мора

адгэтуль вельмі далёка.

Асабліва радасным для маладой сям'і Дзмітрыя і Вольгі Маракавых стаў дзень 27 сакавіка 1909 года, калі нарадзіўся хлопчык, якому далі імя Валеры. І пачаў расці на ўцеху бацькам бялявы сінявокі хлопчык...

Пачалася грамадзянская вайна, і ён з маленства зведаў нямала нягод і бяды" (з асабістага архіва С. Шушкевіча; часткова надрукаваны ў "Родным слове". 1998. № 11. С. 190-196).



Маці паэта
Вольга Станіславаўна
з дзецьмі Нінай, Леанідам
і Валерыем.
1918 г.

"У часе імперыялістычнай вайны В.Маракоў разам з сям'ёю жыў у Мцэнску (Расія) і ў Рамнах (Украіна), і толькі восенню 1920 г. (па звестках М.Гарэцкага – у канцы 1919 г. – *Л.М.*) сям'я вярнулася ў Менск. Яшчэ ў Рамнах В.Маракоў паступіў у рэальнае вучылішча" (Баркоўскі С. Лірыка Валерыя Маракова // «ЛіМ.» 1958. 26 лютага).

З успамінаў С.Шушкевіча:

"Маракоў бегаў за некалькі вёрст у школу, і ўжо ў 5 класе ў насценгазеце змяшчае свае першыя вершы.

Працавіты, паслухмяны і здольны вучань палюбіўся настаўнікам і аднакласнікам. Многія яго аднагодкі толькі і ведалі дзіцячыя гульні, бегалі ў лес і на рэчку. Валеры ж не знаў цудоўных летніх і зімніх канікул. Яму давялося хадзіць у суседнія вёскі мураваць падмуркі, рабіць печы.



Станіслаў Шушкевіч. 1920-я гг.

Дзмітры Маракоў славіўся, як адзін з найлепшых печнікоў, а сын Валеры быў у яго памагатым. Людзі казалі, што лепш за іх ніхто печ не складзе і што іхнія печы маюць нейкія сакрэты. Боханы хлеба выпякаюцца пышнымі, румянымі і пульхнымі.

Я пазнаёміўся з паэтам, калі яму было ўсяго чатырнаццаць гадоў. У саўгасе "Шчытомірычы"[1] ён разам з бацькам складаў печ на кватэры рабочага. Спрытныя рукі Валерыя ўмела падавалі цэглу, умела мясілі гліну. А пасля цяжкай работы, калі бацька Валерыя клаўся спаць, сын доўга сядзеў над кнігаю і позна-позна соладка засынаў з маленькім томікам паэзіі" («Роднае слова.» 1998. № 11. С. 190-196.).

З успамінаў П.Пруднікава:

"Валеры Маракоў быў юнаком вышэй сярэдняга росту, з выгляду прыгожы, бландзіністы, сінявокі і няўрымслівы. Увесь час ён як быццам кудысьці спяшаўся. Сам не мог спакойна сядзець на адным месцы і сяброў сваіх прымушаў разам з сабой бегаць. Здавалася, што і вочы яго не знаходзіліся на адным месцы — бегалі разам са сваім гаспадаром" (Пруднікаў П. "Паэт эмоцый" // Маладосць. 1998. № 12. С. 196-209).

У 1924г. В. Маракоў скончыў 4-ю Менскую ўзорную сямігадовую школу і да канца 1925 г. працаваў печнікам разам з бацькам.

Цэлы дзень я пяку і мазолю
Свае рукі над ростам сцяны.
Толькі вечарам з працы праз поле
Я пайду — сын жыццёвай вясны.

*"Муляр"*

---

[1] Дзе на той час жыў С.Шушкевіч.

# 1925

*Толькі раніцай сонца як гляне,*
*І расою заплача трава —*
*Устае ў русакудрым тумане*
*Залацістых нябёс сінява.*

"Толькі раніцай..."

ЧЭРВЕНЬ— КАСТРЫЧНJК

* 14 чэрвеня газ. "Звязда" паведаміла аб прысваенні Янку Купалу ганаровага звання Народны паэт БССР.

* У друку пачынаюць з'яўляцца першыя вершы В.Маракова, напісаныя ў 1923–1925 гг.

"Раніца" — першы надрукаваны верш В.Маракова ("Звязда". Чэрвень[1]);
"Муляр" ("Профессиональное движение Белоруссии". № 11. Пад псеўд. В.Бор);
"Хоць даўно ўжо я..." ("Профессиональное движение Белоруссии". № 12. Пад псеўд. В.Бор);
"Піянерыя" ("Беларускі піянер". № 8);
"Я іду зялёнай палоскай..." ("Звязда". 20 верасня);
"Гораду" ("Малады араты"[2]. № 12; "Чырвоная змена". 22 кастрычніка);
"Толькі раніцай сонца як гляне..." ("Чырвоны сцяг". № 5-6);
"У лесе" ("Чырвоная змена". 12 кастрычніка);
"Увосень" ("Профессиональное движение Белоруссии". № 16. За подпісам — Валеры Маракоў-Бор).

ЛJСТАПАД

"Не восень цісне", "Ой, не радасна шуміць дуброва..." ("Савецкая Беларусь". 1 лістапада);

[1] Крытык А. Кучар у №7 часопіса «Маладняк» за 1929 г. (с. 80) згадваў пра гэтую публікацыю В. Маракова. На жаль, нумару газеты з вершам «Раніца» ў бібліятэках Беларусі і Расіі выявіць не ўдалося.
[2] Рэдактарам часопіса "Малады араты" быў А. Александровіч, адказны сакратар "Маладняка" да першага расколу. Потым яго змяніў І.Барашка, а з восені 1926 г. часопіс пачаў рэдагаваць А.Вольны.



Адам Бабарэка.
1920- я гг.



Анатоль Вольны.
1920- я гг.



Язэп Пушча.
1920- я гг.

"А цяпер" ("Беларуская вёска"[1]. 3 лістапада);
"Тыя дні" (Тамсама. 10 лістапада);
"З вёскі" ("Савецкая Беларусь". 19 лістапада);
"Зялёны месяц над ракой..." ("Чырвоны сцяг". № 7);
"Піянерская восень" ("Беларускі піянер". № 11);
"Б'ецца вецер над далінай..." ("Савецкая Беларусь". 29 лістапада).

*25-29 лістапада адбыўся Першы Усебеларускі з'езд "Маладняка"[2]. Як было агалошана на з'ездзе, "Маладняк" на той час складаўся са 101 сябра, 89 кандыдатаў і 128 студыйцаў, што ўваходзілі ў 12 філій, уключаючы маскоўскую. У 1927 г. у арганізацыі ўжо было каля 1000 чалавек[3]. ("Маладняк" быў заснаваны М.Чаротам, А.Александровічам, А.Вольным, А.Дударом, Я.Пушчам, А.Бабарэкам 28 лістапада 1923г. у менскім камсамольскім клубе "КІМ"[4] па прыкладзе літаратурных аб'яднанняў "Кузница" і "Молодая гвардия" (РСФСР), "Плуг" і "Гарт" (УССР)).
У прэзідыум з'езда ўвайшлі А.Вольны, А.Бабарэка,

[7] Рэдактарам газ. "Беларуская вёска" быў Р. Шукевіч-Траццякоў. Самым "вядомым" чытачом газеты быў "усесаюзны староста" М.Калінін.

[2] Выпіска з пратакола № 7 нарады цэнтральнага бюро "Маладняка" ад 28 ліпеня 1925 года: "...Склікання маладнякоўскага з"езда дапасаваць да гадавіны юбілею (28 лістапада) і назначыць на 25 лістапада. Старшыня нарады Ул.Дубоўка. Сакратар П.Трус".

[3] А.Макарэвіч. "Сатыра Кандрата Крапівы". (1962 г., Мн., с.8).

[4] Менскі камсамольскі клуб "КІМ" знаходзіўся на вуліцы Камсамольскай (былая Багадзельная). У клубе размяшчаліся рэдакцыі шэрагу юнацкіх выданняў і драмгурток, якім кіраваў В.Галаўчынер.



Першы з'езд «Маладняка».
У першым радзе (злева направа): Н. Чарнушэвіч, П. Шукайла,
К. Крапіва, А. Дудар, апошні— А. Якімовіч; у другім радзе: А. Вольны, Л. Каплан, невядомы, М. Чарот, А. Александровіч, У. Дубоўка, Я. Купала; у трэцім радзе: М. Лужанін, М. Аляхновіч,
І. Барашка, К. Чорны, невядомы, А. Бабарэка, Я. Пушча, М. Зарэцкі;
у чацвёртым радзе апошні справа— Я. Туміловіч. 1925.



Сядзяць: З. Бядуля, Я. Райніс, Я. Купала, К. Крапіва; стаяць: Я. Пушча, А. Бабарэка, У. Дубоўка, П. Глебка, К. Чорны. 1926 г.


Алесь Звонак.
1920-я гг.


Паўлюк Трус.
1920-я гг.


Алесь Якімовіч.
1920-я гг.

А.Александровіч, Ул.Дубоўка, Грашчанка (ад гомельскай філіі), П.Шукайла, Я.Адамовіч і інш. Сярод ганаровых сяброў быў і У.Ігнатоўскі (на той час народны камісар асветы). Адзначалася, што на 1 снежня 1925г. у склад сяброў Цэнтральнага Бюро "Маладняка" ўвайшлі: М.Чарот, А.Вольны, Ул.Дубоўка, А.Александровіч, Я.Пушча, А.Бабарэка, М.Зарэцкі, Грашчанка, Гэсэн[1], Самахвалаў[2], П.Шукайла. Кандыдатамі былі абраны: А.Мялешкіна[3] (ад віцебскай філіі), Р.Мурашка (ад барысаўскай філіі), К.Крапіва, А.Дудар. У склад рэвізійнай каміссіі ўвайшлі: Каплан[4], Іл.Барашка, А.Гурло. Кандыдатамі ў рэв. камісію абраны – А.Якімовіч, П.Трус. М.Гарэцкі пісаў, што "потым да іх далучыліся Я.Падабед, Я.Пфляўмбаум, К.Чорны, Н.Чарнушэвіч і інш." (Гарэцкі М. "Маладняк" за пяць гадоў").

З успамінаў А.Звонака:

Характэрная асаблівасць "Маладняка" — гэта яго масавасць, адсутнасць замкнутасці, чым пазней характарызавалі-ся такія літаратурныя аб'яднанні, як "Полымя" і "Узвышша", яго не толькі літаратурная, але і шырокая асветніцкая, папулярызатарская дзейнасць. Маладнякоўцы ўсталёўваліся ў тагачасных акруговых цэнтрах на сталую працу, узначальвалі так званыя акруговыя філіі "Маладняка", арганізоўвалі друкаваныя выданні (часопісы, альманахі, зборнікі)" ("Першацвет". 1998. № 10-11. С. 10-12).

Валеры Маракоў, як і многія яго равеснікі, належаў да "другога (1926 года) прызыву" маладнякоўцаў...

---

[1-4] Далейшы лёс невядомы.

СНЕЖАНЬ

* Паводле пастановы ЦБ юных піянераў і пры спрыянні А.Якімовіча В.Маракоў быў прызначаны сакратаром рэдакцыі часопіса "Піянер Беларусі".

* У друку з'яўляюцца творы:
"Белае зімняе поле" ("Савецкая Беларусь". 6 снежня);
"Песні, песні юнацкага слова..." (Тамсама. 22 снежня);
"Эх, прастор сінякудрых палёў..." ("Профессиональное движение Белоруссии". № 20; варыянт верша "З вёскі"):

Эх, прастор сінякудрых палёў, —
Срэбралітая рэчка ў даліне,
А над рэчкай фальварак разлёг
І купаецца сонца у сіні...

# «Адзе ж грамадскасць?..»

## 1926

*Тут так хораша, свету так многа...*
*Срэбны месяц прылёг на кусты.*
*Я іду сваёй роднай дарогай,*
*Зноў вясёлы і зноў малады.*

"Тут так хораша..."

СТУДЗЕНЬ – ЛЈПЕНЬ

* В. Маракова прымаюць у літаратурнае аб’яднанне "Маладняк", куды яго прывёў рэдактар часопіса "Малады араты" Ілары Барашка. Адначасова яго абіраюць членам рэдкалегіі літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часî ï³-ñà "Ì àëàäí ÿê"[1].

* У рэкламе "Падпішыцеся на 1926 год на штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска–палітычны часопіс "Маладняк" сярод супрацоўнікаў гэтага выдання знаходзім прозвішча В.Маракова ("Маладняк". 1926. № 2).

* У перыядычным друку з’яўляюцца наступныя вершы: "Па бярозавым шляху" ("Маладняк". № 11(2);

---

[1] Выходзіў у 1923 – 1932 гг.



У першым радзе: Н. Чарнушэвіч, А. Бабарэка, А. Вольны, Я. Пушча, А. Александровіч;
у другім радзе: А. Гурло, М. Зарэцкі. 1920-я гг.


Максім Лужанін. 1920-я гг.


Ілары Барашка. 1920-я гг.


Сяргей Дарожны. 1920-я гг.

"Я верыў тады" (Тамсама. № 3);
"Над прасторам ніў і над квяцістым лугам..." ("Полымя". № 3);
"Над сінім лесам, шэрым полем..." ("Маладняк". № 4);
"Зноў прыйшла, прыйшла ты..." ("Полымя". № 4);
"Выхадзі, піянерская раць..." ("Беларускі піянер". № 4);
"Адрывак", або "Нашто глядзіш так мне ў вочы" ("Малады араты". № 14).

* 26 мая, стварыўшы новае літаратурнае аб’яднанне "Узвышша"[1], з "Маладняка" выходзяць: А.Бабарэка, Ул.Дубоўка, К.Крапіва, Я.Пушча, К.Чорны, пазней да іх далучыліся П.Глебка, С.Дарожны, М.Лужанін і інш.

ЖНJВЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ

* У друку з’яўляюцца творы:
"Ноч запаліла" ("Савецкая Беларусь". 22 жніўня);
"Пеў пякучыя песні свае салавей" ("Маладняк". № 6).

КАСТРЫчНJК – СНЕЖАНЬ

"Тут так хораша, свету так многа...", "Палюбіў я асенняе ранне...", "Помніш ты, быў ціхі, ціхі вечар" ("Полымя". № 7);

[1] Назва была ўзята з радкоў Ул.Дубоўкі:
"Прыспусціся ўдаліну з узвышша, каб узняцца ізноў і вышэй". (Гл.: Ант.Адамовіч "Беларускае літаратурна-мастацкае згуртаванне "Узвышша". // Беларускі зборнік. 1958. Кніга 8. Мюнхэн)



У першым радзе: Я. Падабед, А. Якімовіч, М. Чарот, А. Дудар, Я. Пушча; у другім радзе: А. Бабарэка, Н. Чарнушэвіч, П. Трус, А. Вольны, А. Александровіч, К. Чорны. 1924-1925 гг.

"Кастрычнік" ("Савецкая Беларусь". № 18; "Чырвоная Полаччына". 6 лістапада, варыянт верша "Тыя дні").

* В.Маракоў разам з А.Звонакам жыў у Полацку, некаторы час друкаваўся ў мясцовай газеце "Чырвоная Полаччына".

З успамінаў А.Звонака:

"Я запрасіў Маракова прыехаць у Полацк, папрацаваць, падправіць сваё матэрыяльнае становішча. Неўзабаве ён прыехаў.

Мы, як маладыя журналісты, працавалі ў рэдакцыі газеты "Чырвоная Полаччына".

Незабыўная Полаччына! Славуты Сафійскі сабор, старажытныя муры былога кадэцкага корпуса, Стралецкая Слабада і славуты вал Івана Грознага! А ўнізе ў залацішта-пясчаных водмелях велічная і спакойная Заходняя Дзвіна, якая пералівалася жывым срэбрам у месячную ноч і заўсёды зачароўвала нашы юныя сэрцы сваёй незвычайнай прыгажосцю і веліччу...

Тады <...> установы ўсе пераводзіліся на дзяржаўную мову Беларусі, ствараліся амаль пры кожнай установе гурткі па вывучэнні беларускай мовы. Вось тут Маракову была неабмежаваная педагагічная практыка як студэнту Менскага Белпедтэхнікума.

Не абышлося і без кур'ёзаў. Мне і выкладчыку Полацкага педтэхнікума маладнякоўцу Грашчанку камгас выдзеліў жыллёвае памяшканне ў былой цырульні. Абсталяваўшы яе тэхнікумаўскімі тапчанамі, табурэткамі, змайстраваўшы з нейкіх скрынак стол, мы зажылі самастойна і незалежна ў камгаснай кватэры. Была, праўда, і маленькая нязручнасць. Уваход быў з вуліцы, і многія жыхары з горада, а таксама прыезджыя з раёнаў па старой памяці з размаху адчынялі дзверы і пыталіся: "Пастрыгчыся можна? Пагаліцца можна?". На што мы цярпліва адказвалі, што цырульня не працуе, зачынена і г.д. Вось тут мы і пасялілі В.Маракова. У "цырульню" прыходзілі толькі начаваць. На дзвярах вешалі паперку "Цырульня зачынена на рамонт". А ўвесь вольны час праводзілі ў рэдакцыі, там і "тварылі". А самым любімым нашым заняткам былі начныя блуканні па берагах чароўнай Заходняй Дзвіны, на якой у туманнай далечыні мільгацелі агеньчыкі на плытах, што з парыпваннем і ўсплёскамі ціха праплывалі міма сівых муроў старажытнага Полацка ў замежную тады Латвію... Любілі пахадзіць і па абсаджаным клёнамі і бярозамі вале Івана Грознага, што ўзвышаўся над

Стралецкай Слабадою зялёным паўкругам... Часцяком наведвалі славутую Сафійскую горку на лукавіне паміж маленькай Палатой і магутнаю Дзвіной... І міжвольна ў нашых юнацкіх сэрцах абуджалася шчымлівае салодкае пачуццё гонару за сваю дзяржаву Беларусь, за яе шматпакутную, замешаную на крыві і слязах гісторыю, за яе светлую будучыню, у стварэнні якой ёсць і наш сціплы ўдзел... Пазней гэта ўсё называлася "нацдэмаўшчынай", праявамі "буржуазнага нацыяналізму", "арыентацыяй на Захад", карацей кажучы, контррэвалюцыяй, а за ўсе гэтыя хадзячыя ярлыкі трэба было пазней плаціць альбо жыццём, альбо "вандраваннем па пакутах" у далёкіх сіберных краях..." (БДАМЛіМ. Ф. 225. Воп. 1. Спр. 5. Арк. 29.; "Першацвет". 1998. № 10-11. С. 10-12.).

З Полацка В.Маракоў і А.Звонак напісалі ліст ў ЦБ "Маладняка", поўны гумару і веры ў будучыню:

*"Дарагія таварышы!*

*Шлём вам усім па самым нізкім паклоне... і жадаем вам жыць "многія лета"...*

*Па-першае, спяшаемся сказаць, што Маракоў ужо не гаворыць – "загіну", а кажа "будзем жыць да самай смерці, а там х... памрэм." Гэта адзін плюс. Прыстроіўся Маракоў падхадзяшча, дзякуючы добраму націску па ўсіх інстанцыях. Канечне, не абышлося без змагання з Карандзейчыкам, які хацеў падставіць нагу, як і заўсёды. І я (Звонак, як бачым), і Маракоў пабегалі ў Акругком і назад і г.д. Цяпер пакуль што Маракоў выкладае ў вячэрняй школе і з 15 лістапада будзе працаваць у газеце. Не абышлося без таго каб мы не сапсавалі па кілаграму крыві... Жмуд-Карандзей, маць яго прабабушку, усімі сіламі стараўся, каб не прыняць Маракова, але Баль даў яму добрую бучу і прагнаў з кабінета – смеху было на 100 прац., разам з гэтым уляцела і Сямашку, які пакуль што заняў падлізніцкую пазіцыю, але ну іх к чорту – "мы жылі, жывём і будзем жыць", як сказаў найперапаважаны тав. Дудар.*



Янка Туміловіч.
1920-я гг.

*Жывём у адной хаце калектывам цэлым, цэлым "стойлам Пегаса", спяваем песні і пасылаем усіх русацяпаў к... Рыхтуемся да вечара, рыхтуем літ. дадатак да газеты і г.д. Пішам вершы. Між іншым, у абодвух самы лепшы настрой, і Маракоў не каецца, што паехаў у град Полацк, думае жаніцца разам са мной на ўмовах агульнага карыстання, чаго і вам жада-*



Янка Бобрык. 1920-я гг.

*ем... Шукаем кватэры з добрымі дзяўчатамі і - "дапаможа нам Божа"... Спім на адным дыване, адзін на адным і пад галаву кладзём "маладнякоўскую" кніжніцу, "дабы і ныне і прысно памятаць аб вас"... Ніяк не можам забыцца на "прелести" Туміловіча і нявіннасць Бобрыка... Маракоў скора заробіць аліменты і - "да паможа яму Божа і Звонак". "Воскресению" Звонака з мёртвых, г.зн. з Менску, былі надзвычайна рады, як Маракоў і прыбліжэнныя, так і сам Звонак (я, значыць), які застаў яго ўстановішчы слёзным і з разбітымі (яко гаршкі) надзеямі... Піць і не думаем... і не мыслім... ні-ні. Захоўваем у гэтых адносінах чыстату і нявіннасць, чаго і вам ух, як жадаем, асабліва Туміловічу, Бобрыку і роданачальніку Дудару.*

*Пакуль ужо бывайце і не забывайце вялікамучанікаў і ізганнікаў*

*Валерыя Маракова*

*і Алеся Звонака.*

P.S. *Пры гэтым дасылаем вам верш (*магчыма, "Кастрычнік" або "Дні ідуць...". - *Л.М.), раім вывучыць напамяць...*

*10.XI-26г. Горад Полацк*"
(Першацвет. 1998. № 10-11. С. 10-12).

* В.Маракоў падрыхтаваў зборнік новых вершаў пад назвай "На залатым пакосе"[1]. (Паведамленне з раздзела "Хроніка беларускае культуры": "Полымя". № 8).

* Спецыяльны (выпушчаны да трохгадовага юбілею "Маладняка") літаратурны дадатак да газеты "Савецкая Беларусь"— "Сталёвы ўзлёт" (выйшаў 5 снежня) у кнігаспісе маладнякоўскіх твораў паведамляе аб выхадзе з друку першага паэтычнага зборніка 17-гадовага[2] В.Маракова "Пя-

[1] Зборнік "На залатым пакосе" выйшаў восенню 1927 г. Нягледзячы на тое, што гэты і папярэдні зборнікі трымалі ў выдавецтве каля года, В.Маракоў стаў аўтарам двух зборнікаў лірыкі ў 18 гадоў (а здаў зборнікі ўдрук адпаведна ў 16 і 17 гадоў).

[2] З успамінаў С.Шушкевіча: "У 1925 годзе ён адносіць у выдавецтва зборнік вершаў «Пялёсткі», які выйшаў у 1926 годзе."


Юрка Гаўрук. 1920-я гг.

лёсткі". Аб гэтым жа паведамляе і час. "Аршанскі маладняк" (№3(5), 1926).

У сувязі з выхадам "Пялёсткаў" паказальны службовы ліст Усебеларускага аб'яднання паэтаў і пісьменнікаў "Маладняк"[1] (Цэнтральнага Бюро) у калінінскую[2] філію:

"Высылаем па аднаму экземпляру апошніх выданняў маладнякоўскай кніжніцы. Вельмі пажадана, каб кніжкі былі разгледжаны на сходах філій ці гурткоў; пасля разгляду належыць прыслаць у ЦБ падрабязныя пратаколы з запісам спрэчак...

Спіс высланай літаратуры:

1. М.Чарот. Ленін.
2. М.Зарэцкі. 42 дакументы.
3. Р.Мурашка. Стрэл начны ў лесе.
4. А.Дудар. І залацісцей, і сталёвей[3].
5. В.Маракоў. Пялёсткі.
6. Ю.Гаўрук. Вясковыя рыскі.
7. Дж.Лондан. Незвычайны адрывак.

20-XII-1926г.

Сакратар ЦБ "Маладняка" – Ал. Дудар.

У гэты спіс пісьменнікаў, якія яшчэ займалі і адказныя пасады (М.Чарот – галоўны рэдактар "Савецкай Беларусі", М.Зарэцкі – галоўны рэдактар часопіса "Маладняк", Р.Мурашка – адказны сакратар часопіса "Бальшавік Беларусі", Ю.Гаўрук – дацэнт Сельгасакадэміі, паэт і перакладчык), трапіў і 17-гадовы В.Маракоў.

Зборнік "Пялёсткі" быў адразу заўважаны крытыкай і чытачамі. М.Гарэцкі пісаў:

"Рэцэнзенты даволі ўважліва (С.Баркоўскі, Янчук. – *Л.М.*) адгукнуліся на выйсце з друку зборнікаў, але зборнік "Пялёсткі" спатканы быў даволі сурова за ідэалогію паэта. Рэцэнзенты зазначылі вялікі суб'ектывізм паэта, адсутнасць

---

[1]Ліст захоўваецца: БДАМЛіМ Ф.225. Воп.1. Спр.5. С.29.

[2] Клімавіцкі раён у гонар "усесаюзнага старасты" быў перайменаваны ў Калінінскі.

[3] На вокладцы кніжкі А.Дудара "І залацісцей, і сталёвей" былі намаляваны профілі дзвюх дзяўчат, што лічылася значным адыходам ад маралі.



Максім Гарэцкі з жонкай Леанілай Чарняўскай-Гарэцкай і дзецьмі: Леанідам (злева) і Галінай. 1923 г.

грамадскіх матываў, пэўны песімізм (Ант.Адамовіч, Ю.Лявонны. – *Л.М.*)" (Гарэцкі М. "Маладняк" за пяць гадоў").

Змест зборніка "Пялёсткі":

1. "Зноў прыйшла..."
2. "Я цяпер з хлапцамі..."
3. "О, каменне замоўкла..."
4. "О, мой любы дружа..."
5. Сон.
6. Адрывак.
7. Дзяўчыне.
8. "І зноў прыйшоў..."
9. "Над сінім лесам..."
10. "Эх, ты, поле..."
11. "Зялёны месяц..."
12. "Пеў пякучыя песні..."
13. "Чаго сёння так сэрца..."
14. "Эх,палі..."
15. "І зноў холад і вецер..."
16. "І так усё..."

На зборнік 17-гадовага Маракова адразу ж пасля выхаду


Сцяпан Баркоўскі.
1920-я гг.

выйшлі чатыры рэцэнзіі. Ніжэй падаем іх у скароце.

* С.Баркоўскі. "Пойдзем піць прыгожасць сонца і вясны". ("Чырвоны сейбіт"[1]. № 4):

"Калі вы пачынаеце чытаць "Пялёсткі" Валерыя Маракова, вам у яго вершах асабліва кідаецца ў вочы тэхнічная культурнасць аўтара: жывы радок, не звязаны мёртвым метрам, уласная рыфма, удачныя алітэрацыі, музыкальнасць кампазіцыі. У шмат якіх месцах яго вершаў можна сустрэць моцна стылізаваную вобразнасць. У вершы "Дзяўчыне" чытаем:

І так пішу... і зноў пішу з натхненнем -
Твой васілёк перада мной ляжыць.
А за вакном снуюцца і танцуюць цені,
Упаў срабрысты месяц на калені,
Стаў цалаваць магільныя крыжы.

У другім яго вершы "Пеў пякучыя песні..." В.Маракоў дае нам такую стылізаваную вобразнасць:

Пеў пякучыя песні свае салавей,
Кучаравая ліпа драмала;
На прасторы палёў і жытнёвых завей,
Там, дзе песня да шчасця і волі заве,
Маладая дзяўчына спявала.

Вобразаў у паэзіі В. Маракова многа і вобразы яго носяць характар выражэння пачуццяў. У вершы "Зялёны месяц" ён піша:

Ой, месяц... месяц над ракой
Ўстае, смяецца, б'е паклоны,
І ночка сінім васільком
Схіліла твар свой на загоны.

Мастацкасць В.Маракова не ёсць канчатковая мэта, а толькі сродак для дасягнення вобразу.

Словы, якія ён выказвае ў сваіх вершах, выяўляюць думкі і пачуцці, яны і будуюць патрэбны вобраз. В.Маракоў у сваіх

---

[1] «"Чырвоны сейбіт" - літаратурны дадатак да газ. "Беларуская вёска". Першы нумар выйшаў у кастрычніку 1925 г. Рэдактарам быў К.Чорны.

вершах перажывае кожнае слова, пры дапамозе яго ён то вылівае сваю душу, напоўненую радасцю, то сумуе па чым-небудзь. У вершы "О, каменне замоўкла..." В.Маракоў кажа:

Ўсе трывогі – глупства, трэба знішчыць іх,
Каб квітнела шчасце ў нівах дарагіх,
Каб над роднай вёскай, на прастор сівы
Пралілася песня кветак і травы.
Вось затым сягоння ў радасці бягу
І ўліваю ў сэрца нашых дзён разгул!

А ў вершы "О, мой любы дружа...", -

Ну дык, любы дружа, мы цяпер адны,
Пойдзем піць прыгожасць сонца і вясны.

Аб сваёй творчасці і аб сабе В.Маракоў гаворыць у наступных радках, якія дапамагаюць зразумець яго творчы шлях:

Я, сын вясны пад яркім светам,
Люблю жыцця прастор і шыр,
Затым, што сонца б'е паэту
Паклоны новых слоў душы,

Затым, што ў даль над шэрым полем
Задорны смех ліе вясна...
Такой парой па-над раздоллем
Душу я выпяю да дна.

Асноўныя матывы яго лірыкі – любоў і захапленне жыццём. У беларускай сучаснай паэзіі досыць шмат чырванашчокай маладосці, многа абывацельскага чванства, але няма вытрыманых з боку формы, зместу і ідэалагічнага напрамку вершаў.

"Пялёсткі" В.Маракова сведчаць нам аб тым, што аўтар з тэхнічнага напрамку многім аўладаў і пры далейшай працы над сабой з яго выйдзе выдатны тварэц паэзіі. Аб яго далейшым творчым размаху гаворыць яго зборнічак вершаў.

К хібам яго зборніка трэба аднесці падражанне С.Ясеніну. Дадзім прыклад у вершы "Эх, палі", чытаем:

Я прыйшоў, засмяяўся, заплакаў
І на грудзі асіны прылёг,
А яна, як прапашчы гуляка,
Прытулілася ціха без слоў!



Антон Адамовіч.
1920-я гг.

Тэма вершаў В.Маракова і іх змест – каханне, прырода, сум, юнацкае захапленне і г.д.

Думкі свае ён раздзяляе з тымі, "што з подыхам світання імкнуцца ў радасную даль".

* Ант.Адамовіч. "А дзе ж грамадскасць?" ("Чырвоны сейбіт". № 4):

"Так званае ўпадніцтва, або дэкаданс, пачынае, на жаль, расцвітаць у нашай новай паэзіі.

Ёсць гэта і ў "Пялёстках". Трывожныя ноткі пачынаюць гучаць у В.Маракова ("І не чую світсу, вострага, як нож, што другіх без жалю ўжо скасіў даўно"), далей настрой усё панураецца і зборнік канчаецца вершам, пасля каторага, разважаючы лагічна і прымаючы пад увагу шчырасць, на якую Маракоў напірае ў шмат якіх месцах зборнічка, яму застаецца... самагубства.

Першае, што здзіўляе нас у зборнічку (і ў чым крыецца прычына ўпадніцтва), — гэта поўная, блізкая адсутнасць грамадскіх матываў. Ён адарваны ад грамадства, і калі і імкнецца, дык да другога, такога самага, як ён, чалавека, каб разам з ім уцячы да прыроды.

Ну дык, любы дружа, мы цяпер адны,
Пойдзем піць прыгожасць сонца і вясны,
Дзе звініць і плача залатая шыр,
Так прывольна разам на прасторах жыць.
Дзе святлей пад сонцам, дзе званчэй душа,
Дзе не так трывожна адбівае шаг.

У другім вершы ён кажа:

Я пайду і для кветак у полі
Буду пець... усміхацца і жыць,
Буду знаць я, што часу і сілы
Не губляў ў гэтым сінім жыцці.

А дзе ж грамадскасць?

Але Маракоў знае, што аднаму, хоць бы і з блізкім другам ці з прыродай, адарваным ад грамадства, быць нельга, хоць і выйсця з гэтага не знае:

Што ж, бывайце, асіна і поле;
З вамі жыць я адзін не магу.

Не магу!.. Не магу!.. я не знаю,
З кім дружыць і каго абнімаць,
Ці забыцца на сінім кургане,
Ці каменне зубамі ламаць!

На змаганне ў яго дужа прымітыўны погляд: ён хоча, каб змагацца было святлей і ярчэй, а штодзённае змаганне, змаганне ў поцетвару не прымае.

Не любіць Маракоў горада і імкнецца да вёскі:

О, каменне замоўкла, каменне маўчыць,
Яно цёплага слова не скажа,
Калі так, я хачу між палёў адпачыць,
Хай палі мне пра сонца раскажуць.

Аб горадзе піша:

І тады ўсё ўздыхне, смела, шчыра ўздыхне,
Сваю радасць спяе для Айчыны,
І каменне, як смецце, між палкіх агней,
Каб згарэлі, навекі пакіне!

Непрыхільнасць да горада відна з верша "Адрывак". У вершах Маракова няма працоўнае вёскі, яго цягне адно вясковая прырода. Але і яна не здавальняе паэта канчаткова: бывае, што яму "нават цяжка дышаць у палях".

Аўтар замкнуўся ў сваю асобу і прыроду. Ён кажа, "што ў яго толькі сілы няма" і "поўнай волі", і тое ж паўтарае ў вершы "Эх, ты, поле" ("толькі сілы ранейшай няма"). Пад уплывам гэткага бяссілля нездарма яму хочацца па-лермантаўску "забыць усё і адпачнуць".

Як завяршэнне ўсяго гэтага, у Маракова выпрацоўваецца безнадзейны песімізм. І ў сваёй безнадзейнасці Маракоў дакочваецца да крайніх мераў:

І так усё... ўсё праляцела,
Чым сэрца некалі жыло.
І над далінай гэтай белай
Іду, як мёртвы, за сяло.

І далей:

Даволі сэрца маладое
Душылі вы ў маіх грудзях, -

кідае немаведама каму Маракоў.

...Такім чынам, Маракоў звальвае прычыны свайго ўпадніцтва на перагасу мінулага. Аўтар, як відаць, адарваны ад жыцця...

Перад В.Мараковым задача – увесці іншыя, светлыя матывы ў сваю паэзію, бо па сіле таленавітасці творчасць яго падае вялікія надзеі".

А вось меркаванне Антона Адамовіча-ссыльнага пра сваю былую крытычную дзейнасць (з аўтабіяграфіі Ант. Адамовіча, якая была напісана ў канцы кастрычніка 1935 г. у ссылцы ў г.Кіраве):

"Первую свою рецензию я написал на сборник Валерия Морякова "Пялёсткі". В ней я обвинил этого поэта в идеологической невыдержанности и упадничестве. Рецензия была встречена лидерами ("Узвышша". – *Л.М.*) холодновато и напечатана не в журнале "Узвышша" (выходзіў у 1927-1931гг. – *Л.М.*), а в литературном приложении к крестьянской газете "Беларуская вёска". Потом друзья передали мне слова Кузьмы Чорного о том, что это, мол, рецензия еще не "узвышенская", а чисто "молодняковская", но что надо напечатать - поддержать парня (т.е. меня).

Вспоминая историю этого первого своего выступления на литературном поприще, сейчас приходится только пожалеть, что это здоровое, в основном, начало (патрабаваць ад 17-гадовага Маракова "грамадскасці" – гэта "здоровое начало". - *Л.М.*) не нашло у меня потом себе продолжения и что дальнейшая моя деятельность пошла по совсем другому, искривленному пути" (Нацыянальны архіў РБ. Ф. 569. Воп.1. Спр. 7. Арк. 5).

Раней Ант.Адамовіч зазначаў, што пачаць крытыку маладнякоўцаў яго падштурхнулі лідэры– "узвышэнцы".



Юрка Лявонны.
1920-я гг.

* Ю. Лявонны. Водгук у "Савецкай Беларусі" (25 снежня 1926 г.):

"Хаця ж Валерый Маракоў у "Пялёстках" на кожным кроку і гатоў "піць прыгожасць сонца і вясны", "рвацца на гоні", але такія радкі Маракова, як:

Я ж хачу яшчэ жыць на раздоллі,
Зноў пабачыць братву і разгул, -

яшчэ зусім не падкрэсліваюць загартаванасць і вытрымку аўтара...

Наадварот – поўным бяссіллем гучыць у той жа час пытанне:

Не магу... Не магу і не знаю,
З кім дружыць і каго абнімаць,-
Ці забыцца на сінім кургане,
Ці каменне зубамі ламаць?..

Між іншым – прыгожыя радкі:

...Дай руку тваю мне, дай цябе абняць –
Пойдзем мы сягоння ў пацерках агня.

І далей:

Дзе звініць і плача залатая шыр –
Так прывольна разам на прасторах жыць...

Надалей будзем спадзявацца – паэт выраўняецца і пойдзе правільным шляхам..."

* Янчук. "Душу я выпяю да дна" ("Маладняк", 1927, № 1):
"Пялёсткі" – першы збор В.Маракова, першы вянок яго васількова–журботнай размашыстай песні.

Што мы чуем у песнях Маракова? Галоўны матыў яго лірыкі - гэта радасць ад жыцця і маладосці, імкненне запець на ўвесь размах маладых магутных грудзей, колькі хопіць юнацкіх сіл і шчырасці. Але асабістае жыццё паэта ставіць яе ў такія ўмовы, што гэты размах супыняецца кімсьці зварожым да паэта настроем, і за гэтым ён не можа прымірыцца са сваёй сучаснасцю. То бадзёра заяўляе ён, звяртаючыся да свайго друга, аб нязнанні тугі і аб тым, што будзе жыць і пець, нягледзячы на небяспеку ад зіхацення часамі нажоў над горлам.

О, мой любы дружа, дружа дарагі,
Мне з табой не ведаць суму і тугі.
Ты і я сягоння будзем пець і жыць,
Хоць парой над горлам зіхацяць нажы.

То іншы раз яму так становіцца балюча, што ён разважае аб прытульнай радасці ў дуброве з думкаю пакінуць горад. Яму хочацца жыць "светам майскіх начэй", хочацца адпачыць сярод палёў.

Паэт летуценіць аб шырока-раздольных шэра-туманных палях пад размашыстым полагам сінеючага неба з "зялёным" месяцам, кажучы:

Каб пад сонцам румяным на роднай мяжы
Я не змоўк разам з брудным каменнем,

І не стаў, як другія, без шчырасці жыць,
Адпіхнуўшы навекі імкненні...

Значыць, пясняр імкнецца ў поле, каб захапіць яго хорашасць з залатым раздоллем і як найпрыгажэй і наймацней пасля выліць усё гэта ў сваю песню.

Эх, браточкі, эх, любыя людзі,
Толькі дайце дыхнуць – адпачыць.

А тады ўжо:

Маім песням не будзе мяжы.

Паэт любіць шыр, прастор і песню:

Я йшчэ ведаю, ў даль над маёй паласой
Праліецца прывольная песня,
Толькі дайце гармонік на сто галасоў
І прастор для размаху не цесны.

Вось гэты стогалосы гармонік ён хоча пазычыць у шумлівай дубровы ў залатаструнную вясну, а прастор для размаху - у палях прывольных.
Так, значыць, і пайшоў пясняр:

...дзе ветры ў нівах
Журбу асеннюю мятуць.

Як ні жаль, а ёсць і матывы нейкай роспачы. І калі б не такая шчырасць у вершах Маракова, то можна было б падумаць, што гэта толькі "арыгінальнічанне". Але шчырасць вершаў прымушае рабіць такі вывад, што хворы настрой сапраўды ўласцівы паэту. Гэта хворасць дасягае найвышэйшага пункту ў самага кніжнага стопню чалавечай годнасці. Проста дзіву даешся, калі пралетарскі пясняр у вольнай краіне даходзіць да думкі самагубства. Ён разважае:

А мо, дзе сцелюцца туманы,
З асінай бруднай падружыць.
Каб не пачуць перад світаннем,
Аб чым пяюць штодня крыжы.

Калі ж гэта развага выклікана дысанансам душы паэта з эпохай, той самай дэкласаванасцю паэта, у якой апынуўся

ў свой час і Ясенін, і калі намёк на дружбу з бруднай асінай падобен да намёку:

В зеленый вечер под окном
На рукаве своем повешусь,-

то справа безнадзейная. Але па ўсім зборніку да такога вываду прыйсці нельга. Светазарнай радасцю і захапляючымі жыццё матывамі зборнік багацей, чым цёмным безнадзейным песімізмам. І трэба спадзявацца, што будучыня сваімі яскрава сонечнымі праменнямі праз чырвоную прызму сучаснасці праглыне сваім ззяючым бляскам гэтыя плямы. Бу-дзем чакаць і спадзявацца, што чорныя думкі аб бруднай асіне загінуць, як мара, як сон, і што не ў далёкім будучым пачуем, як сапраўды будзе залівацца стогалосы гармонік, кратаючы самае дно душы. Бо формай Маракоў уладае добра, шчырасці хапае, лексіка добрая, а стыль размалёван прыгожымі эпітэтамі і метафарамі.
Наогул зборнік робіць добрае ўражанне".

* З успамінаў А. Звонака:
"Першая кніжка вершаў маладога паэта сведчыла пра яго паэтычную сталасць, а не пра недаспелыя вучнёўскія практыкаванні. Было ў той кніжцы многа сонца і святла, многа шчырага пачуцця і любові да роднае зямлі, да яе людзей, былі ў ёй тыя крылы, без якіх сапраўднай паэзіі высока не ўзляцець. У кніжцы была сапраўдная паэзія, адсутнічала "паэтычная поза", кніжка ўся была прасякнута чыстым некранутым пачуццём маладога чалавека маладой эпохі.
"Пялёсткі" Валерыя Маракова былі прыхільна прыняты тагачаснай літаратурнай грамадскасцю, узаконьваючы тым самым не толькі знаходжанне паэта ў шэрагах "Маладняка", але і ў шэрагах набіраўшай сілы маладой савецкай паэзіі наогул. Праўда, не абышлося і без традыцыйнага свята "першай палучкі", калі ўвесь невялікі ганарар ад першай кніжкі ішоў на сняткаванне гэтай падзеі. А гэта значыць, што ва ўтульным доме бацькоў В.Маракова ў вядомым на сённяшні дзень Козыраве маладыя літаратары даволі гучна святкавалі выхад першай кнігі паэта..." (Маракоў. В. // Вяршыні жаданняў. Мн., 1989. С. 251).

З успамінаў С. Грахоўскага:
"Калі бушавала квецень, у далёкім 1926 годзе ў кнігарні майго палескага Глуска трапіла на вочы тоненькая блакітная кніжачка з пяшчотнаю назваю "Пялёсткі". Уверсе - імя аўтара: Валеры Маракоў. Такое імя і прозвішча я чуў упершыню. Падумалася: які прыгожы псеўданім. З малень-

кага партрэціка пазіраў яснавокі, светлавалосы, зусім юны прыгажун. Адгарнуў першую старонку і не мог адарвацца да апошняй. Купіць не было за што, але я сябраваў з сынам загадчыка кнігарні, і ён мне часта даваў на адну ноч тоненькія зборнічкі "маладнякоўцаў". З "Пялёсткамі" разлучацца не хацелася, выпрасіў у мамы 25 капеек і доўга насіўся з кніжачкай Маракова: маю неспакушаную душу зачароўвалі і хвалявалі меладычныя радасці жыцця і шчымлівай тугі першага нясмелага кахання.

Чытаў і дзівіўся, як ён разгадаў і выказаў мае патаемныя думы і пачуцці:

I ўжо тады пад белаю калінай
Нам будзе месяц сыпаць каласы.
I так, бывай, каханая дзяўчына,
Прыйду я хутка да цябе ў даліны
Упіцца свежасцю крамянае красы.

Радкі з "Пялёсткаў" станавіліся нашымі нясмелымі прызнаннямі ў запісачках, перададзеных у падручніках упадабаным аднакласніцам. І ў той жа "Фізіцы" Цынгера часам прыходзілі адказы з тых жа "Пялёсткаў":

Будзе песні нам пець зачараваны гай,
Будзе слухаць іх месяц і радасны край,
А мы будзем кахацца у полі.

Гэта была рамантыка, разбуджаная і акрыленая светлай паэзіяй амаль нашага равесніка Валерыя Маракова. "Пялёсткі" пераходзілі з рук у рукі, вершы перапісваліся ў патаемныя дзявочыя дзённікі" ("Голас Радзімы". 1998. 7 траўня).

## 1927

*І там над рэчкай і над полем*
*Я вып'ю раніцы зару,*
*Каб песняй радасці і волі*
*Праслаўіць свету Беларусь!*

"Цяпер ў грудзях другія словы..."

У перыядычным друку з'яўляюцца вершы:

СТУДЗЕНЬ

"Была восень у роднай краіне..." («Маладняк». № 1);
"Маўрытанка", "Гудкі" ("Полымя". № 1);
"Цяпер ў грудзях другія словы..." ("Чырвоная змена". 21 студзеня);
"На прыволлі" ("Чырвоны сейбіт". № 6-7).

ЛЮТЫ

"О, вясна..." ("Маладняк". № 2);
"Мой родны край. І зноў я тут!..." ("Чырвоны сейбіт". № 8-9);
"Мне хочацца любіць..." (Маладняк. № 3);
"У гэтай цемры бязрадаснай ночы..." («Полымя». № 3).

* З агляду паэзіі ў № 8-9 часопіса "Чырвоны сейбіт" (аўтар не пазначаны):


Язэп Мазуркевіч. 1920-я гг.


Аляксей Траецкі. 1920-я гг.


Алесь Вечар. 1920-я гг.



Сяргей Фамін.
1920-я гг.



Тарас Хадкевіч.
1920-я гг.



Уладзімір Прыбыткоўскі.
1920-я гг.

"...Затое сэрца радуецца, чытаючы вершы маладзейшых маладнякоўцаў-пачынальнікаў. Вершы І.Плаўніка, В.Маракова, Ю.Лявоннага, З.Бандарынай, У.Хадыкі, Н.Вішнеўскай і Маркава (Нэлі Маркавай. – *Л.М.*) сведчаць, што на мастацкім слове папярэднікаў узгадавалася і дужэе новая маладая літаратурная змена, якая даганяе, а часам і перасягае па ўдасканаленасці апрацоўкі, па глыбіні і якасці зместу наша "сярэдняе" літаратурнае пакаленне – першых закладчыкаў часопіса "Маладняк".

* З 24 лютага па 3 сакавіка праходзіць перарэгістрацыя "Маладняка". В.Маракоў працягвае з'яўляцца сябрам аб'яднання, старшынёй якога быў М.Чарот, сакратаром В.Сташэўскі. Пасля перарэгістрацыі "Маладняк" налічвае 60 сяброў:

А.Александровіч, Г.Базыленка, З.Бандарына, І.Барашка, Я.Бобрык, П.Броўка, Х.Бужан, А.Валошка, В.Верас, А.Вечар, Н.Вішнеўская, П.Галавач, Э.Галубок, М.Ганчарык, В.Гарбацэвіч, Ю.Гаўрук, Герасімовіч, А.Глінская, С.Голуб, К.Губарэвіч, М.Дубовік, А.Дудар, У.Жылка, З.Жыткевіч, М.Зарэцкі, А.Звонак, Я.Івашын (псеўд. Янка Журба), У.Кавалёў, В.Каваль, В.Казлоўскі, М.Каспяровіч, Т.Кляшторны, М.Лынькоў, Я.Мазуркевіч, В.Маракоў, А.Мардвілка, Н.Маркава, А.Моркаўка, Р.Мурашка, А.Мялешкіна, М.Нікановіч, Я.Падабед, Х.Паўлоўскі, І.Плаўнік, У.Прыбыткоўскі, Я.Пфляўмбаум, А.Траецкі, П.Трус, Я.Туміловіч, С.Фамін, Т.Хадкевіч, У.Хадыка, Я.Хмель, С.Хурсік, С.Шушкевіч, Л.Юркевіч (Лявонны), А.Якімовіч.

КРАСАВІК

* З пратакола № 6 пасяджэння Цэнтральнага Бюро Усесаюзнага аб'яднання паэтаў і пісьменнікаў "Маладняк" (6 красавіка).

М.Чарот: "...Аўтарытэт філій ("Маладняка". – *Л.М.*) расце. Наглядаецца падтрыманне з боку мясцовых органаў, якія вызначаюць сродкі на выданне часопісаў, альманахаў... Выходзіць з друку зборнік Кляшторнага, здан у друк зборнік Каваля. Выдан зборнік Маракова, у рэдкалегіі знаходзяцца зборнікі Кляшторнага, Маракова, Бандарынай (калектыўны) і Маракова асобны, трэці зборнік..." (надрукаваны не будзе. – *Л.М.*).

А.Александровіч: "...Філія ўзнімае пытанне аб прадастаўленні працы таму, каго бюро два разы пасылала ў Полацк і Клімавічы[1]. Чаму Маракоў не хоча працаваць на акрузе?.."

А.Дудар: "Упадніцкія настроі ў творчасці Маракова і Кляшторнага ідуць усё далей і далей..."

Кіраўнік менскай філіі Я.Бобрык: "...Просім даць працу В.Маракову..."

М.Каспяровіч: "...Маракоў выезд на акругу лічыць, мусіць, занізкім для сябе..."

Пастанавілі: "...Яшчэ пры перавучоце (24 лютага – 3 сакавіка 1927г. – *Л.М.*) было адзначана: звярнуць увагу на выхаванне Кляшторнага і Маракова... выключыць з аб'яднання: Маракова, Кляшторнага, Звонака, Я.Туміловіча, І.Плаўніка, Бобрыка, Каваля...

Часовым кіраўніком (менскай філіі. – *Л.М.*) вызначыць т.Александровіча".

ТРАВЕНЬ

* З пратакола № 8 пасяджэння ЦБ "Маладняка" (ад (4 мая):

"Камандзіраваць на ўкраінскі з'езд пісьменнікаў "Плуг" А.Александровіча і А.Дудара...

Лічыць Маракова і Каваля членамі "Маладняка"[2].

Задавальніць заяву Дудара аб прызначэнні Маракова сакратаром часопіса "Маладняк", замест знятага Туміловіча.

...Аб пасылцы на экскурсію ў Ленінград... Паслаць 7 чалавек "маладнякоўцаў".

---

[1] В.Маракоў знаходзіўся ў Полацку ў лістападзе 1926 г. і ў Клімавічах у лістападзе 1925 г., апрача таго, у красавіку-жніўні 1926 г. паэт быў камандзіраваны ў Сцяпянку і Сакалянку, а ў лютым 1927 г. у Гарбачова.

[2] "Вяртанне" было здзейснена па прапанове Алеся Дудара.



Платон Галавач
1920-я гг.

* З 12 па 27 траўня В.Маракоў у складзе групы беларускіх пісьменнікаў (В.Каваль, М.Нікановіч, І.Барашка, С.Баркоўскі, С.Шушкевіч), якую ўзначальваў П.Галавач, знаходзіўся ў Ленінградзе. Творчая камандзіроўка была наладжана рэдакцыяй газеты "Чырвоная змена" і Народным Камісарыятам асветы. Пісьменнікі пабывалі ў Царскім Сяле, азнаёміліся з сусветна вядомымі музеямі, палацамі, гістарычнымі мясцінамі. Была арганізавана паездка ў Кранштат, на Волхаўскую гідраэлектрастанцыю, на металургічны і суднабудаўнічы заводы, пісьменнікі наведалі рэдакцыі газет і часопісаў.

В.Маракоў называў гэтую экскурсію сваім першым універсітэтам. Ён выступаў з вершамі на заводах і фабрыках, перад матросамі на лінкоры "Парыжская камуна". Адбылося знаёмства з ленінградскімі пісьменнікамі, вершы В.Маракова, перакладзеныя на рускую мову Л.Лаўровым, друкаваліся ў ленінградскіх газетах.

* У газеце "Чырвоная змена" за 1 чэрвеня друкуецца справаздача аб паездцы ("Маладнякоўская ўдзячнасць").



Захар Бірала.
1920-я гг.



Якаў Бранштэйн.
1920-я гг.



Міхась Ганчарык.
1933 г.



Беларускія пісьменнікі ў складзе групы моладзі на экскурсіі ў Ленінградзе. Пяты справа В. Маракоў. Травень 1927 г.

* В.Маракоў піша аповесці "Па рэйках" і "Трагедыя акцёра" (паведамленне ў № 5 "Маладняка").

ЧЭРВЕНЬ – ЖНJВЕНЬ

* Н.Чарнушэвіч разам з Я.Бобрыкам, А.Гурло, А.Звонакам, Т.Кляшторным, І.Плаўнікам, Я.Туміловічам і М.Хведаровічам арганізоўваюць новае літаратурнае аб'яднанне "Пралетарска-сялянская беларуская літаратурная суполка" ("Пробліск").

* У гэты ж час П.Шукайла арганізоўвае "Беларускую літаратурна-мастацкую камуну" (існавала з верасня 1927г. да траўня 1928г.), у якую ўвайшлі А.Атава, П.Броўка, Я.Відук (Я.Скрыган), А.Гародня, У.Прыбыткоўскі, М.Шалай, У.Варава і інш.

Абодва аб'яднанні аказаліся недаўгавечнымі. Часопіс "камуны" "Росквіт", дзе П.Шукайла бязлітасна крытыкаваў маладнякоўцаў, "пратрымаўся" ўсяго чатыры месяцы. Аб'яднанне "Пробліск" праіснавала каля года. У канцы мая 1928 г. многія зноў вярнуліся ў "Маладняк".

* Друкуюцца вершы В.Маракова:
"Памяці Сака і Ванцэці" ("Звязда". 24 жніўня);
"Маці" ("Маладняк". № 7-8).



У першым радзе (злева направа): Алесь Гародня, Янка Відук (Я. Скрыган.); у другім радзе: Уладзімір Варава, Паўлюк Шукайла, японскі пісьменнік Удзяко Акіта, Макар Шалай.


Віктар Казлоўскі. 1920-я гг.

* "Восем маладых паэтаў: Паўлюк Трус, Валеры Маракоў, Віктар Казлоўскі, Сяргей Дарожны, Максім Лужанін, Пятро Глебка, Тодар Кляшторны і Янка Бобрык распачалі працаваць над вялікай агульнай паэмай з сучаснага грамадскага і культурнага жыцця. Гэта паэма спачатку будзе надрукавана ў "Полымі" (надрукавана ў "Полымі" не будзе. – *Л.М.*), а потым асобнай кніжкай" (паведамленне "Маладняка". № 7-8).

Пра лёс аднаго з аўтараў, Віктара Казлоўскага, згадвае С.Грахоўскі:

"Быў у мяне сябар, выдатны паэт Віктар Казлоўскі, які ў 30-я гады звар'яцеў ад допытаў, - у яго з'явілася манія праследавання. Перад самай вайной ён ляжаў у другой клінічнай больніцы, і яго неабходна было адправіць лячыцца ў Маскву[1]. Каб не было праблем у час паездкі, яго вырашылі падмануць: сказалі, што выклікаюць у Маскву на пленум Саюза пісьменнікаў. Апранулі Казлоўскага як найлепш - касцюмчык, гальштук... Суправаджаць яго ўзяліся Мар'я Канстанцінаўна (Хайноўская.— *Л.М.*), загадчыца нашага медпункта, і дырэктар літфонда Левін. Прыехалі яны ў Маскву, на Канатчыкаву дачу, і тут Казлоўскі зразумеў, што да чаго. Мар'я Канстанцінаўна пайшла афармляць дакументы, а да Казлоўскага, таму што ён быў добра апрануты, падышоў урач і пацікавіўся, па якім пытанні яны прыехалі. Казлоўскі яму ціха кажа, што, маўляў, яны прывезлі да іх у больніцу звар'яцелага Левіна. Урач яму паверыў, кіўнуў санітарам, і тыя ўмомант засунулі Левіна ў палату. Пазней прыйшла Мар'я Канстанцінаўна, і ўсё, вядома, зрабілі наадварот" (успаміны зберагаюцца ў асабістым архіве Л.Маракова.).

ВЕРАСЕНЬ - СНЕЖАНЬ

* З ліста (за 12 кастрычніка) П.Глебкі П.Трусу[2]:

"На днях я, Маракоў і Кляшторны былі ў Воршы і Віцебску – Наркамасветы пасылаў ладзіць літвечары. Правялі

[1] Па сведчанні П.Пруднікава і А.Махнача (апошні ў "ЛіМе" за 24 чэрвеня 1994 г. выказвае іншую версію "падарожжа ў Маскву" ), разам з В.Казлоўскім у Маскву быў адпраўлены і І.Плаўнік, які таксама звар'яцеў на допытах.

[2] БДАМЛіМ. Ф. 404 (неапрацаваны).

нішто вечары і пагулялі добра... Далі нам 120 руб., дык у Віцебску праз 3 дні, як выехалі з дому, і не хапіла. Патрабавалі тэлеграмай дабаўкі – выслалі..."

* Надрукаваны вершы:
"Дзесяць год" ("Савецкая Беларусь", 11 верасня); "Кастрычнік" ("Чырвонае Палессе", 7 лістапада; варыянт верша "Тыя дні").

* Выходзіць другі паэтычны зборнік В.Маракова "На залатым пакосе".

Змест зборніка "На залатым пакосе":

1. "З ценямі думкі..."
2. "Хрыпла гудок прагучэў..."
3. "Песняй звонкай..."
4. "У гэтай цемры..."
5. "О, вясна..."
6. "Была восень..."
7. "О, выходзь, маладняцкая раць..."
8. Маркітанка Сігарэт.
9. Я прыйду.
10. Адказ.
11. "Мне хочацца любіць..."
12. Яшчэ адна.
13. За што?
14. Сястры Ніне.
15. Жаданне.
16. Я не кахаў.
17. "Палюбіў я асенняе ранне..."
18. "Ты не знаеш, Ніна..."
19. Паэтам.
20. "Помніш ты..."
21. Здароў, мой таварыш..."
22. "Срэбны месяц..."
23. "Цяпер у грудзёх..."
24. Вясной.
25. "Патанаюць далі..."
26. У лесе.
27. "Добры дзень..."
28. З белых начэй.
29. На прыволле.
30. Ноч запаліла.
31. Летуценні.
32. Маці.
33. "Белае зімняе поле..."

З успамінаў С. Шушкевіча:

"У сувязі з выхадам зборніка "На залатым пакосе" ўспамінаецца наступнае. Гэта было на пачатку восені. Разам з Валерыем Мараковым мы пабывалі ў кіраўніка Дзяржаўнага выдавецтва Цішкі Гартнага. Валеры Маракоў атрымаў аўтарскія экземпляры зборніка "На залатым пакосе", а я прынёс рукапіс перакладу невялічкай брашуры. Валеры быў добра знаёмы з Гартным і падараваў Гартнаму свой зборнік "На залатым пакосе" з шчырым і цёплым аўтографам. Цішка Гартны адказаў узаемнасцю: выняў са стала першы том рамана "Сокі цаліны" і размашыста надпісаў" («Роднае слова». 1998. № 11. С. 192).

* Выходзіць рэцэнзія Ант.Адамовіча на кнігу вершаў "На залатым пакосе" ("Узвышша". № 6):

"Маракоў у другім зборнічку больш аддае ўвагі тэмам жыцця, чым тэмам прыроды. Гэта сведчыць пра набліжэнне Маракова да жыцця, што відаць хоць бы з супастаўлення саміх назоваў адпаведных раздзелаў: у "Пялёстках" – "Летуценні", у "На залатым пакосе" – "У разгары жыцця".

Пра гэтае сваё набліжэнне да жыцця кажа і сам Маракоў ужо ў першым вершы зборнічка: "Будзе мне блізкай далёкая песня вольных прыбояў жыцця...", а ў другім вершы проста заяўляе: "Хараша пець у жыцці...". І гэтае набліжэнне, безумоўна, з’яўляецца значным крокам наперад у параўнанні з упадніцка-песімістычным настроем адмаўлення жыцця ў першым зборнічку, бо цяпер Маракоў ужо не толькі сам ведае, што "ў жыцці калі ў што-небудзь верыш, то йшчэ можаш цвісці і гарэць", але нават і другім настойна раіць: "Вер і жыві". Факт жа гэтага набліжэння да жыцця цалкам адкідае лямант некаторых "радетелей" пра тое, быццам бы нехта Маракова "спудзіў" – "на першых жа кроках яго творчасці аглушыў і яшчэ далей загнаў у тыя ж нетры...", з якіх "ці выберацца ён цяпер...". Як бачым са зборніка, Маракоў з гэтых нетраў блізка што зусім "выбраўся" і безусякае дапамогі сваіх апекуноў. Ён прызнаецца:

Была восень у роднай краіне,
Гаварыла мне шчырасць не раз
Гэту песню халодную кінуць
І квітнець, расквітаць, не згараць.

Маракоў кажа, што цяпер ён:

...інакшую долю спазнаў.
Што ў другіх у змаганні за хлебам

Адцвітае жыццё і вясна,
Што другім,
Хто у цемры асенняй
Аддаюць сваё цела й душу,
Досыць толькі
Узняць смелы шум,
І тады
Там, дзе грызліся зверы,
Нельга будзе душою хварэць...

Ён знае, што:

Калі нехта ляжыць на кургане, -
Значыць, працы будзённай не знёс.

Але, разам з тым, у яго яшчэ часам пракідаюцца паасобныя сляды ранейшае позы. Часам ён яшчэ заяўляе па-ясенінску: "...нічога не хочу і нікога спаткаць не магу" або хоча ўпэўніць чытача, што "ў жыцці... ведаў многа слёз і гора". Асабліва гэта выяўляецца ў "гарэнні", якім абхоплены блізу ўсе вершы зборнічка і якое са скінуццем маскі ўпадніцкага песімізму з'яўляецца бязмэтным. Так, калі у адным вершы і сам Маракоў кажа, што ён хоча "не згараць дарма", дык у іншых сцвярджае наадварот: "Толькі й я хацеў бы так згараць", "быццам я згараю ў песенным агні", "і давай гэтак разам згарым", "разам з любай сваёй дагараць"...

Зборнік "На залатым пакосе" сведчыць, што пакуль у яго яшчэ даволі мала практыкі, што пакуль ён яшчэ ўсё-такі не "ў разгары жыцця". Найбольш поўна ў яго паказаны пакуль што асабістае жыццё і асабліва каханне, пра якое ён кажа: "Я яму толькі шчырасць аддам, я яго не спаткаю ў тумане". Але і вершы пра каханне ў значнай ступені яшчэ прыкрыты тою "паўмаскаю гарэння", пра якую вышэй гаварылася. Няма тут яшчэ і пэўнага аб'екту, хоць у некаторых вершах Маракоў называе сваю каханую Нінай ("Я прыйду...", "Ты не знаеш, Ніна..."). Адылі, у адным вершы ён называе Нінаю і сваю сястру[1] ("Сястры Ніне"), а да таго ж, як відаць з верша, - нябожчыцу. Сам жа верш паводле рытму, строфікі і нават дубальтавання паасобных вобразаў ("жыццё-вясна, адшуміць, адзвініць, змоўкне, бы струна") набліжаецца да верша "Ты не знаеш, Ніна", дзе выразна праглядае каханне, і таму атрымоўваецца некаторая блытаніна.

У дачыненні да іншых людзей Маракоў часам упадае і ў містыку:

---

[1] Сястра В.Маракова Ніна (нарадзілася ў 1912(?)г.) памерла ў

Але нешта ў далях, нешта ў свеце ёсць,
Часта сэрца труціць невясёлы лёс.

І далей:

Знаю сягоння – буду хутка там.
Толькі радасць песні для жыцця аддам.

*(Верш "Сястры Ніне")*

Або:

Упала маці з плачам, з крыўдай на калені,
І вобраз маткі бачыла другой...

*(Верш "Маці")*

Дачыненні яго да грамадства, грамадскія матывы яго лірыкі таксама яшчэ мала выяўлены. Грамадскую ідэалогію Маракова пакуль што можна азначыць, як наіўны ідэалізм.

Ён хоча

...зрываць з другіх аковы,
Дабром за ўсё, дабром за ўсё плаціць!

Або:

З другімі марыць і другіх любіць.

Наогул, усе вершы першага раздзелу зборніка прасякнуты пераканаьннем, што "жыццё - вясна", і сведчаць аб малой жыццёвай загартаванасці аўтара, аб літаратурнасці крыніц большасці яго вершаў (асабліва "Маркітанка Сігарэт", "Помніш ты", "Маці" і інш.).

Тэма другога раздзелу - прырода - больш знаёма Маракову. У апяванні яе ён хоча зусім нават ухіліць сваю асобу:

---

падлеткавым узросце на адным тыдні з малодшай сястрой Наташай (нарадзілася ў 1916(?)г.) ад дыфтэрыі.

*Быць можа, цяпер пры агні на закаце*
*Яе ўспамінае*
*І бацька,*
*І маці,*
*І моляцца доўга і палка удвох,*
*Каб лёс іх дачку маладую збярог.*
"Цыганка".

...Каб на прыволлі,
Пры даліне
Хто-небудзь выйшаў і сказаў,
Што тыя песні
Для краіны
Складалі возера й лаза,
А я? —
Я толькі іх падслухаў...

Што да фармальнага боку, дык трэба заўважыць: пападаюцца зрэдку дыстыхі ясенінскага тыпу — "Шаганэ, ты мая, Шаганэ", якія ўжо так прыеліся ў нашай паэзіі..."

* У канцы года "Аб’яднанне пісьменнікаў "Маладняк" і Наркамат асветы БССР накіравалі В.Маракова на вучобу ў Менскі Белпедтэхнікум імя У.Ігнатоўскага, але пасля двух курсаў (у 1929г.) яго адазвалі з вучобы і прызначылі загадчыкам літаратурнага аддзела газеты "Савецкая Беларусь"[1], дзе ён і працаваў з невялікім перапынкам да канца 1930 года.

* З успамінаў С.Шушкевіча:

"Валеры паступае ў Белпедтэхнікум і ўжо пачынае прыносіць мацеры сваю невялічкую стыпендыю. Тут ён слухае


Усевалад Ігнатоўскі. 1920-я гг.


Язэп Лёсік. 1920-я гг.


Антон Лёсік. 1920-я гг.

[1] З успамінаў Э.Агняцвет (газ. “Культура”. 1998. 27 чэрв.) вядома, што да паступлення ў Менскі Вышэйшы Белпедінстытут (1931) “В.Маракоў паспеў скончыць Беларускі педагагічны тэхнікум”.


Якуб Колас.
1920-я гг.


М. Рыдзееўскі.
1920-я гг.


Аляксандар Круталевіч.
1920-я гг.

лекцыі вядомых пісьменнікаў Якуба Коласа і Міхайлы Грамыкі, вучоных Алеся Круталевіча, Міхаіла Рыдзееўскага і інш. Неўзабаве пра яго пачалі гаварыць і як пра паэта. Яго творы заўважылі Кузьма Чорны, Язэп Пушча. Міхась Чарот прарочыць юнаку сонечную будучнасць. Вядомыя пісьменнікі старэйшага і малодшага пакалення - Паўлюк Трус, Пятрусь Броўка, Алесь Дудар, Васіль Сташэўскі, Максім Лужанін - прыхільна ставіліся да творчасці Валерыя Маракова і былі звязаны з ім шчырым і моцным сяброўствам.

Маракова акрыляў бацькоўскай ласкай і прыхільнасцю Янка Купала. Народны паэт не раз запрашаў да сябе юнака на сваю кватэру і цешыўся яго першымі творчымі крокамі, даў паэту не адну сваю кнігу з цёплым і шчырым аўтографам" («Роднае слова». 1998. № 11. С. 192).

* З успамінаў П. Пруднікава:

"З вялікай сімпатыяй і любоўю адносіўся да Маракова Якуб Колас. Апошні часта запрашаў яго разам з сабою на сустрэчы з чытачамі. На адной з такіх сустрэч прысутнічаў і я. Гэта было ў Белпедтэхнікуме, дзе да гэтага народны паэт выкладаў методыку беларускай мовы. Скажу шчыра, што я па-сяброўску шчыра зайздросціў Валерыю, калі яго вызывалі на біс!" (Пруднікаў П. // Маладосць. 1998. № 12. С. 196-209).

* Каб зразумець тагачасную атмасферу, якая існавала ў тэхнікуме, прывядзём урывак з цытаванай ужо аўтабіяграфіі Антона Адамовіча:

"Безусловно, необходимо остановиться на Белпедтехни-

куме. В одной из своих литературных работ[1] я охарактеризовал техникум того времени как кузницу белорусских литературных кадров... Гораздо правильнее было бы характеризовать это заведение как кузницу националистических кадров... На уроках языка нам говорилось, что белорусский язык – самый древний, самый чистый и благозвучный, что Белоруссия вполне может существовать как самостоятельное географическое, экономическое и государственное целое. На уроках истории в печальных красках рисовалось прошлое страны, всячески угнетавшейся ее соседями и с запада и, особенно, с востока и яркими красками рисовалось счастливое будущее независимой, "незалежнай" Белоруссии. На уроках литературы показывалось славное прошлое белорусской письменности, появившейся раньше, чем у восточных соседей, и в рукописном и в печатном виде (знаменитый нацдемовский "святой", пионер книгопечатания - Франциск Скорина), и также рисовались богатейшие перспективы будущего, в котором белорусская литература необходимо должна стать выше всех существующих и существовавших литератур. Преувеличивалось и раздувалось белорусское литературное "возрождение" – "адраджэнне" (Нацыянальны архіў Беларусі. Ф. 569. Воп. 1. Спр. 7).



Уладзімір Сядура. Рыга, 1944 г.

А вось што пісаў у сваёй аўтабіяграфіі пра Менскі Белпедтэхнікум Уладзімір Сядура (Глыбінны) у снежні 1943г.:

"Трэба адзначыць велізарную ролю Менскага Беларускага Педагагічнага тэхнікума ў выпрацаванні літаратурных кадраў. Гэта была свайго роду і літаратурная Акадэмія, у якой праходзіла навучанне шмат беларускіх пісьменнікаў, як Андрэй Александровіч, Алесь Дудар, Максім Лужанін, Паўлюк Трус, Рыгор Казак, Сцяпан Ліха-дзіеўскі, Антон Адамовіч, Сергей Дарожны, Лукаш Калюга, Сяргей Астрэйка, Сяргей Гайка, Васіль Гінтаўт, Сяргей Русаковіч, Язэп Лешчанка (М.Кавыль. – *Л.М.*), Уладзімір Гуцька (У.Дудзіцкі. – *Л.М.*) і інш. На літаратурныя вечары і дыспуты, ладжаныя літаратурным гуртком[2],

---

[1] Адамовіч Ант. “Паўлюк Трус” // Узвышша. 1929. № 7.

[2] Старшынёй літаратурнага гуртка ў той час быў В.Маракоў, якога У.Сядура не згадвае ў сваёй аўтабіяграфіі сярод тых, хто вучыўся ў тэхнікуме, нягледзячы на тое, што “Уладзімір (Сядура. – Л.М.) пачаў друкаваць свае першыя літаратурныя спробы ў літаграфаваным часопісе “Крыніца”, што выдаваўся Валерыем Маракавым” (Л.Юрэвіч “Архіўная кніга”. Нью-Ёрк, 1997).



Менскі Белпедтэхнікум. 1927 г.

сюды прыходзілі і выступалі многія знаныя пісьменнікі і крытыкі. Гэта асабліва падагравала зацікаўленасць да літаратуры і штурхала многіх маладых студэнтаў брацца за пяро і выпрабоўваць свае літаратурныя таленты. З Менскага Белпедтэхнікума выйшла шмат маладое беларускае інтэлігенцыі, тае эліты, якая пазней станавіла галоўную турботу органаў НКВД і амаль уся была выслана ў канцлагеры" (Нацыянальны архіў. Ф. 460. Воп. 1. Спр. 3-4. Арк.7).

* "Я сядзеў за партай, слухаў лекцыі пра беларускую мову Антона Лёсіка, пра беларускую літаратуру – Алесі Александровіч, пра "до-рэ-мі-фа-соль" – нейкага Яфімава, а пазней спяваў у хоры Тэраўскага, запісаўся ў літаратурны "кружок", дзе часта спрачаліся Алесь Кучар, Максім Лужанін і студэнты старэйшых класаў: Ул.Сядура, Л.Калюга, С.Астрэйка і інш..." (М.Кавыль. "Казённы дом і далёкая дарога" // Запісы. 1992. №20).

* З успамінаў С. Грахоўскага:

"У 1933 г. арыштоўваюць Ліхадзіеўскага, Таўбіна, Астапенку, Лужаніна, Нікановіча, Калюгу, Астрэйку, Сядуру. Апошняму далі два гады ссылкі. Пасля ён з"явіўся ў Менску. Тады па Савецкай вуліцы (цяпер праспект Ф.Скарыны) хадзіў трамвай, які заварочваў на вуліцу Энгельса, вы-



У першым радзе (злева направа): Сяргей Хмара , Масей Сяднёў;
у другім радзе: Валянцін Таўлай, Тодар Лебяда, Алесь Салавей,
Уладзімір Сядура, Хведар Ілляшэвіч, Андрэй Чэмер.
Менск, 1944 г.

ходзіў на плошчу Свабоды і ўніз па вуліцы Бакуніна, праз мост на Старажоўку.

Неяк летам, іду я па вуліцы, міма праходзіць трамвай з адчыненымі вокнамі. Гляджу, Валодзя Сядура сядзіць. Я памахаў яму і на наступным прыпынку ён выскачыў. Мы сустрэліся, абняліся, як сябры, і я запрасіў яго да сябе.



Юлі Таўбін.
1920-я гг.



Сцяпан Ліхадзіеўскі.
1931 г.



Міхась Кавыль.
1943 г.

Тады я толькі атрымаў пакойчык у "засыпаным" доме па вуліцы Цнянскай, якраз насупраць дома быта, дзе ўжо канчаўся горад. Дома ў мяне былі выдатныя грушы, і мы адзначылі імі сустрэчу...

У час вайны Сядура быў у Менску. Потым, ведаючы, што яго чакае, уцёк за мяжу. Там ён стаў прафесарам, напісаў вялікую кнігу пра беларускі тэатр. Калі П.Глебка ездзіў на сесію ААН у Амерыку, ён прывёз яе." (Успаміны зберагаюцца ў асабістым архіве Л.Маракова.)

* Да канца 1927 г. В.Маракоў працягвае працаваць сакратаром рэдакцыі часопіса "Піянер Беларусі".

Ёсць лепшы свет
Напружнай творчай працы.
Ёсць сонца, песні, ёсць вясна...
Ёсць шчасце йсці,
І верыць,
І змагацца,
І вольнай думкай ў творчасці
Лунаць.

*"Ёсць лепшы свет..."*

# 1928

*Я песні прынёс іх*
*З далёкага поля,*
*З далёкага поля іх ласку прынёс.*
*Рабінавай ноччу*
*Ўзняў зорныя пчолы*
*З эмалевай далі трывожных нябёс.*

"З Рабінавай ночы"

СТУДЗЕНЬ — ЛЮТЫ

* "Выходзіць і выйшлі з друку ў выданні ЦБ "Маладняка": Лынькоў – зборнік апавяданняў, Ал.Дудар – зборнік апавяданняў "Марсельеза", В.Маракоў – "На залатым пакосе", Гародня – "На крэсах" (раздзел "Хроніка" // Маладняк. № 1).

* З успамінаў С. Грахоўскага:

"На пачатку 1928 года мая стрыечная сястра Маруся павезла ў Менск двум братам падмацунак з каляднай свежыны. Старэйшы ўжо быў урачом, а другі, Янка Бобрык, — студэнтам універсітэта. Я нецярпліва чакаў Марусю з сталіцы: хацелася даведацца пра Янкавых сяброў-паэтаў, пра кіпучае, як я чуў, літаратурнае жыццё сталіцы: у друку ішлі спрэчкі паміж "Маладняком" і "Узвышшам", Тодар Глыбоцкі бэсціў Дубоўку. Ужо гучаў грозны бас Бэндэ.

Вярнуўшыся, Маруся расказала пра знаёмства з Валерыем Мараковым: "Ішлі мы з Янкам па Савецкай вуліцы, а насустрач — высакаваты прыгожы хлопец у караткаватым палітончыку і кепцы, ружоавашчокі з марозу. Ідзе і здалёк усміхаецца Янку. Спыніліся, Янка пазнаёміў нас. Валеры гаварыў нешта прыемнае мне, а я слухала яго нягучны пявучы голас і дасціпныя жарты. Далей пайшлі разам. Яны гаварылі пра свае маладнякоўскія клопаты, пра Чарота, Александровіча, Пушчу, Труса, успаміналі нейкія смешныя гісторыі. Развіталіся на рагу Садовай, і Валеры пабег у свой тэхнікум".

Я зайздросціў Марусі, што сустракалася з любімым мною паэтам, і марыў калі-небудзь трапіць у сталіцу і пабачыць жывых пісьменнікаў, а можа нават, удасца сустрэць Купалу і Коласа" («Голас Радзімы». 1998. 7 мая.).



Цішка Гартны.
1930-я гг.

* У студзені па ініцыятыве Ц.Гартнага арганізоўваецца новае літаратурнае аб’яднанне "Полымя". У яго ўвойдуць былыя заснавальнікі "Маладняка": А.Александровіч (ненадоўга. – *Л.М.*), А.Вольны, А.Дудар, М.Зарэцкі, В.Сташэўскі, М.Чарот і старэйшыя пісьменнікі – Я.Колас, Я.Купала, У.Галубок, Ц.Гартны і інш.

* Выходзяць рэцэнзіі П.Шукайлы на зборнікі В.Маракова "Пялёсткі" і "На залатым пакосе" ("Росквіт". 1927. № 1; 1928. №2). Прыводзім вытрымкі:

"...Паэты пяшчотных струн, ледзяных гітар, пярыннага блажэнства і літаратурнай пустазвоніцы, – гэтую групу складаюць: Паўлюк Трус, Яз.Пушча, Сяргей Дарожны, Валеры Маракоў і інш...

Валеры Маракоў стаў членам літаратурнай сям’і ў дні, калі "мастацтва для мастацтва" з яго "лідэрамі" гвалтам лезла ў беларускую літаратуру. У дні, калі група людзей,



Менск, вул. Савецкая. 1920-я гг.
Мастак А. Тычына.

што згубілі сцежку ў нашае сёння, адарваліся ад яго і пачалі шукаць "збавення ў чыстай "непарочнай" пекнаце нябёс.

В.Маракоў з першых шагоў выявіў сябе як паэт, які цалкам успрыняў гэтае літаратурнае рыззё за аснову ўсёй творчасці, які ўзяў Надсана, Ясеніна, зборнікі старых рамансаў і на іх нотах, матывах пабудаваў сваю песню.

...В.Маракоў мае сваяцтва з Паўлюком Трусам, калі не "перещеголял" яго. Сляпы да нашай сучаснасці, ён успрымае пушчанскія настроі і жыве імі:

...Не магу... не магу і не знаю,
з кім дружыць і каго абнімаць,
ці забыцца на сінім кургане,
ці каменне зубамі ламаць.

... - 17–цігадовы юнак Маракоў кідаецца на курган – сымбаль мінуўшчыны - "каменне зубамі ламаць..."

* З успамінаў С. Грахоўскага:

"Шукайла, камсамолец з Заходняй Беларусі, які пісаў вершы пад Маякоўскага. Нябожчык Віталь Фрыдрыхавіч Вольскі быў начальнікам ці намеснікам начальніка заставы ў Дзяржынску, і ўсіх перабежчыкаў прыводзілі да яго. Ён мне расказваў: "Прывялі рыжага хлопца ў світцы, у лапцях з торбаю. "Што там? Бумагі нейкія? - Вершы. - Вершы? Ты што, вершы пішаш? - Пішу, я ж паэт. – А звать цябе як? - Шукайла". Ну і адпусцілі яго. І ён тут пачаў ствараць так званую літаратурную камуну. Ён галасісты быў, крыкун, нахабны, бесцырымонны. Выступаючы на вечарах, Шукайла граміў усіх, хто не пісаў пад яго, так званым маякоўскім стылем: "Што гэта за паэзія пад балалайку, вось трэба па-маякоўскаму - лесвічкай". Хоць да Маякоўскага яму, як да нябёс, але гэта валтузня такая йшла арганізацыйная, ствараліся розныя групы. У гэтую літаратурную камуну за ім пайшлі Броўка, Скрыган, быў такі Рыгор Казак, у Любані ў вёсцы Пласток жыў паэт Апанас Атава і нават заехаў у Менск нейкі японец Удзяку Акіта[1] - дык і яго прывезлі ў гэту літаратурную камуну. Мне Скрыган (ён быў правай рукой гэтага Шукайлы) расказваў, як яны арганізавалі гэтую групу. У пакоі Шукайлы "падаслалі кажух, усе ляглі і так абмяркоўвалі гэтую сваю дэкларацыю". Шукайла сабраўся і пайшоў у Савет Міністраў. Прыйшоў туды і гаворыць: "Вось мы ствараем новую групу, якая будзе стаяць на абароне сацыялістыч-

[1] Удзяку Акіта прыязджаў у Менск у лютым 1928 г.

нага ладу. Будзем весці барацьбу са ўсякім упадніцтвам. Літаратурная камуна! Адна назва чаго варта". Галадзед тады пытае: "А што хочаце?" -"Трэба грошы, бо часопіс будзем выдаваць". - "Які часопіс?" - "А мы ўжо і назву маем, — "Росквіт". - "А колькі вам трэба?" - "Ну, на першы нумар..."

Галадзед даў 2 тысячы рублёў. Тады гэта вялікія грошы былі. Вось так выдалі яны два нумары гэтага часопіса са сваімі партрэтамі, а С.Дарожны[1] напісаў на П.Шукайлу эпіграму: "Выйду я на сенажаць ды з нагана ў жабу бац". Ледзь не да суда дацягнуў яго Шукайла "за абразу асобы". Пасля ён пайшоў па партыйнай лініі. Быў першым сакратаром райкома партыі ў Слуцку. Там ён арганізаваў газету і ўзяў Скрыгана ў яе працаваць. Пасля яго перавялі ў Расоны на пасаду сакратара райкома. Скрыган мне расказваў, у яго ў кабінеце вісела два партрэты: Маркса і Шукайлы, г.зн. яго самога. Ён і Скрыгана перацягнуў туды. Пасля Шукайла (а быў ён авантурыстам вялікай хваткі) пісаў нейкія дысертацыі, але якая гэта была навука? У выніку распалася гэта яго камуна. Ён быў у Маскве, а затым, калі ў Ленінградзе была арганізавана акадэмія мастацтвазнаўства, ён стаў рэктарам гэтай акадэміі. Ён забраў туды Звонака, Бобрыка, Бандарыну. Яны там працавалі. Пасля ён знік. Мне Бобрык расказваў, што яго, як крымінальніка, судзілі за фінансавыя махінацыі. А вось цяпер, у апошнім даведніку ("Беларускія пісьменнікі. Біябібліяграфічны слоўнік". Т.6. С.387. – *Л.М.*), з'явіўся і Шукайла" (з асабістага архіва Л.Маракова).



Аркадзь Мардвілка. 1928 г.

* З рэцэнзіі А. Мардвілкі на зборнік В.Маракова "На залатым пакосе" ("Чырвоны сейбіт". 1928. № 1; пад крыптанімам А.М.):

"Зборнік нам гаворыць аб тым, што паэт працуе над сабой, пашырае тэматыку сваіх вершаў і старанна іх апрацоўвае з боку формы, а самае галоўнае - гэта той факт, што творчасць яго ідзе шляхам паступовага развіцця...

Кожны, хто цікавіцца літаратурай, прачытае новы зборнік Валерыя Маракова з вялікай прыемнасцю, а часам і з захапленнем".

* З рэцэнзіі В.Вераса "Полымя". 1928. № 1):

"Зборнік "На залатым пакосе" – гэта новы падарунак

---

[1] Па іншых звестках — А. Дудар.

маладога таленавітага беларускага паэта, гэта – новая, моцная і прыгожая цагліна ў будынак беларускай літаратуры, у мур беларускай культуры наогул. Прыгожыя ўзоры высокай мастацкасці Мараковым былі ўжо даны і ў "Пялёстках", але зборнік "На залатым пакосе" сведчыць аб тым, што малады паэт зрабіў вялікі крок наперад, як з фармальна-мастацкага боку, так і з боку ідэалагічнага. Яго рытм сапраўды стаў "буйным і сакавітым"...

...Ідэалы містычна-евангельскіх шуканняў знайшлі сабе прытулак у Маракова, што з'яўляецца адною з заганаў у яго творчасці:

Дабром за ўсё... за ўсё дабром плаціць!

Побач з гэтым гучаць матывы кахання, кахання гарачага, палка-юнацкага, шчырага. Каханне прыроды, каханне свае краіны, каханне свайго "любага народа" і ўрэшце каханне "сястрыцы Ніны" – знайшло ў словах-вобразах сваё выкрышталізаванне.

...Калі Маракоў будзе больш наглядаць жыццё, то яшчэ не адзін дыямент творчасці дасць нашай літаратуры".

* З рэцэнзіі Бага[1] на паэтычны зборнік В.Маракова "На залатым пакосе" ("Савецкая Беларусь". 1928. 10 студзеня):

"Вершы В.Маракова вылучаюцца з шэрагу яго аднаплечнікаў-паэтаў, і ў лепшы для яго бок. Творчасць Маракова прасякнута шчырасцю,.. пакідае прыемнае ўражанне.

В.Маракоў знаходзіўся пад моцным уплывам Надсана...

Трэба раз і назаўсёды адмовіцца ад складання зборніка мастацкіх твораў па прынцыпу "сямейнага альбома". (Прысвячэнні - сёстрам, братам, маці - займаюць значнае месца).

Маракоў, безумоўна, мае здольнасці, і надалей яму трэба больш грунтоўна азнаёміцца з сучасным жыццём, нашым будаўніцтвам..."

* З рэцэнзіі С. Замбржыцкага "Не плакаць і гарэць, а працаваць і вучыцца" ("Савецкая Беларусь". 15 студзеня):

"На наш погляд, В.Маракоў найбольш плённы з нашых наймалодшых паэтаў.

Самай галоўнай уласцівасцю ў тэматыцы В.Маракова з'яўляецца моцна выяўлены індывідуалізм.

В.Маракоў захлёбваецца ў сваіх пачуццях. Ён "гарыць" і калі гэтак будзе гарэць, то хутка згарыць. Ён кажа:

---

[1] Сапраўднае прозвішча аўтара высветліць не ўдалося.

Відаць, ў жыцці
Нікога не спаткаю,
Каго змагу,
Як песню, палюбіць.

*"І любіць па-ясенінску..."*

* З рэцэнзіі А. Ляснога (А.Мардвілка. – *Л.М.*) на паэтычны зборнік В.Маракова "На залатым пакосе" ("Звязда". 15 студзеня):

"Антон Адамовіч у артыкуле "А дзе ж грамадскасць?" абвінавацiў Валерыя Маракова і ў "упадніцтве" і ў "безнадзейным песімізме" і г.д. Палкі крытык зусім забыў, што паэт яшчэ не дасягнуў грамадзянскага паўналецця...

Зборнік вершаў "На залатым пакосе" – гэта настрой захаплення жыццём, вясной і каханнем..."

* У друку з'явіліся:

"Доўга, доўга стаяў пад акном я і марыў..." ("Узвышша". №1);



У першым радзе (злева направа): М. Лужанін, А. Звонак;
у другім радзе: В. Маракоў, Н. Вішнеўская, В. Залуцкі,
М. Нікановіч, В. Каваль. 1927 г.



У першым радзе (злева направа): В. Маракоў, дырэктар Дома пісьменніка В. Залуцкі, П. Глебка, Я. Пушча; у другім радзе: М. Нікановіч, В. Каваль, М. Лужанін, Я. Пфляўмбаум, А. Звонак, К. Чорны. 1927 г.

"Пры дагараючым кастры" ("Заря Запада". 15 студзеня); "Загараўся крывавы ўсход..." ("Звязда". 8 студзеня).

* Выходзіць рэцэнзія І.Райда (псеўданім украінскага паэта Т.Масэнкі) на паэтычны зборнік В.Маракова "На залатым пакосе" ("Молодняк". 1928. № 2. Кіеў). Т.Масэнка зазначыў: "У настроях вершаў Маракова пераважае мажор, у якім адчуваецца радасць жыцця, радасць творчай працы".



Платон Галавач. 1920-я гг.

* 16 лютага адбылася Усебеларуская канферэнцыя "Маладняка", на якой з асноўным дакладам выступіў П.Галавач. Ён і быў абраны кіраўніком "Маладняка".

САКАВІК - ЧЭРВЕНЬ

* З артыкула Янкі Бора (псеўданім С.Шушкевіча) "Маладняк" у рабочых" ("Чырвоная змена". 9 сакавіка):

"Чыгуначнікі з нецярплівасцю чакаюць адчынення вечару. Тысячная аўдыторыя кіпіць сваім жыццём.

Сігналы. Пачатак.

Агалошваецца, што зараз зачытаюць свае творы "маладнякоўцы". Зала загрымела ад воплескаў.

Маракоў, Шушкевіч, Фамін, Вішнеўская, Казлоўскі... Маладыя гучныя галасы, поўныя сілы і бадзёрасці, пояць вуха слухача нечым блізкім, нечым родным.

А ў гэты ж самы вечар, на другім канцы Менска, таксама чакаюць "маладнякоўцаў". Клуб дражджавога завода "Пралетарый" таксама бітком набіты рабочымі і работніцамі. Ужо позна – дванаццаць часоў ночы. Прысутныя крыху змораны канцэртнай часткай, але прыход "маладнякоўцаў" ажывіў рабочыя твары. Зноў воплескі, зноў напружаная ўвага..."

Дарэчы, В.Маракоў і С.Шушкевіч падпісвалі свае творы падобнымі псеўданімамі: Валеры Бор і Янка Бор.

* З успамінаў П. Пруднікава:

"Я памятаю, як на адным з такіх нашых супольных выступленняў (а нас было там некалькі чалавек) перад студэнтамі садова-агароднага інстытута, які нейкі час існаваў



Злева направа: А. Мардвілка, З. Астапенка, В. Казлоўскі, Ю. Таўбін, В. Маракоў, С. Шушкевіч. 1928 г.

у Менску, у Лошыцы (знаходзіўся недалёка ад дома Маракових. – *Л.М.*), яго дзяўчаты-студэнткі так загрузілі кветкамі, што аднаму яму не пад сілу было справіцца з імі. Яму, канечне, ад гэтага было вельмі прыемна, але неяк і няёмка перад намі.

— Вы даруйце мне, хлопцы, але я тут ні пры чым, — апраўдваўся ён перад намі.

— Навошта нам тваё апраўданне, — адказваў яму за ўсіх Змітрок Астапенка. — Гэта нам трэба прасіць у цябе прабачэння, што не здолелі заслужыць павагі ў гэтых красунь" (Пруднікаў П. "Паэт эмоцый" // Маладосць. № 12. С. 196-209.).

* "На працягу красавіка-жніўня 1928 г. адной менскай філіяй "Маладняка" было наладжана 15 літаратурных вечароў. Вечары наладжваліся пераважна ў рабочых клубах. Абслужана было звыш 4 тысяч слухачоў. Такім чынам, аднавіўся адзін з відаў слаўнае масавае працы "Маладняка" з часоў яго першага ўздыму" (Гарэцкі М. "Маладняк" за пяць гадоў".).


Васіль Каваль. 1928 г.

* Друкуецца верш "Васілю Кавалю" ("Ты прыглядзіся да гэтага рання..." // Маладняк. № 4) . З 1928 г. часопіс "Маладняк" стаў выходзіць штомесяц.

* 13-15 мая ў Менску знаходзілася дэлегацыя ўкраінскіх пісьменнікаў: П.Тычына (якога пазней В.Маракоў перакладаў на беларускую мову), А.Паноў і інш.

* 16 чэрвеня І.Барашка, В.Маракоў і В.Каваль пішуць ліст П.Трусу аб наладжванні 20 чэрвеня вечара "Маладняка" ў Гомелі падчас падарожжа апошніх на Украіну.

* 18 чэрвеня на Украіну выехалі члены менскай філіі "Маладняка" І.Барашка, В.Маракоў, В.Каваль, А.Звонак, М.Лыькоў, М.Нікановіч, А.Моркаўка, А.Салагуб, Я.Мазуркевіч (віцебская філія). Адбылася таварыская сустрэча маладнякоўцаў Беларусі і Украіны.

З успамінаў А. Звонака:

"Паездка і братнія сустрэчы ў Харкаве, знаёмства з яго прадпрыемствамі і культурнымі ўстановамі, паездка ў старажытны Кіеў, з яго славутым Крашчацікам, Падолам, Уладзі-мірскай Горкай, Кіева-Пячэрскай Лаўрай, паездка



Беларускія і ўкраінскія пісьменнікі. У першым радзе другі справа— С. Баркоўскі ; у другім першы злева— В. Маракоў, апошні справа— А. Куляшоў; у чацвёртым першы злева — В. Каваль, апошні справа— А. Звонак. 1928 г.

па Дняпры ў трагедыйнае Трыполле, на магілу Тараса Шаўчэнкі ў Канеў, у індустрыяльны Днепрапятроўск і, нарэшце, праз усе дняпроўскія парогі на будаўніцтва плаціны будучага Днепрагэса – усё гэта непамерна ўзбагаціла нас духоўна, пасяліла ў нашыя юныя сэрцы глыбокае пачуццё братняе дружбы. Падраслі крылы і ў нашай крыху абмежаванай, крыху пра-вінцыяльнай музы" (Маракоў. В. // Вяршыні жаданняў. Мн., 1989.).

* В.Маракоў напісаў нізку вершаў "Мая паэма" (паведамленне з раздзелу "Хроніка" // Полымя. № 6).

ЛІПЕНЬ

* Надрукавана творчая справаздача В.Маракова з паездкі: "12 дзён" (З падарожжа "маладнякоўцаў" па Украіне // Звязда. 25 ліпеня).

ЖНJВЕНЬ

Надрукаваны:

верш "Мне не забыць былыя вечары..." ("Маладняк". № 8); рэцэнзія на кнігу: Ю. Кулік "Антологія Американськоі поезіі" 1855-1925 гг. - К.: Державне Выдавніцтво Украіни, 1928 (Пад псеўд. В.Армар. У суаўт. З А.Мардвілкам. "Маладняк". № 8).

ВЕРАСЕНЬ

* Надрукаваны вершы:

"Ён адчыніў акно..." ("Маладняк". № 8);

"Чуеш, Беларусь?" ("Полымя". № 7).

* Маракоў працягвае быць сябрам Менскай філіі "Маладняка". (Паводле звестак ЦБ "Маладняка" на 15 верасня: старшыня філіі І.Барашка, усяго 42 сябры). З "Маладняка" выйшлі:

А.Александровіч, З.Бандарына, Г.Брэская, Х.Бужан, А.Валошка, В.Верас, А.Вечар, Э.Галубок, М.Ганчарык, В.Гарбацэвіч, Ю.Гаўрук, Герасімовіч, А.Глінская, С.Голуб, М.Зарэцкі, Я.Івашын, У.Кавалёў, Т.Кляшторны, М.Лынькоў, Я.Мазуркевіч, Н.Маркава, А.Мялешкіна, Х.Паўлоўскі, У.Прыбытkоўскі, Т.Хадкевіч, Я.Хмель, Л.Юркевіч (Лявонны).

У "Маладняк" уступілі:

М.Аляхновіч, С.Баркоўскі, Р.Бахта, П.Бузук, Я.Відук (Я.Скрыган), А.Гародня, М.Гольдберг, М.Карпачоў, Я.Ліманоўскі,С.Ліхадзіеўскі, А.Пальчэўскі, А.Салагуб, А.Сянкевіч, П.Трус (зноў), М.Хведаровіч, М.Шалай.



В. Маракоў, Я. Туміловіч, Я. Пфлямбаум. 1930-я гг.



Сябры Усебеларускага літаратурна-мастацкага аб'яднання "Маладняк". У першым радзе (злева направа): М. Нікановіч, В. Маракоў, С. Шушкевіч, Ю. Лявонны, С. Фамін, П. Броўка, М. Хведаровіч, А. Мардвілка. У другім радзе: А. Якімовіч, В. Казлоўскі, Я. Ліманоўскі, І. Барашка, Г. Базыленка, невядомы, Я. Пфляўмбаум, невядомы, Н. Вішнеўская, невядомы, П. Галавач. У трэцім радзе: М. Лынькоў, М. Нікіцін (Верас), А. Траецкі, невядомы, В. Каваль, Я. Туміловіч, Ю. Гаўрук, Я. Бобрык, А. Звонак, невядомы, Я. Мазуркевіч, Н. Маркава, С. Баркоўскі. У чацьвёртым радзе: невядомы, А. Вечар, І. Плаўнік, Т. Хадкевіч. 1927 г.

КАСТРЫчНJК

* Надрукаваны верш "За чужое шчасце і любоў..." ("Полымя". № 8).

* Максім Гарэцкі ў кнізе "Маладняк" за пяць гадоў (1923-1928)" пісаўадносна творчасці В.Маракова, маючына ўвазе яго паэтычныя зборнікі "Пялёсткі" і "На залатым пакосе": "Найбольш асабістае лірыкі ў Маракова, Плаўніка, Маркавай, Вішнеўскай, Пфляўмбаум, Брэскай і інш... Найлепшымі або найбольш характэрнымі паэтамі ў сучасным складзе "Маладняка" ёсць: Маракоў, Моркаўка, Трус, Вечар, Фамін, Бандарына, Плаўнік, Хадыка і некаторыя іншыя... Маракоў вызначаецца лірычнасцю, эмацыянальнай напружанасцю, гучальнасцю сваіх вершаў. У яго шмат пачуцця, ён любіць яскравыя фарбы і гучанне. У яго, на жаль, мала сацыяльнага зместу...

Ён моцны ад прыроды паэт... вершы яго робяць моцнае ўражанне... у яго гэтулькі эмацыянальнай напружанасці і


Алесь Пальчэўскі. 1930-я гг.


Янка Ліманоўскі. 1920-я гг.


Анатоль Астрэйка. 1920-я гг.

гэтулькі лірызму... ён насычае сваё вершы настраёвасцю – і дасягае мастацкага ўражання... Ён малады паэт, які яшчэ не знайшоў сваіх пэўных сцежак у жыцці і творчасці..."

У сакавіку 1935 г. М.Клімковіч напіша: "Белорусская нацдемовская критика (например, М.Горетский) выдвигала В.Морякова как весьма способного поэта". (З асабістай справы В.Маракова ў архіве КДБ.)

ЛІСТАПАД - СНЕЖАНЬ

У лістападзе Усебеларускае літаратурнае аб'яднанне "Маладняк", якое праіснавала 5 гадоў[1], было рэарганізавана ў Беларускую Асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў і паэтаў (БелАПП).

* Надрукаваны вершы:
"Адсумаваўшы маладосць сваю..." ("Маладняк". № 11);
"Ёсць лепшы свет..." ("Чырвоная змена". 18 лістапада);
"З рабінавай ночы" (Уступ да паэмы. Тамсама. 25 лістапада);
"Толькі светлай вясне верым мы..." ("Звязда". 25 лістапада);
"Цыганка" ("Працаўнік асветы". Літаратурны дадатак да газеты "Савецкая Беларусь". № 19).

* Галоўмастацтва прызнае В.Маракову, П.Трусу, В.Кавалю, М.Лужаніну, С.Хурсіку, С.Фаміну і Ліўшыцу[2] штомесячную стыпендыю ў памеры 40 рублёў (паведамленне ў № 9 "Полымя").

[1] Да 5-годдзя "Маладняка" В.Маракоў напісаў верш "Толькі светлай вясне верым мы...".
[2] Перакладаў вершы В.Маракова на яўрэйскую мову.

* В.Маракоў піша новую паэму "Рабінавая ноч" (паведамленне ў хранікальным раздзеле "Полымя", № 10).

Друкуюцца творы:
"Цішку Гартнаму"; "Беларусі" (Суаўт. другой часткі верша - А.Звонак. "Полымя". №10);
"Мой родны край. Ізноў я тут!.." ("Дэкламатар": зборнік літаратурнага і гістарычнага матэрыяла з газеты "Беларускія ведамасці");
Паэма "Адноўленая зямля" ("Маладняк". № 12).

* Надрукаваны пераклады вершаў В.Маракова на ўкраінскую мову:
"Біле зимове поле" (пер. Т.М. // Молодняк. № 2);
"Чуеш, Білорусь?" (пер. С.Голованівский // Гарт. № 12);
"Знову холод і вечір, і сіня пітьма..."[1] (пер. М.Хмарка. Тамсама, № 9).

Знову холод і вечір, і синя пітьма,
Знову серце і ние, і плаче.
О, для чого над полем розлігся туман,
Коли хочеться сонця побачить?

## 1929

*І зноўку пройдзе караван,*
*І бераг мора будзе біцца.*
*Жыццё, як мора-акіян...*
*А лёс мой — віхар-навальніца...*

"Жыццё, як мора-акіян..."

СТУДЗЕНЬ

* Друкуецца "Мая паэма" В.Маракова ("Полымя". № 1, 4, 5). "Полымя" пачынае выходзіць штомесяц.

* З рэцэнзіі Л.Цвяткова[2] на паэму "Адноўленая зямля" і апавяданне Р.Мурашкі ("Савецкая Беларусь". 13 студзеня):

---

[1] Верш таксама друкаваўся ў альманаху «Нова Білорусь». К., 1929 г.
[2] Арыштаваны ў 1930 г.



В. Маракоў і Р. Мурашка. 1931 г.

"... і паэма, і апавяданне напісаны цікава і прыгожа (адзначым новыя бадзёрыя ноты, якія цяпер ужо не рэдкі ў Маракова: "у агні бунтоўнага натхнення душа спявала, як арган...".

ЛЮТЫ

* "Валеры Маракоў канчае пісаць новую паэму "Рабінавая ноч", якая будзе друкавацца[1] ў нашым часопісе" ("Полымя". № 10.).

САКАВІК

* З артыкула А.Вяснова га "Бываюць і такія "крытыкі" ("Савецкая Беларусь". 31 сакавіка):

"У "Звяздзе" 7 сакавіка змешчаны артыкул Р.Кр-скага, у якім аўтар, разглядаючы пачатак паэмы (маецца на ўвазе "Мая паэма". - *Л.М.*) Валерыя Маракова ў № 1 "Полымя", не сумняваючыся ні на хвіліну, горача абвінавачвае В.Маракова ў "надрыўным песімізме, антаганізме, адсутнасці акрэсленага светапогляду, неразуменні эпохі, не чуванні крыку жыцця" і г.д.".

---

[1] Паэма надрукавана не будзе з прычыны яе "нацдэмаўскага" ўхілу.

А.Вясновы на шматлікіх прыкладах даказвае беспадстаўнасць нападак і абвінавачванняў Р.Кр-скага на адрас Маракова.

* Надрукаваны верш "Камсамолу Мазыршчыны" ("Маладняк". № 4).

* 25 сакавіка літаратурнае аб'яднанне "Полымя" арганізавала вечар, прысвечаны літаратурнай і тэатральнай дзейнасці Уладзіслава Галубка.

* З агляднага артыкула ў газ. "Савецкая Беларусь" (31 сакавіка) "Аб мастацкай літаратуры навучальных устаноў (з усебеларускай студэнцкай выстаўкі насценгазет і часопісаў)":

"Вершы Маракова... па апрацоўцы і па адбіццю акружаючага жыцця з'яўляюцца досыць сур'ёзнымі рэчамі".

* В.Маракоў рыхтуе да друку зборнік паэзіі пад назваю "Вершы і паэмы". Здадзены ў "Маладняк" паэмы "Муляр" і "Парогі паміраюць". У "Полымі" рыхтуецца да друку паэма "Рабінавая ноч", там жа друкуецца "Мая паэма" (паведамленне ў "Маладняку", № 3).

КРАСАВJК

* Надрукаваны верш "Я веру" ("Чырвоная змена". 7 красавіка).

* З артыкула Б.Стасевіча "Аб задачах беларускай мастацкай літаратуры" ("Чырвоная змена". 7 красавіка):

"Да ліку адмоўных з'явішчаў у апошні час нарастанне ўпадніцкіх матываў. Найбольш характэрнымі ў гэтых адносінах з'яўляюцца творы Язэпа Пушчы— "Асеннія песні" і "Лісты да сабакі" Кляшторнага — "Калі асядае муць", Лужаніна - "Рабінавае шчасце", "Вецер з Усходу" і "Самагубца" - Дудара. "Чорнай восені сумам і холадам магіл" авеяна першая частка паэмы В.Маракова "Мая паэма". Разам з упадніцкімі настроямі беларускую літаратуру прасякаюць і неабуржуазныя погляды, пераραджэнне ў бок контррэвалюцыі..."

ЛJПЕНЬ - ЖНJВЕНЬ

* З артыкула галоўнага ідэолага БелАППа Л.Бэндэ ("Чырвоная змена". 7 ліпеня):

"Трэба нашым пісьменнікам, асабліва пачынаючым, рашуча адмовіцца ад думкі, што вершы пра "месяц", пра "вясну" і інш. вузка асабістыя перажыванні маюць якую-небудзь вартасць".


Алесь Дудар.
1934 г.

* З ліста А.Дудара (цыт. па кнізе: Міхнюк Ул. Арыштаваць у высылцы. Мн., 1996):

"У пачатку ліпеня 1929 г. да мяне раптоўна прыехаў Валеры Маракоў, былы "маладняковец", які быў сакратаром часопіса "Маладняк", калі я яго рэдагаваў. У літаратурных адносінах Маракоў з'яўляецца маім выхаванцам: я калісьці правіў яго першы зборнік і г.д. Да маёй жа палітычнай дзейнасці ён не меў ніякага дачынення і не мог мець, бо я лічыў яго занадта маладым для таго, каб уводзіць яго ў круг сваіх поглядаў і спраў. Я, безумоўна, ягонаму прыезду быў дужа рады. Маракоў прывёз з сабой рэшткі таго спачування мне, якія акружалі мяне ў апошнія дні ў Менску. Ён гаварыў, што пісьменніцкая моладзь у Менску дужа мне спачувае, што да мяне збіраюцца яшчэ і другія маладнякоўцы. Я, застаючыся ў перакананні, што ў маёй высылцы вінна не столькі мая дзейнасць, colькі чыясьці палітыка, зусім верыў яму і не шкадаваў асабліва лаянкі супроць "русацяпаў", не называючы, праўда, імён. Прачытаў Маракову адрыўкі з свайго верша ("Пасеклі край наш папалам...". – *Л.М.*), які помніў. Развіталіся мы захопленыя адзін адным і цалкам задаволеныя".

З успамінаў С.Грахоўскага:

"...У Смаленску была група пісьменнікаў: Ісакоўскі, малады Твардоўскі, Дзмітрый Осін, Мікалай Рыленкаў, якія не пакінулі А.Дудара безувагі" ("Голас Радзімы". 1998. 7 траўня).


Алесь Кучар.
1930-я гг.

* У рэцэнзіі-аглядзе на творы В.Маракова і іншых аўтараў, змешчаных у № 4 часопіса "Маладняк", С.К. (Сымон Куніцкі. – *Л.М.*) піша ("Савецкая Беларусь". 7 ліпеня):

"Усе вершы прасякнуты жыццёвай бадзёрасцю, легка чытаюцца і маюць кожны сваю сацыяльную думку".

* Выходзіць "Літаратурны партрэт Валерыя Маракова" А.Кучара ("Маладняк", № 7):

"...Часамі ён прыбягае на заняткі ў аўдыторыю страшэнна знерваваны, хутка кідае на стол кніжкі і крычыць:



Злева направа: М.Нікановіч, А. Куніцкі, П. Броўка, народны артыст БССР У. Галубок у рэдакцыі газеты «Чырвоная змена». Менск. 1929 г.

—Аловак, дайце хутчэй аловак!— Хапае ў каго-небудзь са стала агрызак алоўка і хутка піша. Рука яго дрыжыць. Ён усё паскарае і паскарае пісанне. Літары выходзяць дробненькімі, кручанымі, і старонні чалавек палічыць іх няйначай як за кітайскія іерогліфы. Існуе педагагічная думка, што па почырку можна пазнаць характар чалавека. І гэта праўда. Нервовае напружанне, з якім Валеры піша свае вершы, цалкам перадаецца яго іерогліфам. Яму для пісання зусім не патрэбен спакой. Ён можа пісаць пры любым гармідары.

Нервовая напружанасць адбіта ва ўсёй яго постаці. Рухі яго нервовыя, няпэўныя. Блакітныя вочы таксама блукаюць трывожна, нервова. Увесь архіў вершаў ён хавае ў кішэнях. Кожны дзень ён частку іх губляе, але ўсе свае вершы ён памятае напамяць і, здаецца, ніколі іх не забудзе. Так яны арганічна звязаны з ім...

Маракоў у поўным сэнсе не селянін і не рабочы. Гэта адыгрывае выключна важную ролю ў творчасці паэты. Ён кідаецца ад сялянскіх матываў да гарадскіх, і яму надзвычайна балюча кінуць адно з іх. Гэта відно з яго зборніка "Пялёсткі", які характэрны мастацкасцю і эмацыянальнасцю вершаў,—

За вакном той жа ўпарты прыбой галасоў.
За вакном той жа брук і прасцяг камяніц.

А "задорысты залацісты сон" напявае яму вясковую кволасць:

Я прыйшоў на радзімую вольную сінь
Пад асеннія свісты пажоўклых асін.

Перш чым прыступіць да разгляду творчага твару Валерыя Маракова, спынімся яшчэ на адным характэрным для маракоўскага творчага твару факце. Дыяпазон Маракоўых вершаў перасычаны стыхіяй, перавагай эмоцыі над сталасцю і развагай.

І зноў холад і вецер, і сіняя цьма,
І зноў сэрца балючае плача.
О, нашто над палямі разлёгся туман,
Калі хочацца сонца пабачыць.
..............................................
І так усё... ўсё праляцела,
Чым сэрца некалі жыло,
І над далінай гэтай белай
Іду, як мёртвы, за сяло...

Дзе ж прычына таго, што маракоўскія настроі "пялёсткавай" пары штохвілінна змяняліся ад радасна-жыццёва палкіх да сумна-песімістычных. Прычыну трэба шукаць у тым, што ў Маракова велізарнае паэтычнае пачуццё. Ён чулы, як мембрана (як аб ім казаў на адным з выступленняў праф. Піятуховіч), ён здольны ўспрымаць ад жыцця ўсё: і радасць, і сум, і гора. У гэтым сэнсе лепш было б назваць Маракова вольтаметрам, які чула ўспрымае напружанне току радасці, суму, і побач з тым вы маеце ў Маракова і такія радкі, што пахнуць пропаведдзю "непраціўлення злу":

Хачу дабром за ўсё... за ўсё дабром плаціць.

Чым жа вытлумачыць такія велізарныя кантрасты? Чым вытлумачыць тое, што В.Маракоў амаль з аднолькавай адчувальнасцю ўспрымае сапраўдны пульс жыцця, радуецца разам з гэтым жыццём і адначасова хоча "зубамі каменне ламаць"?

Толькі тым, што Маракоў - юнак у сваім светапоглядзе, ва ўзросце таксама. Бо тое, што ён успрымае чуласцю паэты, не дысцыліруе праз сіта развагі і сталасці. У ім пануе стыхія. Стыхія гэта надзвычайна моцная, бо паэта ўспрымае жыццё шчыра, палка (надзвычайна ўдалымі выйшлі вершы: "Чуеш, Беларусь", "Цыганка"), але часамі паэта і мішурны сум прымае так палка, як і рэчаіснасць. Ад гэтага неадвеянага зернячаста паэтавы пачуцці ўзводзяцца ў сумныя фарбы. І ўсё ж адсюль, відавочна, нельга рабіць вывад, што Маракоў негатыўна адносіцца да нашай сучаснасці...

"Пялёсткавыя" летуценні Маракова таго перыяду, калі паэта толькі выйшаў у літаратурнае жыццё, характэрныя меладычнасцю верша і надзвычайнай эмацыянальнасцю. Напружаная паэтава экзальтацыя перадаецца чытачу:

Я йшчэ ведаю, ў даль над маёй паласой
Праліецца прывольная песня.
Толькі дайце гармонік на сто галасоў
І прастор для размаху не цесны.

Сапраўды, маракоўскі гармонік блізкі да стогалосага... Каштоўнасць маракоўскай творчасці можна вымяраць толькі колькасцю пачуццёва-радасных хваляванняў, што выклікае яго паэзія ў чытача. Амплітуда маракоўскае творчасці вельмі шырокая... У Маракова ў "Пялёстках" пачынае ўжо выяўляцца той погляд, які пасля развіўся ў "На залатым пакосе" ў цэлую так званую "тэорыю" "згарання" паэты. Нібы-

та паэта павінен сам згарэць у "песенным агні", каб ахвяраваць сябе Айчыне, народу:

І я не знаў, што на курганах
Душу мяцежную аддам
Усяму, што з подыхам світання
Імкнецца ўрадасную даль.

Праз год пасля "Пялёсткаў" паэта апынуўся "На залатым пакосе". Валерыю здалося, што яго "пялёсткавыя" хістанні ад радасці да суму, ад сваіх "пялёсткавых мар" да рэчаіснасці скончыліся. Раўнадзейная гэтых хістанняў будзе ў творчым згаранні паэты - думаў Маракоў. Паэта аддае жыццю і свайму народу ўсю "сваю душу". Кожны мастак, па Маракову, павінен расплёскаць сваю душу ў народзе. І ён сам будзе гарэць, як Маркітанка Сігарэт:

Цыгарэт-вясна, — мы ўсе такія,
Толькі й я хацеў бы так згараць,
Каб вакол былі ўсе дарагія
І ў крыві маёй цвіла зара.
..........................................
Нездарма ж так блукае
Усмешка на твары
І на вуснах істужка зары...
Абапрыся рукамі,
На руку, таварыш,
І давай гэтак разам згарым...

У паэтычных прыёмах у Маракова ёсць асаблівая манера ад пачуццёва-кволых радкоў кідацца ў экстаз бурных і імклівых. Такая кволая птушка, як салавей, у Валерыя можа спяваць "аб жалезным паходзе вякоў":

Сонца маўчала, а ў нівах вясной
Пахла каханнем і пахла він ом,
Толькі адзін салавей над ракой
Пеў аб жалезным паходзе вякоў.

Пасля "Залатога пакосу" В.Маракоў цалкам адышоў ад багемнага балота, якое толькі-толькі пачало абнімаць яго. У ніжэй паданым вершы ён нават абяцае, што не будзе "згараць у мёртвых пачуццёх".

А тут туман, тут пыл сталеццяў душыць,
Тут сум забытых, дальніх і чужых.
Тут па-аслінаму,
Падняўшы горда вушы,

Гавораць так, што ім абрыдла жыць,
Я знаю іх. Я ім калісьці верыў.
Я іх балота славіць пачынаў...

Наймацнейшыя вершы трэцяга творчага перыяду Маракова: "Цыганка" (літ. дадатак да "Савецкай Беларусі". 1928. №19), цікавы велічэзнай замілаванасцю паэта да "залатой таямнічасці зямлі", "Чуеш, Беларусь" ("Полымя". 1928. № 7) бунтарска-напружаны верш, "Беларусі" ("Полымя". 1928. № 10), які характэрны шчырым каханнем паэта да Айчыны:

О, любімая кветка!.. О маці...
Як аддзякаваць, як прывітаць...

Вось што паэт абяцае краіне:

Не патухнуць светлыя жаданні,
Кроў не стане ў жылах халадней,
І ў агні палаючых паўстанняў
Край рука чужая не кране...

Аналіз велізарнай нацыянальнай і сацыяльнай трагедыі цыган, што шукаюць "шырокіх палёў цёмна-сіняю столь" належыць "паэту зямлі" Васілю Кавалю, аднак Маракоў з глыбокай шчырасцю паэты пранікае ў адчуванні цыганкі. Расклад у душы цыганкі псіхалагічна надзвычайна тонка аналізаваны паэтам. З аднаго боку:

Там дзесь ці любімы, як бронзавы бог,
Спявае пад струны цыганскіх дарог,
Спявае любоў...

а з другога:

І раскажа цыганка цыганам
(А ў цыганкі у сэрцы агонь),
Што учора на сонечным ранку
Ёй сказалі пра новы закон:
Хутка будуць ў іх хаты і нівы,
Залатая таемнасць зямлі
Будзе бераг краіны шчаслівай
Ўсіх прыйшоўшых з блукання хмяліць.

Вось ён, сапраўдны творчы энтузіязм паэты! І толькі таму, што Маракоў мастацкі можа ўспрыняць сучасныя актуальныя тэмы, чытач павінен з шчырасцю яму сказаць: "І не

думай, брат Валеры, надалей зубамі каменні ламаць". Пагастры лепш зубы, каб раскусіць мудры арэх нашага "сённяшняга свята"...

Паэма "Адноўленая зямля" пакуль што з'яўляецца апошнім сінтэзам таго, да чаго прыйшоў В.Маракоў праз "пялёсткавыя летуценні" і "гарэнне". Гэта новая песня, з якою падружыў паэта. Антось, герой паэмы, - і селянін, і рабочы. Паэма прымірыла "гарадскі брук" з "васільковым сялянскім полем".

У "Адноўленай зямлі" кволы Валеры да надзвычайнасці, з тонкім паэтычным пачуццём, глыбока адчувае складаныя светацені прыроды.

І пад бярозкай белай на кургане
Мы селі ўдвох:
Я - юны, ён – стары...
Закат крывавымі і тонкімі рукамі
Матаў істужку сонечнай зары.

Кажуць, што ў Маракова абмежаваная вобразнасць і метафарычнасць мовы. Праўда, яго творы не маюць штучных вобразаў, што ў доўгія бяссонныя ночы выдумляюцца многімі паэтамі. Яго вобразы эмацыянальныя і ўдалыя. Вось частка вобразнага абозу Валерыя Маракова:

"Твая радасць кветка б'е агнём крыніц", "зацвітуць прасторы срэбных ячмянёў", "я хачу яшчэ жыць светам майскіх начэй", "каб гарэў дыяментам залочаны дзень", "упаў срабрысты месяц на калені", "гарыць, як кроў, вячэрняя зара", "будзе месяц сыпаць каласы", "лясы агнём зялёным тут гарэць", "задорны смех ліе вясна", "ужо кучаравяцца бярозы", "сыпле кветкі на грудзі вясна", "рабіна блешча пазалотай", "ночка сінім васільком схіліла твар свой сіратлівы", "патануць ў цішыню з галавой", "іду, як мёртвы за сяло", "нехта стаіць прад зарой на каленях, выпіўшы сэрца разгул", "месяц чырвонцам скаціўся у травы", "месяц прылёг на блакіт", "чорнай дзявочай касой ноч загубіць на палёх", "спяць златазвонныя далі", "завывалі гарматы да слёз", "крывёю на грудзі бярозак прыпадаў светлы золак зары", "і ў крыві маёй цвіла зара", "грэюць ласкамі зор па начах", "кла-дзём ўсё лепшае на ласкавыя струны", "у срэбным тумане апавіты жальбою палі", "жыццё адшуміць, адзвоніць, змоўкне, бы струна", "сёння зоры за нас чырваней", "мёртвы месяц пажарам гарыць", "і на белыя грудзі курганаў льюцца слёзы крывавай зары", "а пажару крыві не стушыць", "півоні зор крывёй цвілі", "вольным размахам сталёвых брывей", "душа спявала, як арган", "мерзнуць пад плотам мінулага цені", "схіліўшы сумна ружу галавы", "і вецер ўзяў іх пацалункі аддаць зары ў чырвоны рот" і г.д.

Сярод пералічаных вышэй вобразаў ёсць і частка т. зв. "маліцвенных".

Валеры Маракоў вучыцца ў Менскім Беларускім Педагагічным тэхнікуме. Амаль увесь год ён не здае залікаў. Толькі ў канцы года пачынае здаваць. Тады кідае "вершапісанне" і бярэцца за вучобу. Працуе палка, напружана. Працуе цэлымі днямі безупынна, толькі часамі на хвілінку супыніцца адпачыць. Тое, што іншыя студэнты здаюць у працягу года, Валеры здае за некалькі тыдняў. Валеры амаль ніколі не правальвае здачу заданняў... Усю хімію, што прыходзіцца вучыць у працягу года, з яе многалікімі формуламі, ён здае ў "два прыёма". Настаўнікі дзівяцца:

- Вось жа не працуе, а здае...

З паэтаў ён любіць Блока, Ясеніна, Чарота і Лермантава.

Адносна сучаснага літаратурнага жыцця і пралетарскае літаратуры яго абурае тое, што некаторыя людзі ўзводзяць у фетыш машыну. Другія ж нават думаюць пісаць вершы машынам... "Я ж, - кажа Валеры, - буду пісаць свае вершы не для машын, а для людзей".

Штодня ён прыносіць з сабой на лекцыю новапачаты верш або паэму. Штодзень у яго з'яўляецца захапленне новаю тэмай...

Дня адпачынку ў Валерыя няма. Ён прывык адпачываць працуючы. Яму прыемна адпачываць, думаючы аб сваім новым творы.

Ён надзвычайна кволы... Нервовая напружанасць адбіта ва ўсёй яго доўгай постаці. Ступае няпэўна, хістаючыся... Блакітныя вочы таксама блукаюць трывожна і нервова..."

* З успамінаў С.Грахоўскага:

" У адным з нумароў "Маладняка" прачытаў літаратурны партрэт В.Маракова, напісаны яго аднакурснікам (А.Кучарам. – *Л.М.*) па Белпедтэхнікуме. З яго даведаўся, што любі-мы мой паэт статны, светлавалосы прыгажун, сын муляра з прыгараднай вёскі Козырава. Аўтар партрэта пісаў, што Маракоў - ласкавы, шчыры таварыш усяе тэхнікумаўскае моладзі. Ён часам на лекцыях замест канспектаў цішком піша вершы, дае іх сябрам і сяброўкам, часам нават губляе" ("Голас Радзімы". 1998. 7 мая).

* Для азнаямлення з "сацыялістычным будаўніцтвам" В.Маракоў выязджаў на Асінбуд, маючы на мэце напісаць цыкл вершаў "Маё жыццё" (паведамленне ў № 7 "Маладняка").

* Выходзіць з друку паэма "Муляр"[1] ("Маладняк". № 7).

[1] Паэма "Муляр", прысвечаная Францу Гінтаўту, была напісана ў 1927–1928 гг. Увайшла ў зборнік "Вяршыні жаданняў" у змененым выглядзе пад назвай "Таварыш Нюрын".

ВЕРАСЕНЬ

* В.Маракоў і Б.Барысевіч пішуць сцэнар у 6-ці частках з жыцця Асінбуду пад назваю "Балоты абуджаюцца" (паведамленне ў "Полымі", № 8-9).

* Надрукаваны верш "Паўлюку Трусу" ("Звязда". 3 верасня; "Савецкая Беларусь". 3 верасня).

* 15 верасня ў Доме пісьменніка (знаходзіўся ў дому па вуліцы Савецкай, 68)[1] адбыўся жалобны вечар памяці П.Труса, наладжаны БелАППам. Пасля дакладу М.Аляхновіча аб творчасці паэта і чытання вершаў П. Труса з творамі, прысвечанымі нябожчыку, выступілі: В.Маракоў, В.Каваль, Ю.Таўбін, І.Плаўнік, А.Вечар.

* Вечар памяці П.Труса наладзіў Менскі Белпедтэхнікум. У вечары бралі ўдзел – В.Маракоў, В.Каваль, М.Лужанін, С.Ліхадзіеўскі, А.Кучар і інш.

КАСТРЫЧНJК

* Менская філія ("Маладняка". – *Л.М.*) правяла літаратурнае выступленне на цагельных заводах Менска. Пасля ўступнага слова М.Гольдберга чыталі свае творы Валеры Маракоў, Васіль Каваль, Юлі Таўбін, Ізраіль Плаўнік, Станіслаў Шушкевіч ("Маладняк". № 11–12).

* В. Маракоў рыхтуе да друку новую кнігу "Вершы і паэмы" (паведамленне ў газеце "Рабочий" за 22 кастрычніка).

* Друкуецца верш "Жыццё, як мора-акіян" ("Маладняк". № 10. Варыянт верша ўвайшоў у зб. "Права на зброю").

ЛJСТАПАД – СНЕЖАНЬ

* БелАПП рыхтуе да друку калектыўны зборнік вершаў, які мае выйсці ў серыі "Мастацкае слова – масам". У зборніку будзе прадстаўлена творчасць Андрэя Александровіча, Паўлюка Труса, Валерыя Маракова, Уладзіміра Хадыкі,

---

[1] Старшынёй праўлення Дома пісьменніка быў Я.Колас (разам з наркамам асветы БССР А.Баліцкім быў ініцыятарам яго стварэння), сакратаром – І.Барашка. Адным з першых зваротаў старшыні праўлення Дома пісьменніка да старшыні Саўнаркама БССР М.Галадзеда была просьба “адпусціць патрэбныя грашовыя сродкі на лячэнне пісьменніка У.Жылкі” (“З жыццяпісу Якуба Коласа”. Мн., 1982).



Ізраіль Плаўнік. 1920-я гг.



Уладзімір Хадыка. 1930-я гг.



Сымон Куніцкі 1929 г.

Юлія Таўбіна, Аркадзя Моркаўкі, Алеся Звонака, Алеся Вечара, Зінаіды Бандарынай, Сяргея Фаміна, Ізраіля Плаўніка, Станіслава Шушкевіча і Міколы Хведаровіча. Зборнік выйдзе пад рэдакцыяй т.т. Галавача, Гародні, Аляхновіча, Маракова і Вечара ("Полымя". № 11-12).

* У артыкуле П.Галавача і А.Звонака "Супраць буржуазнай рэакцыі ў мастацкай літаратуры!" ("Маладняк". № 11–12) крытыкуюцца Ф.Купцэвіч, В.Маракоў і Я.Пфляўмбаум.

* В. Маракоў разам з іншымі пісьменнікамі віншуе Алеся Гурло з 20-годдзем творчай дзейнасці ("Савецкая Беларусь". 29 снежня).

* Друкуюцца творы:

"На гэтых пройдзеных шляхах..." ("Паляўнічы Беларусі". № 11-12);

"Восень" ("Савецкая Беларусь". 8 снежня);

"Два франты" ("Савецкая Беларусь". 2 снежня);

Урывак з паэмы "Муляр" ("Прафісійны рух на Беларусі". № 15-16).

* У кнізе "Беларускі перыядычны друк 1917–1927 гг." (выданне Беларускай Дзярджаўнай бібліятэкі, 1929 г.) пералічваюцца публікацыі В.Маракова ў газетах і часопісах за 1925–1927гг.

* БДВ прыняло да друку зборнік вершаў В.Маракова "Вяршыні жаданняў" (паведамленне ў № 11-12 "Маладняка").

# «Чалавек— гэта вам не мумія...»

## 1930

*Ў полі вецер і ў полі туман,*
*Ў полі месяц,*
*Закованы хмарай...*
*Мабыць, хутка настане зіма?*
*Мабыць, хутка марозы ударáць?*

"Ах, спявай, дарагая, спявай...".

СТУДЗЕНЬ

* Друкуюцца творы:

"Гукі матораў і радыё..." ("Савецкая Беларусь". 5 студзеня);

"Парогі паміраюць", урывак з паэмы (Тамсама. 12 студзеня);

"Хроніка Белдзяржкіно кульгае" (Тамсама. 17 студзеня. Суаўт. Ч.Барысевіч[1]);

"Чуеце голас антэн..." (Тамсама. 21 студзеня);

"Там дзесьці ў цемры туманных вякоў..." (Тамсама. 28 студзеня);

"Заяц" ("Паляўнічы Беларусі". № 1).

ЛЮТЫ – КРАСАВІК

* Друкуецца верш "Калі растрачаны пачуцці..." ("Паляўнічы Беларусі". № 2).

* У № 2 час. "Маладняк", у раздзеле "Гумар" А.Вяземскі выкарыстоўвае словы В.Маракова "...Сабакі грызлі чалавека, а чалавек глытаў сабак..." (верш "Восень". 1929) у якасці подпісу пад карыкатурай.

---

[1] Магчыма, Б. Барысевіч.

* Друкуецца рэцэнзія на кнігу: А.Барбюс. Розныя факты. Мн., 1929 г. ("Полымя». № 3), напісаная ў суаўтарстве з А.Мардвілкам. Падпісана агульным псеўданімам В.Армак.

* Друкуюцца творы :

"Пракрычалі пеўні ў ночы..." ("Вясна": дадатак да "Камуніста", № 4);

"Зямля бунтуе" ("Савецкая Беларусь". 28 красавіка).

ТРАВЕНЬ – ВЕРАСЕНЬ

* Друкуюцца вершы:

"Чуецца мора гул..." ("Савецкая Беларусь". № 5);

"Янку Купалу" ("Полымя". № 5-6; "Савецкая Беларусь". 25 траўня).

* 28 мая В.Маракоў чытае свой новы верш "Янку Купалу" на вечары з нагоды 25-годдзя літаратурнай дзейнасці народнага паэта.

З успамінаў Э.Агняцвет:

"Хросным бацькам паэта Валерыя Маракова быў Янка Купала. Помню цёплы, усхваляваны голас Маракова на Купалаўскім ушанаванні ў Доме асветы:

За песні і думы
Мы любім паэтаў,
За кожнае слова,
За кожны радок,
Што нашым агнём
І трывогай сагрэты...
Купала,
Вам гэты вянок!"[1]

* У № 5-6 часопіса "Полымя" ў раздзеле "Хроніка беларускай культуры" паведамляецца, што "В.Маракоў у сучасны момант канчае пісаць і апрацоўвае напісаныя часткі паэмы "Зямля бунтуе". Аб гэтым жа паведамляе "Савецкая Беларусь" за 10 траўня (раздзел "Сярод пісьменнікаў").

* Выйшла з друку кніга паэзіі В.Маракова "Вяршыні жаданняў".

Змест зборніка "Вяршыні жаданняў":

1. "Ёсць лепшы свет..."
2. Дзесяць год.

---

[1] Верш «Янку Купалу».

3. "Сягоння сонца..."
4. Цыганка.
5. "Ты гаворыш..."
6. "Ах, спявай, дарагая..."
7. Паўлюку Трусу.
8. "Пазнаў і я..."
9. "Я так доўга блукаў..."
10. Адышоўшым.
11. Камсамолу Мазыршчыны.
12. Дні ідуць..."
13. "Я ўспамінаю дні змагання..."
14. "Загараўся крывавы ўсход..."
15. На залатым пакосе.
16. Жыццё, як мора-акіян.
17. "Мой родны край..."
18. "Тут так хораша..."
19. "Цені бягуць другія..."
20. "Там, дзесьці там..."
21. "Вецер гуляе па даху..."
22. Восень.
23. Адноўленая зямля.
24. Таварыш Нюрын.

* У № 8 часопіса "Узвышша" змешчаны вялікі артыкул М.Лужаніна "Думкі пра паэзію Валерыя Маракова".

КАСТРЫчНJК – СНЕЖАНЬ

* У № 10 часопіса "Маладняк" паведамляецца, што "менская філія БелАПП абвясціла ўдарную дэкаду па арганізацыі літаратурных гурткоў на прадпрыемствах. Бюро менскай філіі БелАПП на сваім пасяджэнні 8.10.1930г. размеркавала ўсіх сваіх членаў-пісьменнікаў на прадпрыемствах: ...майстэрні Белдзяржбуду – т.т. Гародня, Скрыган, Маракоў, Камянецкі..."

* Аб выхадзе з друку кнігі "Вяршыні жаданняў" паведамляецца ў № 11 часопіса "Маладняк". Там жа ёсць інфармацыя аб тым, што "зараз В.Маракоў рыхтуе да друку кнігу выбраных вершаў".

* Надрукаваны верш "Прыйшла трынаццатая восень" ("Чырвоная Беларусь". № 21-22; у суаўтарстве з Ю.Таўбіным).

* Надрукаваны вершы В.Маракова ў перакладзе на рускую мову Л.Лаўрова:
"Слышишь, Беларусь..."; "Хрипло гудок просвистел...";

"Думы с тенями, а с думами тени..."; "Зеленый месяц над рекой..."; "Белое зимнее поле..."; "Где торжество весны цвело..." (Сборник белорусской поэзии. Мн. - Л., 1930).

* В.Маракоў разам з Ц.Гартным і С.Шушкевічам выступаў перад рабочымі скурзавода "Бальшавік" (інфармацыя з асабістага архіва С.Шушкевіча).

* У БДУ адбылася сустрэча з пісьменнікамі з РСФСР Ф.Гладковым, У.Кірылавым і інш.

* З 1930 па 1934г. В.Маракоў працаваў сакратаром, а потым намеснікам рэдактара часопіса "Чырвоная Беларусь" (заснавальнікам і рэдактарам быў М.Чарот).

* З успамінаў М.Лужаніна:
"В.Маракоў – сакратар часопіса "Чырвоная Беларусь", адзіная штатная адзінка ў рэдакцыі. Ён падшукваў і заказваў нарысы і артыкулы, падбіраў фота, дамаўляўся з мастакамі. Не было цесна ў часопісе і паэзіі. Чарот быў задаволены сваім памочнікам, а Валеры нават крыху задаваўся гэтакім даверам і самастойнасцю..."

Тут Каліноўскі — царшчыны ахвяра—
Краіны славу,
Гордасць вартаваў,
І раннем тут
Праз туманы,
Праз хмары
Ёй песню дзіўную Чарот складаў...

*"Мая паэма"*

# 1931

*З кожнаю вясною ўсё карацшы шлях,*
*І мінае смутак, і прыходзіць жах.*
*Толькі застаецца па мінулым боль,*
*За былыя песні і тваю любоў.*

"Сінімі шляхамі на ружовы шлях"

СТУДЗЕНЬ

* 3–9 студзеня В.Маракоў у складзе беларускай дэлегацыі разам прымае ўдзел у "Тыдні Савецкай Беларусі" ў Маскве.

* З рэцэнзіі Э.Галубка на "Вяршыні жаданняў" ("Полымя". № 1):

"Інтэлігенцкая настраёвасць прыводзіла маладога пісьменніка да самакапання ў душы, а адсюль нязбытныя ў яго вершах ноткі песімізму, што дало повад некаторым нашым крытыкам залічваць Валерыя Маракова ў катэгорыю пісьменнікаў, якія знаходзяцца пад непасрэдным уплывам Ясеніна і інш. упадачных паэтаў.

...У яго вершы ўкладвалася надзвычайна многа перажыванняў, амаль кожны верш аўтар імкнуўся пісаць, чэрпаючы матэрыял з глыбіні душы, інакш кажучы – надрыў, які не пасуе да маладога песняра.

Ты бачыш, ў крыві мае рукі,
Я сэрца з грудзей вырываў,
Каб вольныя дзіўныя гукі
Краіне сваёй дараваць.

...Пісьменнік яшчэ слаба ўявіў і зразумеў наша сацыялістычнае будаўніцтва".

* З рэцэнзіі У.Сядуры ("Маладняк". № 1):

"Пялёсткі" нашаю крытыкаю былі ўзяты ў штыкі за поўную адсутнасць грамадскіх матываў.

...У глыбока-песімістычнай "Маёй паэме"— адрыў ад здаровага творчага жыцця і ўцяканне ў нетры багемы дасягнулі таго пункту развіцця, калі пытанне – ці разам з пралетарыямі, ці супраць іх (сярэдзіны не павінна быць) – у сваім выражэнні давала – супраць.

...Адсутнасць новых сацыяльных карэнняў у творчасці Маракова дае надзвычайна адчуваць сябе.

Часам дае аб сабе знаць пэўны псіхічны разлад паэта, налёт песімізму:

Цені бягуць другія,
Сніцца сэрцу другі экран...
Дзе ж вы, мае дарагія,
Дзе ж ваш раскінуўся стан?

Песні спяваюць навокал.
Вецер звініць і звініць.
Мабыць, яшчэ далёка,
Мабыць, аб іх мне не сніць.

У казках, і песнях, і ў думах,
У шуме і звоне дарог
Сэрца, сагрэтае сумам,
Роднаму краю збярог.

Улюбёным вобразам паэта з'яўляецца вобраз дзяўчыны, але не вобраз дзяўчыны-работніцы і сялянкі – актыўных барацьбітоў за сацыялістычнае заўтра, што ідуць у нагу з мужчынамі, а вобраз жанчыны, сумуючай па ўтрачанай юнацкасці.

Амаль усе матывы творчасці паэт выносіць на лона прыроды і, яскрава падкрэсліваючы, становіць яе фонам, на якім дае пэўнае выражэнне сваім настроям.

Лепшымі мастацкімі мясцінамі ў творчасці В.Маракова з'яўляюцца малюнкі прыроды:

Ліпнёвы вечар дагараў
Ў абдымках ласкавых і кволых.
І тонкагубы вецер граў
Над даллю ніў, палёў і сёлаў.

Такою дзіўнаю гаворкай,
Такою ласкавай красой,
Як гэта даль, як гэта зорка
Над гэтай буйнай паласой...

Хтось кінуў ружы на закаце
Жывой і сонечнай рукой,
І, нібы казачная маці,
Ноч навявала ім спакой.

Ў адзенне змроку, забыцця
І сну,

Бяссоння і трывог
Сюды прыходзіў з небыцця,
Хто пакахаў, хто верыць мог.

Лепшыя мастацкія вобразы ў творчасці В.Маракова належаць вобразам прыроды:

Закат крывавымі і тонкімі рукамі
Матаў істужку сонечнай зары.

У сучасным савецкім горадзе паэт адчувае сябе непрыстасаваным. Толькі на лоне прастораў прыроды паэт знаходзіць спакой:

Тут так хораша, промняў так многа...
Срэбны месяц прылёг на кусты.
Я іду сваёй роднай дарогай,
Зноў вясёлы і зноў малады.

Валеры Маракоў павінен усвядоміць неабходнасць карэннага перавыхавання сябе шляхам безупыннай працы над пераробкай сваёй сацыяльнай прыроды, усяго строю сваёй псіха-ідэалогіі ў напрамку адпаведнасці задачам рабочага класа ў сацыялістычным будаўніцтве.

Маракову неабходна ўключыцца ў штодзённую практыку рабочага класа... наблізіцца да пралетарскай літаратуры.

Толькі ў карэннай, арганічнай пераробцы свайго нутра, сваёй сацыяльнай прыроды ў адпаведнасці з задачамі рабочага класа ляжаць пуціны да далейшага росту і творчага росквіту паэта".

* У № 1 "Чырвонай Беларусі" пад рубрыкай "Па Чырвонай Беларусі" паведамляецца аб тым, што ў Менск з Дрэздэна прыязджалі нямецкія пісьменнікі Р.Кальтофэн і М.Кальтофэн, якія "друкавалі ў беларускай прэсе цэлы шэраг сваіх апавяданняў". На змешчаным у часопісе групавым здымку бачым у рэдакцыі "Чырвонай Беларусі" В.Маракова, М.Чарота, Ал.Некрашэвіча (загадчыка Белдзяржвыдавецтва), М.Лынькова, П.Галавача, А.Александровіча, У.Хадыку. У той жа "Чырвонай Беларусі" змешчаны групавы фотаздымак беларускіх і расійскіх пісьменнікаў: Марк Коласаў, Фёдар Гладкоў, Алесь Некрашэвіч, Багданаў, Пятроў-Груман, Васіль Сташэўскі, Уладзімір Кірылаў, Рэст, Андрэй Александровіч, Валеры Маракоў, Міхась Лынькоў, Уладзімір Хадыка, Кузьма Чорны.

Часопіс таксама інфармуе, што "ў апошні час выйшаў з



У рэдакцыі газеты “Чырвоная Беларусь” з нямецкімі пісьменнікамі. У першым радзе (злева направа): М. Лынькоў, Р. Кальтофэн, П. Галавач, А. Некрашэвіч, А. Александровіч, М. Кальтофэн; у другім радзе: М. Чарот, У. Хадыка, В. Маракоў, Бенгіна. 1931 г.



Расійскія літаратары ў гасцях у беларускіх калегаў.
У другіх радзе (справа налева): К. Чорны, У. Хадыка, М. Лынькоў, В. Маракоў, В. Сташэўскі, А. Александровіч. 1931 г.


Змітрок Астапенка.
1930-я гг.

друку на расійскай мове альманах беларускай паэзіі, у якім надрукаваны творы: Я.Купалы, Я.Коласа, М.Чарота, А.Александровіча, П.Глебкі, В.Маракова, А.Звонака, К.Крапівы, Ц.Гартнага, Я.Бобрыка і інш".

У тым жа нумары "Чырвонай Беларусі" надрукаваны верш В.Маракова "Леніну".

ЛЮТЫ

Надрукаваны вершы:
"Шануй, мой голуб, маладосць..." ("Маладняк". № 2);
"Адтуль, дзе палыхаюць домны..." ("Чырвоная Беларусь". № 3).

* У № 2 "Полымя" паведамляецца: "У БелАППе арганізавалася творчая група пад назваю "Ударны пост"[1]. У групу ўвайшлі таварышы: З.Астапенка, П.Галавач, А.Куляшоў, В.Маракоў, Б.Мікуліч, Ю.Таўбін, С.Шушкевіч".

"Групаю "Ударны пост" праведзены шэраг заняткаў, на якіх былі заслуханы творчыя справаздачы В.Маракова, Ю.Таўбіна, З.Астапенкі, А.Куляшова. Гэткім парадкам будуць заслуханы ў бліжэйшы час творчыя справаздачы і іншых членаў групы".

У тым жа нумары часопіса паведамляецца, што "В.Маракоў здаў у друк аповесць у прозе. Працуе над новаю паэмай".

САКАВІК

* У № 3 "Полымя" паведамляецца, што В.Маракоў "здаў у БДВ да друку "Зборнік выбраных вершаў".

* Друкуецца верш "Сінімі шляхамі на ружовы шлях..." ("Полымя". № 3).

КРАСАВІК

* У № 4 "Маладняка" паведамляецца: "5-га красавіка адбыўся творчы вечар Валерыя Маракова і Янкі Бобрыка. Паэты зачыталі свае апошнія творы. У спрэчках выступалі т.т. Мікуліч, Галавач, Хведаровіч, Кучар і інш. Зазначала-

[1] Пазней усе члены творчай групы “Ударны пост”, акрамя А.Куляшова, былі рэпрэсаваны.

ся, што Валеры Маракоў пачынае пакрысе адыходзіць ад вузка-суб'ектыўнай лірыкі і паступова набліжаецца да метадаў сацыялістычнага будаўніцтва, праўда, з вялікімі цяжкасцямі. Але пры безумоўных здольнасцях паэта прыходзіцца спадзявацца, што паэт у хуткім часе цалкам пераключыцца ў сваёй творчасці на адлюстраванне нашага сягонняшняга дня..."

* Пачынае працу Беларускі дзяржаўны вышэйшы педагагічны інстытут (з 1935 г. - Менскі Вышэйшы Беларускі педагагічны інстытут).

* Красавік 1931 – чэрвень 1934 – вучоба В.Маракова ў Менскім Вышэйшым Белпедінстытуце імя М.Горкага.

* З успамінаў С.Шушкевіча:
"У красавіку 1931 года пасля здачы экзаменаў В.Маракоў быў залічаны студэнтам крытыка-творчай секцыі педінстытута[1]" (Шушкевіч С. "Успаміны пра Валерыя Маракова" // Роднае слова. 1998. № 11. С. 193.

* З успамінаў С.Грахоўскага:
"У 1932 годзе я паступіў на літаратурны факультэт педінстытута імя Горкага. Было трохі дзіўнавата - чаму імя Горкага? Аляксей Максімавіч інстытутаў не канчаў, адразу прайшоў "Мои университеты". Тады ўсё здавалася нармальным. Я вучыўся і адначасова працаваў у рэдакцыі "Чырвонай змены". Маракоў займаўся на другім курсе крытычна-творчага аддзялення. Гэта быў своеасаблівы літаратурны ліцэй для маладых і ўжо прыкметных паэтаў і крытыкаў. Самаю папулярнаю асобаю быў, вядома, Валеры Маракоў — аўтар кніг "Пялёсткі", "На залатым пакосе" і "Вяршыні жаданняў".

Калі на шумным і людным калідоры з'яўлялася яго здалёк прыкметная постаць, гамана сціхала, усе расступаліся, маладзейшыя прыхільнікі шапталіся: "Вунь Маракоў ідзе". Я ганарыўся нашым знаёмствам. Валеры заўсёды вітаўся за руку, пытаўся, што пішацца, часам тут жа аддаваў для "Чырвонкі" адзін або некалькі вершаў. Валеры часам расказваў, што часта бывае ў Купалы. Гасцінная цёця Уладзя шчодра частавала ў той галодны час маладога паэта хатнімі прысмакамі, мабыць, прывезенымі з Акопаў. Калі заседжваліся дапазна, дзядзька Янка пакідаў Валерыя начаваць у сваім кабінеце, бо да свайго Козырава малады госць мусіў быда-

[1] З'явілася з ініцыятывы П.Галавача.



Галіна Раманоўская. 1930-я гг.



Ядвіга Бяганская. 1930 г.



Наталля Вішнеўская. 1920-я гг.

біраца пехатою. Апрача дзвюх ліній трамвая, ніякага гарадскога транспарту тады яшчэ не было" ("Голас радзімы". 1998. 7 мая).

* З успамінаў Э.Агняцвет:

"За вучэбнымі сталамі былі асобныя брыгады: за нашым сталом — вельмі здольная пісьменніца Г.Раманоўская, якая пісала па-польску, перакладчыца Г.Гайлевіч, будучыя педагогі П.Рэвут, Н.Карабейка, Гурыновіч і адзіны мужчына С.Шушкевіч.

Разам з Валерыем Мараковым, як помніцца, "засядалі" за адным сталом паэты Ю.Лявонны, З.Півавараў, крытыкі П.Хатулёў і С.Левін і педагог Р.Скаліна. Быў яшчэ адзін стол — паэты З.Бірала (Бульбянік), С.Мурзо, празаік Я.Казека і некалькі педагогаў" ("Культура". 1998. 26 чэрв.).



Міхайла Піятуховіч. 1920-я гг.

* З успамінаў П.Прудніка ва:

"Студэнт Валеры Маракоў быў надзвычай сціплы чалавек. Каб не быць галаслоўным, раскажу пра адзін выпадак, які я пачуў ад ягонага аднакурсніка Захара Біралы. Ішлі семінарскія заняткі па савецкай беларускай літаратуры на 3 курсе літаратурна-творчага аддзялення педфака БДУ[1]. Вёў іх прафесар Піятуховіч. Ён акінуў позіркам аўдыторыю і сказаў:

— Тэма нашых сённяшніх заняткаў — паэзія маладня-

---

[1] Відаць, маецца на ўвазе крытычна–творчае аддзяленне Менскага Вышэйшага Белпедінстытута.


Нэлі Маркава.
1920-я гг.

коўцаў 2-й паловы 20-х гадоў. Хто б з вас, таварышы, зрабіў нам кароткі, але змястоўны агляд паэзіі гэтага часу і назваў імёны лепшых яе творцаў?

Потым ён перавёў свой зыркі позірк на Маракова і прамовіў:

— Таварыш Маракоў, можа б, вы ўзялі на сябе гэтую пачэсную справу? Бо вы самі варыліся ў тым бурлівым катле. Так што вам і ўсе карты ў рукі.

— Я не супраць, калі ласка, — адказаў той.

— Тады пачынайце.

І вось Маракоў патраціў мінут 10 на агляд тагачаснай паэзіі. І назваў імёны творцаў:

— Тодар Кляшторны, Паўлюк Трус, Пятро Глебка, Пятрусь Броўка, Уладзімір Хадыка, Сяргей Дарожны, Максім Лужанін, Аркадзь Моркаўка, Алесь Вечар, Алесь Звонак, Янка Туміловіч... Працягваць ці хопіць?

— Працягвайце.

— Віктар Казлоўскі, Міхась Багун, Язэп Падабед, Мікола Хведаровіч, Станіслаў Шушкевіч, Юрка Лявонны, Сцяпан Ліхадзіеўскі, Захар Бульбянік і троіца мсціслаўцаў — Змітрок Астапенка, Юлі Таўбін і Аркадзь Куляшоў.

— А што, паэтэс у вас не было?

— Чаму не было. Хоць не густа, але былі і ёсць. Напрыклад, нашы цудоўныя Зіна Бандарына і Яўгенія Пфляўмбаум, а таксама прыгажуня палачанка Ганна Брэская. Ну, здаецца, і ўсё.


Ганна Базыленка.
1920-я гг.


Яўгенія
Пфляўмбаум.
1920-я гг.


Ганна Брэская.
1930-я гг.

— Не, не ўсё. Вы забыліся назваць імя самай яркай і каларытнай паэтычнай асобы з гэтай катэгорыі.

— Каго вы маеце на ўвазе, прафесар?

— Паэта Валерыя Маракова.

Пасля гэтых словаў Піятуховіча Маракоў адразу пачырванеў, пабарвавеў. А потым нават паблядне ў.

— Па-першае, гэтая асоба не такая важная, каб яе называць. А па-другое, з майго боку гэта было б вельмі нетактоўна.

— А што тут нетактоўнага? Студэнт Валеры Маракоў назваў паэта Валерыя Маракова.

— Усё роўна непрыгожа, — не здаваўся Маракоў.

— Дзякуй за інфармацыю, толькі вы не крыўдуйце на мяне. Я гавару гэта шчыра" (Пруднікаў П. "Паэт эмоцый" // Маладосць. 1998. № 12. С. 204-205).

* З успамінаў С.Шушкевіча:

"В.Маракова любілі выкладчыкі педінстытута – акадэмік І.Замоцін, прафесары П.Бузук, М.Піятуховіч – за паспяховую вучобу, за глыбокія веды па мастацкай літаратуры. Ён смела падымаў голас супраць крыклівых і грубых сацыёлагаў. Дэкан інстытута знайшоў пад падушкай студэнта – былога віцебскага рабочага (Сяргея Мурзо. – *Л.М.*) – два тамы твораў С.Ясеніна і патрабаваў выключыць з інстытута чытача "кулацкіх упадніцкіх твораў". На агульным студэнцкім сходзе В.Маракоў выступіў, нагадаў зборнік С.Ясеніна "Русь Савецкая", "Паэму пра 26", даказаў, што яго сябар ведае, як адрозніць станоўчае і патрэбнае ад шкоднага і слабага. Студэнт скончыў інстытут разам з усімі таварышамі крытыка-творчага аддзялення" (Шушкевіч С. "Успаміны пра Валерыя Маракова" // «Роднае слова». 1998. № 11. С. 193).

ТРАВЕНЬ - КАСТРЫчНJК

* Друкуюцца вершы:

"Страшныя сны навеяла гісторыя...", "Я помню, яблыні цвілі..." ("Маладняк". № 5);

"Горад грыміць і грыміць...", "Стаю прад Пушкіным адзін..." ("Чырвоная Беларусь". № 11-12).

* У № 8 "Полымя" - кароткая інфармацыя: "Валеры Маракоў піша драму "Ксеня Лабанок", якая адбівае барацьбу за кадры".

У тым жа часопісе паведамляецца:

"У доме Кам. Асветы адбыўся вялікі інтэрнацыянальны вечар сустрэчы беларускіх і яўрэйскіх пісьменнікаў з дэле-



Міхась Лынькоў. 1920-я гг.

гатамі з'езду польскіх пралетарскіх пісьменнікаў. Вечар адчыніў сакратар БелАППа т.Лынькоў.

Пад бурныя воплескі ў прэзідыум запрашаюцца т.т. Бруна Ясеньскі, Мысліньскі, К.Чорны, Каваленка (сакратар ВОААПП), Гараўскі, Нэйман (рэдактар "Трыбуны Радзецкай"), Броўка, Маракоў, Сташэўскі і інш."

* У артыкуле М.Аляхновіча "Паэзія БелАППу на пераломе" ("Чырвоная Беларусь". № 11-12) разглядаецца творчасць М.Чарота, А. Александровіча, І.Харыка, В.Маракова, П.Броўкі, А.Звонака.

Пра В.Маракова М.Аляхновіч піша:

"Творчасць Валерыя Маракова характарызуецца набліжэннем да нашай сучаснасці, але паэт да гэтага прыйшоў віхлястым шляхам.

Ад яго першага зборніка "Пялёсткі" (1926) вее сумам і ўпадніцтвам. Вершы прасякнуты сентыментальна-меланхалічным настроем... Убачыўшы горад, ён адвярнуўся ад яго не ў марах, а ў рэчаіснасці, адчуваючы няўхільнасць руйнавання старога патрыярхальнага жыцця. Ад гарадской культуры ён імкнецца на ўлонне прыроды.

У наступным зборніку "На залатым пакосе" (1927) ён спрабуе адысці ад ранейшых настрояў. Праўда, на жыццё ён глядзіць здалёк і ўспрымае яго павярхова – толькі вонкавы бок. Адсутнасць шырокага светапогляду прыводзіць да таго, што глыбокія ўнутраныя працэсы жыцця застаюцца па-за яго ўвагай. Як працяг эгацэнтрызму ранніх вершаў мае месца поза, любаванне сабой.



Валеры Маракоў. 1931 г.

Апошняя кніжка "Вяршыні жаданняў" (1930) паказвае больш значнае набліжэнне да сучаснасці. Ён пачынае ўспрымаць працэсы жыцця не як староннi наглядач, а як непасрэдны ўдзельнік. Ён спрабуе ў свае творы прынесці рэвалюцыйнасць. Але трэба зазначыць, што гэты зрух у бок новага яшчэ носіць характар стыхійнасці, а не пранікнення ў глыбіню з'яў.

Калі яго ранейшыя вершы былі поўныя глыбокага лірызму, непасрэднасці, фарбнасці, дык новыя творы, якія паказваюць шлях набліжэння Маракова да пралетарскай літаратуры, яму яшчэ цалкам не ўдаюцца. У вершы "Адтуль, дзе палыхаюць



Першы ўсесаюзны з’езд польскіх пралетарскіх пісьменнікаў. Сядзяць: К. Крапіва, М. Лынькоў, Р. Стандэ, М. Зарэцкі, З. Аксельрод. Стаяць: З. Астапенка, В. Маракоў, А. Вольны, П. Броўка. 1931 г.

домны..." і інш. ён падае толькі вонкавасць з’яў, не прасякаючы ў іх глыбіню".

* "17 жніўня адкрыўся І-шы ўсесаюзны з’езд польскіх пралетарскіх пісьменнікаў. У з’ездзе ўдзельнічалі Р. Стандэ, Бруно Ясеньскі і інш." (газ. "Рабочий". 17-22 жніўня).

* У № 16 "Чырвонай Беларусі" змешчаны фотарэпартаж з Першага ўсесаюзнага з’езда польскіх пралетарскіх пісьменнікаў. На адным са здымкаў: Р.Стандэ (польскі паэт, які жыў у Маскве), К.Крапіва, М.Лынькоў, М.Зарэцкі, З.Аксельрод, З.Астапенка, В.Маракоў, А.Вольны, П.Броўка.

ЛІСТАПАД – СНЕЖАНЬ

* Выйшла з друку кніга апавяданняў А.Новікава-Прыбоя "Па цёмнаму" ў перакладзе В.Маракова.

* Спыняе сваё існаванне літаратурнае аб’яднанне "Узвышша".

* "26 лістапада ў Доме кампроса адкрылася 1-я Менская канферэнцыя Асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў" ("Рабочий". 27 лістапада).

* У кнізе "Паэзія БелАПП" надрукаваны перакладзены Ліўшыцам на яўрэйскую мову верш В.Маракова "Тыдзень".

## 1932

*Чалавек —*
*гэта вам не мумія, —*
*ўзяў са склепу*
*і выштурхнуў вон,*
*чалавек —*
*гэта сад*
*з залатымі думамі,*
*дзе па жылах праходзіць*
*блакітны агонь.*

"Рахунак паэта,
пададзены да аплаты"

СТУДЗЕНЬ

Надрукаваны творы:
"За тысячы новых тваіх Асінбудаў...", "Ноч трывогі і паэты на прарыве...", "Рахунак паэта, пададзены да аплаты" ("Маладняк". № 1).

* З рэцэнзіі У.Сядуры "Камсамол у беларускай паэзіі" ("Сюсюканне па адрасу камсамола", "Маладняк". № 1):

"Маракоў і Кляшторны не здолелі належным чынам перабудаваць сваю творчасць у адпаведнасці з патрабаваннямі рэканструкцыйнага перыяду. Камсамолу ў творчасці гэтых паэтаў адведзена месца, вядома, менш за ўсё. У ранейшыя гады ў іхняй творчасці камсамол быццам і не існаваў. І замест таго, каб падысці да паказу камсамола на аснове ўсебаковага азнаямлення з жыццём камсамола, - яны адбаярваюцца адпіскамі".

ЛЮТЫ – КРАСАВІК

* 26 лютага пачынае выдавацца газета "Літаратура і мастацтва".

* Надрукаваны верш "Мой дзень пачынаюць на фабрыцы" ("Маладняк". № 4).

* У № 4 "Маладняка" і "Чырвонаармейскай праўдзе" за 26 ліпеня надрукаваны перакладзены В.Мараковым з кітайскай мовы верш Эмі Сяо "Нанкін Род".

* У № 8 "Чырвонай Беларусі" змешчаны шарж Г.Дакальскай (цяпер жыве ў штаце Каліфорнія, ЗША) і пародыя С.Каршуна (С.Грахоўскага) на Валерыя Маракова "Сяджу пад Пушкіным адзін...".

* У № 4 часопіса "Маладняк" у хроніцы "Брыгада БелАПП на перыферыі" паведамляецца, што "з 10 лютага па 10 сакавіка на Рэчыцкай запалкавай фабрыцы[1] "10-ты Кастрычнік" працавала ў парадку прахаджэння практыкі група студэнтаў літфака педінстытута. У групу ўваходзілі таксама пісьменнікі – члены БелАППа. На вялікіх літаратурных вечарах з чыткай сваіх твораў выступалі т.т. Я.Зазека, Ю.Лявонны, В.Маракоў, С.Шушкевіч, Ю.Бітус[2], С.Мурзо. Праф. Піятуховіч зрабіў даклады. Напярэдадні ад’езда брыгада падрыхтавала літаратурную старонку для раённай газеты "Рэчыцкая праўда". У старонцы друкуюцца новыя вершы Юркі Лявоннага, Валерыя Маракова, Станіслава Шушкевіча, Юркі Бітуса. А таксама артыкул з кароткай характарыстыкай творчасці пісьменнікаў, што працавалі на фабрыцы".

* 30 красавіка ў "ЛіМе" з’яўляецца артыкул С.Куніцкага, у якім ён піша, што рэцэнзія У.Сядуры на зборнік "Вяршыні жаданняў" "мае грубыя палітычныя ляпсусы, няправільныя ўстановы, няправільныя ацэнкі...".

МАЙ

* В.Маракоў разам з М.Зарэцкім, М.Лужаніным і іншымі пісьменнікамі вітае Я.Купалу з 50-годдзем з дня нараджэння.

З успамінаў Я.Раманоўскай (з асабістага архіва аўтара):

---

[1] Дзе і быў напісаны верш В.Маракова “Першы дзень на запалкавай фабрыцы”.

[2] Далейшы лёс Ю.Бітуса невядомы.

"Усе госці здаваліся нам вельмі прыгожымі, а Маракова і дзядзьку Янку аб"ядноўвала нейкая асаблівая абаяльнасць, якую мы яшчэ неаднойчы заўважалі пры іх сустрэчах.

Самое свята паўвекавой жыццёвай дарогі песняра было яркім, непаўторным. Вітанні сяброў і паплечнікаў, зычанні моладзі, кветкі, усмешкі, тэлеграмы... Калі ж госці вясёлай гаманой выйшлі разам з Іванам Дамінікавічам у сад, усе ўлюбёныя Купалам ружы загарэліся насустрач радасным святлом. Гэткай прыгожай неспадзяванцы ўсе здзівіліся. Дзядзька Янка ўзрушана і ўдзячліва запытаўся, хто прыдумаў гэты казачны дарунак. А задумка належала Валерыю Маракову, чалавеку ўдумліваму і адкрытаму, які часта бываў у доме Купалы, паказваў Івану Дамінікавічу свае вершы, чуйна ўслухоўваўся ў падказкі і парады. Мабыць, таму некаторыя з вершаў Маракова па настраёвасці і паэтычнай вытанчанасці блізкія да Купалавых: духоўная роднасць, як у люстэрку, адбіваецца ў пластыцы радкоў".

* З успамінаў П.Пруднікава:

"Янка Купала вельмі любіў Маракова. Ён заўсёды называў яго ласкава: "Валерык", "Валік". Неаднойчы запрашаў яго дахаты, каб "за шклянкай гарбаты" паслухаць яго новыя вершы і прачытаць свае яму. Ён гаварыў, што Маракоў — гэта будучыня нашай беларускай паэзіі. На вялікі жаль, прарочыя словы народнага паэта не збыліся: перашкодзілі цёмныя сілы. Яны адабралі ў Валерыя самае каштоўнае — жыццё. Купала часам запрашаў Валерыя і на сумесныя літаратурныя выступленні (напрыклад, на вечарыну з нагоды 40-годдзя творчай дзейнасці М.Горкага. – *Л.М.*)" ("Маладосць". 1998. № 12).

* 27 траўня з'яўляецца пастанова ЦК КП(б)Б "Аб перабудове літаратурна–мастацкіх арганізацый БССР".

* З успамінаў Ю.Віцьбіча:

"1932 год. Менск. Дом Пісьменніка. Ён двухпавярховы з мезанінам і падвалам. На гэтых двух паверхах месціліся рэдакцыі "Полымя Рэволюцыі"[1] і "Літаратура і мастацтва", Літаратурны Фонд, кабінет сакратара парткома Гурскага, кабінет старшыні Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР Клімковіча, зала для агульных паседжанняў і г.д. У падвале знаходзіўся рэстаран. У той самы дзень наверсе ў залі адбывалася якраз агульнае паседжанне, прысвечанае абга-

[1] На той час часопіс "Полымя" яшчэ не называўся "Полымя Рэвалюцыі".


А. Дудар, В. Маракоў, М. Нікановіч. 1932 г.

варэнню сталінскае канстытуцыі. Адсутнічаць на такім паседжанні не рэкамендавалася. Таму ўнізе ў рэстаране за адным з ягоных столікаў сядзелі толькі Алесь Дудар, Уладзімір Хадыка і Валеры Маракоў. Алесь Дудар незадоўга перад гэтым вярнуўся з ссылкі, якую адбываў за свой верш "Вецер з Усходу"[1]. Праз некалькі год, пазней (29.10.1937. – *Л.М.*) яго расстраляюць. Таксама праз некалькі год (12.5.1940. - *Л.М.*) жорсткая скала на беразе Байкала раздушыць у часе выбуху савецкага катаржніка Уладзіміра Хадыку. Звар'яцеў у адным з Сібірскіх лагераў Валеры Маракоў (быў расстраляны разам з Алесем Дударом. – *Л.М.*). А тады яны моўчкі пілі горкае піва. Час ад часу да іх даляталі зверху выкрыкі Клімковіча:

"Вялікі Сталін... Адзіная ў свеце канстытуцыя... Вялікі брацкі рускі народ..."

Маракоў адштурхнуў у бок кухаль і, працягнуўшы да гары руку, амаль шэптам прыгадаў Блока:

Ты будешь доволен собой и женой,
Своей конституцией куцей,
А вот у поэта всемирный запой,
И мало ему конституций.

Нечакана адчыніліся дзверы і ўвайшоў Янка Купала. Ён прыйшоў не з залі, бо на ягоным паліто яшчэ не паспелі растаяць сняжынкі. Трох маладзейшых паэтаў агарнула радасць. Яны цяпер тут не адны. З імі Янка Купала. Яны сустрэлі яго з тэй непаўторнай цеплынёй, з якой сустракалі толькі Янку Купалу. Крыху счакаўшы, Уладзімір Хадыка звярнуўся да яго з просьбай:

— Дзядзька Купала, прачытайце нам што-небудзь сваё новае.

І Купала прачытаў першы раздзел сваe новае паэмы "Над

[1] А.Дудар быў высланы за верш "Пасеклі наш край папалам...".

ракой Арэсай". Паэма была прысвечана будаўніцтву камуны ў Палессі і з'яўлялася спробай паэты зразумець савецкую рэчаіснасць. Тры маладзейшыя паэты ніколі яшчэ нічога не чулі больш убогага па форме і па зместу. Ім сталася сумна і страшна. Ім сталася балюча за Купалу. Скончыўшы, ён запытальна паглядзеў на іх, што стараліся не глядзець яму ў вочы. Яны вельмі любілі Купалу, каб сказаць яму няпраўду. І тады ён хутка ўстаў:

— Дзякую за шчырасць. І, падняўшы руку да паверхаў, дадаў:

— А там ёю захапляюцца.

І раптам, ужо ўзяўшыся за клямку дзвярэй, звярнуўся да Алеся Дудара, прыгадаўшы радкі з ягонага вершу:

Ішлі людзі праз Себеж на захад,
Не згубіўшы, шукалі чагосьці.
І пад замчышчам сохнуць і чахнуць
Беларускія белыя косці.

Ніхто ніколі не бачыў, каб мужны, нягнуткі, заціяты Алесь Дудар плакаў..." (часопіс "Шыпшына". 1950. №9).

ЧЭРВЕНЬ

* Друкуецца верш "Мой сябра Мікола Капусцін" ("ЛіМ". 15 чэрвеня).

* У № 5-6 "Маладняка" ў хроніцы змешчана "Рэзалюцыя пратэсту пісьменнікаў гор. Менску" , дзе ёсць словы: "Рукі прэч ад беларускіх гімназій і пачатковых школ <...> у Заходняй Беларусі".

Сярод пратэстуючых Я.Купала, Я.Колас, К.Чорны, К.Крапіва, В.Маракоў.

ЛЈПЕНЬ – ЖНЈВЕНЬ

* Друкуюцца вершы:

"Ліст паэту Петрусю Броўку" ("ЛіМ". 10 ліпеня);

"Ля кастра чалавечага ўсходу надзей" ("Беларусь калгасная". № 8);

"Расплачваецца за маладосць" ("Чырвоная Беларусь". № 14).

ВЕРАСЕНЬ - СНЕЖАНЬ

* Друкуецца верш "Дарогаю ў штаб: Максіму Горкаму" ("Савецкая Беларусь". 25 верасня).

* У газеце "Рабочий" за 28 верасня, у артыкуле "Празднование 40-летнего юбилея М.Горького в Минске" паведамляецца: "24 верасня ў Доме Камасветы адбыўся вечар, на якім выступілі з дакладамі Лынькоў, Аляхновіч... з прывітаннямі народны паэт Беларусі Янка Купала, Валеры Маракоў і інш.".

* У рэкламнай нататцы "Падпішыцеся на 1932 год на штомесячны літаратурна-мастацкі часопіс "Беларусь калгасная" паведамляецца, што ў склад супрацоўнікаў гэтага выдання ўваходзіць В.Маракоў.

* У зборніку "Ха" (шаржы До Вэ Бэкі) змешчаны "Пародыі Сабасцяна Старобінскага" на радкі з паэмы В.Маракова "Таварыш Нюрын".

* "В Белгостеатре состоялся торжественный вечер, посвященный 50-летнему юбилею народного поэта БССР Якуба Коласа. Л.Бэндэ сделал доклад о творчестве поэта. С приветствием от Союза советских писателей Белоруссии выступили М.Лыньков и И.Харик. Якуб Колас выступил с ответным словом". ("Рабочий" за 18 снежня).

* У "ЛіМе" за 10 верасня змешчана віншавальная тэлеграма Янку Купалу ў сувязі з 50-годдзем з дня нараджэння:



Янка Купала.
1934 г.

*"Слаўны паэта!*
*Мы шчаслівы, што дзелім з Вамі радасць Вашага свята.*

*Анатоль Вольны, Міхась Зарэцкі, Рыгор Кобец, Максім Лужанін, Валеры Маракоў, Станіслаў Шушкевіч, Уладзімір Хадыка."*

* У канцы 1932 г., будучы ў Маскве, і ў пачатку 1933 г. з Віцебшчыны Ю.Віцьбіч у лістах да Пятра Глебкі аналізуе творчасць некаторых паэтаў і празаікаў.

Хочацца адзначыць "смеласць" Ю.Віцьбіча. Жывучы ўсяго некалькі месяцаў на Беларусі, ён ужо змог "ацаніць" "таленаві-тага, здольнага... пра-



Юрка Віцьбіч.
1960-я (?) гг.

вадыра (? – *Л.М.*) нейкай плыні, імітатара Лермантава і Надсана, купецкага сына" (? – *Л.М.*) В.Маракова, "некультурнага" У.Хадыку, "хрызантэмную" Я.Пфляўмбаум, "поўнага нуля" М.Хведаровіча, З.Бандарыну (пра яе Ю.Віцьбіч напісаў увогуле непрыстойна), крытыка "на бязлюддзі" У.Сядуру, "абарыгена" М.Нікановіча, "поўнага банкрута" С.Дарожнага, "выдатнага "версіфікатара" М.Чарота. Ю.Віцьбіч асуджае брудныя "метады" Б.Мікуліча і Ю.Лявоннага. Разам з тым Ю.Віцьбіч прарочыць вялікую будучыню "сапраўдным паэтам Нортману, Бацюшкаву, Швейдалю". А Алесю Кучару яму "хочацца моцна ціснуць руку..."

## 1933

*Навокал світае,*
*і вусны зары*
*кратаюць усмешкаю*
*цені шпалераў,*
*і хочацца верыць,*
*мае вы сябры,*
*што ўсё гэта —*
*поўнае сэнсу і веры,*
*іграе жыццё маё,*
*чортпадзяры!*

"Яшчэ раз пра паэзію
і ружы"

СТУДЗЕНЬ

* У "ЛіМе" за 28 студзеня пад рубрыкай "Пісьменнікі і крытыка" В.Маракоў паведамляе: "Друкую ў ДзВБ зборнік новых вершаў пад назваю "Права на зброю". Апроч таго, здаю ў друк зборнік перакладаў кітайскага пралетарскага паэта Эмі Сяо, зроблены паводле расійскіх тэкстаў, а таксама мяркую скончыць працу над лібрэта "Куды ідзеш?"

* У "ЛіМе" за 18 студзеня надрукаваны эпіграмы Міхася Багуна на Валерыя Маракова і Уладзіміра Хадыку.

* У № 1 часопіса "Заклік" у раздзеле "Крытыка і бібліяграфія" змешчаны артыкул брыгады аспірантаў БАН Р.Ляпіча, Л.Фіглоўскай, І.Кобер "У палоне памылак", у якім разглядаюцца артыкулы Ал.Кучара перыяду 1929-1931 гадоў. Некалькі разоў згадваецца прозвішча В.Маракова (с. 84, 87):

"А.Кучар цалкам знаходзіцца ў палоне пераверзіянскай канцэпцыі, і таму, напрыклад, Маракова ён лічыў не селяні-нам і не рабочым, бо бацька Маракова, як тлумачыць Кучар, быў рабочым, а маці – сялянка, і гэта, як піша Кучар, "адыгрывае выключна важную ролю ў творчасці паэта" і "прывяло паэта да такога раздарожжа, што кідаўся ад гораду да вёскі".

* На вокладцы таго ж самага часопіса сярод аўтографаў Я.Коласа, Я.Купалы і інш. ёсць роспіс В.Маракова.

ЛЮТЫ - ТРАВЕНЬ

* Надрукаваны верш "Мая каханая – рэдактар газеты" ("Заклік". № 2).

* З успамінаў Э.Агняцвет:

"Я была рэдактарам курсавой насценгазеты. Неяк з нашым мясцовым мастаком мы стаялі ў калідоры, прыдумвалі новы нумар. Ён удала маляваў вясёлыя шаржы, збіраўся і мяне "размаляваць". Калі я засталася адна, да мяне падбег Маракоў. Сіні дагледжаны гарнітур, блакітны гальштук вельмі пасавалі да яго вачэй і залацістай галавы. Ён заўсёды апранаўся згустам. І вось дастаў ён з верхняй кішэні пінжака некалькі спісаных лісточкаў:

— Прачытай і падумай, каму гэты верш адрасаваны?

Загаловак быў такі: "Мая каханая — рэдактар газеты".

...Колькі гадоў прайшло-праляцела, а як успомніцца Валеры Маракоў, адразу згадаецца, выблісне гэтая незабыўная з юнацтва карціна!.. Чытаю радкі, гарачыя, эмацыянальныя, ласкавыя:

На тысячы вёрст
    маё каханне.
Рэйкі аорт
    Узнімаюць гарачую кроў —
Міліёны крывінак
    у блакітна-пякучым тумане


Эдзі Агняцвет і Станіслаў Шушкевіч з аднакурсніцамі. 1930-я гг.

Загараюцца вечнай зарой.
Я пішу ёй
  сагрэтыя сонцам гімны,
За вокнамі ж мяцеліцы
  б’ецца глухі вадаспад.
Белыя цені
  заходзяць у белы
    застуджаны сад,
І скокі вядзе карагод іх
    нястрымны.

Валеры кажа:
— Гэта табе!
— Не мані! Пры чым тут я?
— А хто рэдактар газеты? А ў каго тонкія бровы, як два кавалкі іспанскіх мячоў?
- Ты пішаш: "За капейкі свайго ганарару я хадзіў з ёй у кіно". А мы ж з табой ні разу не былі ў кіно!
— А для чаго існуе паэзія? Калі не было, то магло быць!


Пятро Глебка.
1920-я гг.

— Валеры нават крышку раззлаваўся, насуперак свайму добраму, далікатнаму характару.

...Цяпер, калі я перачытваю верш Маракова, думаю: "Мабыць, не я натхніла такога цудоўнага, лірычнага паэта. Мабыць, гэта быў абагульняючы вобраз. Яго мара. Але, тым не менш, я шчаслівая таму, што такое адбылося" ("Культура". 1998. 27 жніўня).

* Надрукаваны перакладзены В.Мараковым верш Эмі Сяо "Памяці Кантонскай камуны" ("ЛіМ". 22 лютага).

* На пленарным пасяджэнні аргкамітэта ССП БССР П.Глебка звярнуў увагу на "ўпадніцкія матывы ў нядаўніх творах В.Маракова" ("ЛіМ". 10 лютага).

* Надрукаваны перакладзены В.Мараковым з рускай мовы верш С.Богуш "Баявой таварыш" ("Напагатове". № 2–3).

ЧЭРВЕНЬ – СНЕЖАНЬ

* Выйшаў з друку зборнік "Права на зброю"[1].

Змест зборніка "Права на зброю":
1. Дарогаю да чырвонай сталіцы.
2. За тысячы новых тваіх Асінбудаў.
3. Ноч трывогі і паэты на прарыве.
4. Рахунак паэты, пададзены да аплаты.
5. Першы дзень на запалкавай фабрыцы.
6. Вынаходніцтва майго сябра Капусціна.
7. Паводка і паэта расплачваецца за маладосць.
8. Сінімі шляхамі на ружовы шлях.
9. І вуснамі кранаўся кветак.
10. Яшчэ раз пра паэзію і пра ружы.
11. Лжэударнік Абрамаў з фабрыкі "Дзвіна".
12. Адна партыя ў валейбол.
13. Дарогаю ў штаб.
14. Ліст да паэта Петруся Броўкі.

* Надрукаваны перакладзены В.Мараковым з польскай мовы верш В.Бранеўскага "На смерць таварыша" ("ЛіМ". 2

[1] Зборнік двойчы вярталі аўтару на дапрацоўку. У канчатковым варыянце выкінулі амаль усю лірыку. У 1959 г. тое ж самае адбудзецца са зборнікам "Лірыка".

чэрвеня; перакладзены ў суаўтарстве з С.Шушкевічам).

* Друкуецца верш "Адна партыя ў валейбол" ("ЛіМ". 26 чэрвеня).

* У "ЛіМе" за 26 чэрвеня надрукаваны артыкул В.Маракова "Пра паэзію".

* Друкуюцца вершы:
"На варце", "Камісар", "Пачастунак" ("ЛіМ". 13 жніўня).



Пятрусь Броўка.
1920-я гг.

* У "ЛіМе" за 26 верасня надрукаваны артыкул П.Броўкі "У пошуках паэзіі". Пра В.Маракова аўтар піша:

"Валеры Маракоў пры ўсім сваім жаданні цвёрда стаць на сучасную тэматыку ніяк не пазбавіцца ад лёгкага экзатычнага грузу, прынесенага ім ад старой паэзіі і практыкаванага ім у часы "маладнякізму". Адтуль і лёгкасць падыходу да пабудовы рэчы, якая часам прыводзіць да бессэнсоўнасці, і цяпер яшчэ гэта робіць ягоныя рэчы часам нежыццёвымі. Некалі ў гутарцы адзін таварыш назваў Валерыя Маракова "невычэрпнаю крыніцаю ліры-кі". Я згодзен з ім, але трэба гэтую крыні-цу добра ачысціць ад таго смецця, якое наляцела на яе звонку".



Саламон Левін.
1934 г.

* У "ЛіМе" за 26 лістапада надрукаваны артыкул крытыка Саламона Левіна "Нататкі пра творчасць Валерыя Маракова":

"...У гады актывізацыі нацдэмаўскіх пісьменнікаў Валеры Маракоў падпаўпад досыць значны ўплыў гэтых пісьменнікаў. Твор "Мая паэма" гэта падцвярджае. Абвостранасць класавай барацьбы ў рэканструкцыйны перыяд, разгорнутае наступленне сацыялізму па ўсім фронце, выкарчоўванне карэнняў капіталізму, выкрыццё контррэвалюцыйнай сутнасці беларускага нацдэмакратызма – усё гэта паставіла перад кожным інтэлігентам дылему: альбо перайсці на той бок барыкад, або стаць на пазіцыі савецкай улады. Пушча і кампанія перайшлі на той бок барыкад..."

# 1934

*Я помню — плакала зямля*
*Надрыўным голасам Шапэна...*
*І ноч глыбокая лягла,*
*І снег халодны па калені.*

"Леніну"

СТУДЗЕНЬ – ТРАВЕНЬ

* У "ЛіМе" за 12 студзеня з'явілася рэцэнзія М.Клімковіча "Пра кніжку В.Маракова "Права на зброю":

"Некаторая частка вершаў носіць яскрава выражаны варожы характар нашай сапраўднасці. Гэта з'яўляецца вынікам уплыву на паэта дробнабуржуазнай стыхіі, яго акружаючай, адсутнасці ўзбраення марксісцка-ленінскай тэорыяй, вынікам слабага ўдзелу самога паэта ў практыцы нашага будаўніцтва: асноўныя памылкі палітычнага парадку ў гэтых вершах зводзяцца да наступнага:

1. Прапаганда буржуазнай тэорыі надкласавасці мастацтва.
2. Сцверджанне "права" паэта стаяць у баку ад практыкі сацыялістычнага будаўніцтва.
3. Няправільнае, скажонае адлюстраванне нашай рэчаіснасці, няправільныя рэцэпты выпраўлення недахопаў.
4. Пасіўная роля наглядальніка прыводзіць паэта да хворага песімізму.



Міхась Клімковіч. 1940-я гг.

Надкласавая, пазакласавая паэзія і любоў даруюць пазакласавай грамадзе свае вянкі. Буржуазнае разуменне мастацтва ў найбольш выразнай форме. Мы павінны цвёрда напомніць Маракову, што яго канцэпцыя "надкласавай паэзіі" – не з нашага арсеналу, што беларускія нацдэмы заўзята адстойвалі "незалежнасць мастацтва ад палітыкі". А паглядзіце мастацкія рэчы нацдэмаў, як поўна яны насычаны палітыкай, але толькі якой? Палітыкай класава варожай, накіраванай супраць пралетарыята. Значыць, "незалежнасць мастацтва ад палітыкі" разумелася выключна ад палітыкі пралетарыята і адначасова цесна звязанай з палітыкай варо-



Валеры Маракоў.
1934 г.

жых яму сіл. Маракоў не зразумеў таго, што надкласавая паэзія – гэта паэзія антыпралетарская, буржуазная".

* Надрукаваны творы:
Урывак з новай паэмы "Насустрач ветру" ("Чырвоная змена". 5 студзеня);
"Слова Беларускай Савецкай Рэспублікі" ("ЛіМ". 31 студзеня);
"За край камуны" ("Піянер Беларусі". 26 лютага);
"Маладая кроў рэспублікі" ("Чырвоная змена". 13 сакавіка);
"Мы ўключаем сваю маладосць" (Тамсама. 6 сакавіка);
"На варце" (Тамсама. 23 сакавіка);
"Жыццё за нас" ("Работніца і калгасніца Беларусі". № 4);
"Мы дзён шчаслівых кавалі" ("Чырвоная змена". 13 красавіка; у суаўтарстве з Т.Хадкевічам);
Артыкул "Маладыя сэрцам..." ("ЛіМ". 18 красавіка).

* У карэспандэнцыі "Пісьменнікі ў рабочых завода "Бальшавік" ("ЛіМ". 12 лютага) паведамляецца:
"8-га лютага брыгада пісьменнікаў Заходняй вобласці... разам з тт. Клімковічам, Дударом, Мараковым і іншымі наведала адно з буйнейшых прадпрыемстваў гор. Менску – завод "Бальшавік". Пісьменнікі не толькі выступалі, чыталі свае творы, але абышлі ўсе цэхі завода... і пазнаёміліся з працэсамі вытворчасці".

* В.Маракоў стаў членам Саюза пісьменнікаў СССР і атрымаў білет, падпісаны М.Горкім.

ЧЭРВЕНЬ - ЖНІВЕНЬ

* 8-14 чэрвеня праходзіць І-ы з’езд савецкіх пісьменнікаў БССР.

* З успамінаў С.Шушкевіча:
"У чэрвені месяцы 1934 года адбыўся першы ў гісторыі Беларусі выпуск літаратараў-прафесіяналаў.
Валерый Маракоў скончыў крытыка-творчую секцыю літаратурна-лінгвістычнага аддзялення Вышэйшага педагагічнага інстытута імя Максіма Горкага. Ён атрымаў добрыя веды і творчую загартоўку ў вядомых тады вучоных-літаратуразнаўцаў" ("Роднае слова". 1998. № 11).




Выпуск літфака Менскага вышэйшага педінстытута. Сярод выпускнікоў беларускія пісьменнікі: Ю. Лявонны, Э. Агняцвет, П. Хатулёў, С. Шушкевіч, Г. Раманоўская, С. Левін, В. Маракоў, З. Бірала, С. Мурзо. 1934 г.

* На фотаздымку выпуску літфака: наркам асветы А.Чарнышэвіч, дырэктар Волкаў, дэкан В.Барысенка, прафесары Я.Барычэўскі і М.Піятуховіч, дэкан вячэрняга літфака Бародзіч, загадчык вайсковай кафедры Спегальскі, выкладчык нямецкай мовы Г.Земель, асістэнты М.Аляхновіч і Р.Ляпіч, праформ Дзяшковіч, Э.Агняцвет, З.Бірала, С.Левін, Ю.Лявонны, В.Маракоў, С.Мурзо, З.Піваварыў, Г.Раманоўская, П.Хатулёў, С.Шушкевіч, А.Аляксееў, Н.Белавусаў, К.Варанкоў, В.Віткін, Г.Гайлевіч (Самко), Г.Дайнека, Н.Карабейка, П.Мялешка, П.Рэвут, Л.Сігалава, Р.Скаліна, А.Сцепаненка, М.Таванька, Д.Фельдман, К.Цемналонская, Д.Шупер, Ю.Шыдлоўскі...

З успамінаў С.Шушкевіча:

"Паэт пачынае супрацоўнічаць у газеце Беларускай Ваеннай Акругі "Чырвонаармейская праўда". Пабываўшы на вайсковых зборах, ён не расставаўся з армейскай формай, з салдацкай гімнасцёркай" ("Роднае слова". 1998. № 11).


Валеры Маракоў. 1934 г.


Сяргей Знаёмы. 1934 г.

* Надрукаваны вершы:

"Жыццё ў цвеце", "Голас паэта", "Пілот" ("ЛіМ", абпаведна – 13, 18 і 25 жніўня).

ВЕРАСЕНЬ - СНЕЖАНЬ

* Надрукаваны вершы:

"Майскім маршам" ("Полымя рэвалюцыі", № 9; "Віцебскі пралетарый", 2 кастрычніка; "Калгаснік Беларусі". 1 траўня);

"Героі Краіны Саветаў" ("Полымя рэвалюцыі". № 9).

* У "Звяздзе" за 15 верасня пад некралогам "Памяці прафесара Я.І.Барычэўскага" аднаго "з лепшых лектараў і знаўцаў старажытнай і еўрапейскай літаратуры"ы які "напісаў рад навуковых работ", падпісаліся Я.Купала, А.Александровіч, П.Галавач, Б.Мікуліч, С.Знаёмы, В.Маракоў, А.Дудар, П.Хатулёў, С.Левін, М.Паслядовіч, П.Броўка, А.Кучар, М.Модэль, М.Багун, М.Аляхновіч, Р.Мурашка.

* "ЛіМ" за 24 верасня паведамляе, што "сектар літаратуры і мастацтва ДВБ выпускае ў бліжэйшы час кнігі В.Маракова "Жыццё ў цвеце" і Янкі Маўра "ТВТ" у афармленні мастака А.Тычыны.

* Выходзяць з друку:
"Б'ецца мора аб бераг круты...", "Ляжу і слухаю ўночы...", "Было кругом, як у прыгожай байцы..." ("ЛіМ". 31 снежня - ?);
"Першы снег" ("Іскры Ільіча"[1]. № 12; суаўт. Т.Кляшторны, А.Дудар).

* Надрукаваны новыя пераклады В.Маракова:
П.Тычына "Песня Чырвонай Арміі (з укр.) // Полымя рэвалюцыі. № 9; М.Ціханаў "Вясна ў Дэнау, або начное ворыва трактарамі Віліс" (з рус.) // Звязда. 15 жніўня; Х.Грачыл "Маё дзяцінства" (з арм.) // Тамсама. 1 верасня; А.Гідаш "Камні крычаць: Два ўрыўкі: Вершы (з венг.) //ЛіМ. 6 сакавіка; Сулейман з Ашуга Сталі (Стальскі) "Праз гор, цяснін бяскрайніх шыр..." // Тамсама. 31 жніўня.

* В.Маракоў перайшоў з часопіса "Чырвоная Беларусь" на працу ў "ЛіМ", дзе супрацоўнічаў да студзеня 1935г.

* "Пасля заканчэння інстытута В.Маракова (разам з Ю.Лявонным) накіравалі настаўнічаць у Бабруйск" ("Голас Радзімы". 1998. 7 траўня).



Валеры Маракоў (першы справа) з невядомымі асобамі.
Жнівень 1935 г.

* "Тонкі і таленавіты лірык Маракоў стаў радавым настаўнікам у адной з бабруйскіх школ" (Пруднікаў П. "Паэт эмоцый". // Маладосць. 1998. № 12).

* У газ. "Рабочий" надрукавана "постановление Президиума ЦИК БССР о переименовании 4-й образцовой школы (якую ў 1924 г. скончыў і В.Маракоў – *Л.М.*) в 4-ю образцовую школу имени Кирова".
У газ. "ЛіМ" за 30 снежня(?) друкуецца верш В.Маракова "Памяці тав. Кірава".

---
[1]Так з 1929 г. пачаў называцца часопіс "Беларускі піянер".

# Крыжовы шлях

## 1935

*...І сад надзей, сад віхраў зорных*
*Стаў садам шыбеніц і крат...*

З нізкі "Пальмы даліны"

СТУДЗЕНЬ – ЛЮТЫ

* У студзені В.Маракоў паехаў у мястэчка Чарнеўка Барысаўскага р-на ў творчую камандзіроўку на лесараспрацоўкі і лесасплаў, дзе знаходзіўся да 1 сакавіка, а потым вярнуўся ў Менск і прыступіў да працы над раманам "Вечная крыніца".

* Надрукаваны вершы:

"Байка пра Мішу і Зайку" ("Іскры Ільіча". № 1; суаўт. Т.Кляшторны, А.Дудар);

"Памяці тав. Куйбышава" ("Калгаснік Беларусі". 27 студзеня);

"Песня перамог"[1] ("Піянер Беларусі", 6 лютага; суаўт. Т.Кляшторны).

* Надрукаваны пераклады:

М.Дудзін. "Мы адыходзім" (з рус.) ("Атака"[2]. Мн., Альманах 1);

С.Краеў. "Песня пра вінтоўку (з рус.) (Тамсама).

---

[1] За верш "Песня перамог" В.Маракоў быў выключаны з Саюза пісьменнікаў на шэсць месяцаў.

[2] Рэдактарам "Атакі" быў празаік Сілан Гусеў (1897-1986).

* З успамінаў А.Звонака:

"Пачатак 1935 года. З В.Мараковым сустракаўся як з даўнім сябрам год юнацкіх. За гэты час ён скончыў пед інстытут, творча акрэп, пашыралася і кола яго сяброў па пяру. Прыемна прыгадаць, што сябрына тая складалася з людзей таленавітых, сталых, з пэўна акрэсленай творчай пазіцыяй, з важкімі творчымі набыткамі, як, напрыклад, Дудар, Хадыка, Кляшторны, Броўка, Астапенка, Куляшоў і многія іншыя. Валерый многа падарожнічаў па Беларусі, падоўгу працаваў на прадпрыемствах рэспублікі, быў у курсе спраў будаўнічых пяцігодак краіны. І ўсё гэта бачанае, перажытае, пераадчутае, аздобленае глыбокім лірычна-рамантычным пачуццём напаўняла, як жывая кроў, жывую тканіну паэзіі Валерыя Маракова.

Паступова з радкоў вершаў і паэм Валерыя Маракова, як з-пад рук таленавітага скульптара, вырастаў бачны, жывы, увесь поўны руху і імкнення, вобраз маладога чалавека трыццатых гадоў.

Але не светлыя, а змрочныя дні надыходзілі не толькі для В.Маракова, а і для ўсіх беларускіх пісьменнікаў. Набліжаўся пік бязлітасных сталінскіх рэпрэсій. Першы арышт маладога, таленавітага, абсалютна бязвіннага паэта адбыўся, калі ён вярнуўся з трохмесячнай (студзень — сакавік) творчай камандзіроўкі (Барысаўскі раён, дзе разам з рабочымі працаваў у леспрамгасе) і пачаў ажыццяўляць задуму рамана "Вечная крыніца" (В.Маракоў. Вяршыні жаданняў. Мн., 1989. С. 257).



Член ЦВК БССР, кадыдат ў члены ЦК КП(б)Б Андрэй Александровіч на трыбуне. 1935 г.

* 15 сакавіка выходзіць Пастанова ЦВК Саюза ССР аб узнагароджанні Беларускай ССР ордэнам Леніна.

* "Звязда" за 16 сакавіка паведаміла: "Ордэнам Леніна ўзнагароджаны: ...першы сакратар ЦК КП(б) Беларусі тав. Гікала Н.Ф. і старшыня Саўнаркома Беларускай ССР тав. Галадзед Н.М.".

* 16 сакавіка.

ПОСТАНОВЛЕНИЕ

Я, Уполномоченный 4-го Отделения СПО УГБ НКВД БССР – Кунцевич, сего числа, рассмотрев материал на гр-на Морякова Валерия Дмитриевича

Нашел:

Что Моряков В.Д., согласно показаниям Никановича, находившегося под арестом по делу "БНЦ" в 1933 г., является членом к-р нацдемовской организации...

А посему –

Постановил:

Морякова Валерия Дмитриевича – 1909 г. рождения, б/п, белоруса, писателя, работающего в области поэзии, проживающего Козырево, Большая Морская дом № 5/8, подвергнуть аресту и повести следствие.

Уполномоченный 4 отд. СПО УГБ – Кунцевич
Нач. 4 отд. СПО УГБ – Дейкойв

Согласны:
Нач. СПО НКВД БССР –Клейнберг

"Утверждаю" - Народный Комиссар Внутренних Дел БССР - Леплевский

ОРДЕР № 242

Выдан 21 марта 1935 г. г. Минск.
Действителен 1 сутки.

Сотруднику СПО УГБ НКВД
Тов. Кунцевичу

Вам поручается произвести обыск и арест
Гражданина Морякова Валерия Дмитриевича
Проживающего – Козырево, Большая Морская 5/8
Народный Комиссар Внутренних Дел БССР.

* 21 сакавіка. Першы арышт В.Маракова. Па сведчанні М.Клімковіча, у той час на Беларусі з пісьменнікаў быў



...Н. Д.
...НОЙ С.С.Р.

ДЕЛО № 90...

По обвинению
Маракова Ва...
Дмитриев...
по ст.ст. 76, 68, 69 и 70 ...
(68 п.п. 6, 7, 8 и 11 УК рсфср)

ТОМ №

[redacted] 10...

Центральный архив НГБ СССР
№ [redacted]

Количество то...

Асабовая справа В. Маракова. 1935 г.



Здымак
В. Маракова
з асабовай
справы. 1937 г.

арыштаваны толькі адзін В.Маракоў. Сапраўды, 1935 год на арышты быў даволі "сціплы". Але М.Клімковіч памыляўся. Апрача В.Маракова былі арыштаваны С.Фамін, Ю. Гаўрук і, магчыма, С.Дзяргай. Гэта быў год "зацішша перадбурай".

Тады Валеры яшчэ не ведаў, што бацьку ён бачыць у апошні раз.

З анкеты арыштаванага В.Маракова:

...5. Место жительства – пос. Фрунзе, гор. Минск, д. № 4.

...7. Место службы и должность или род занятий – редакция Литературной газеты ("ЛіМ". – *Л.М.*), в качестве Заведующего Литературного отдела.

... 11. Образование (общее и специальное) – высшее.

... 14. Категория воинского учета-запаса и где состоит на учете - допризывник, имеет отсрочку по болезни сердца. На учете при Минском военкомате.

* Вытрымка з характарыстыкі В.Маракова для НКВД (сакавік 1935 г., падпісана старшынёй Праўлення Саюза пісьменнікаў БССР М.Клімковічам):

"Основная линия его поэзии – мещанское воспевание любви. Мещанские "романсы", луна, соловей, любимая девушка, розы, синее небо, васильки – вот атрибуты его поэзии. Рядом с этой тематикой прорывается националистическое восхищение Беларусью, неудовлетворенность проводимой партией национальной политикой (пример – стихи, посвященные Калиновскому, – журн. "Полымя", № 7 за 1928 г., стихи "Беларусі" // Полымя. № 10, 1928 г.), упадничество ("За чужое счастье и любовь" // Полымя. 1928).

Белорусская нацдемовская критика выдвигала Морякова как весьма способного поэта (см. книгу М.Горецкого "5 лет "Молодняка"[1], 1928 г.).

Разгром нацдемовщины и арест близких друзей Морякова, видимо, заставил его отойти от прямых хвалебных од нацдемизму к большей маскировке: он начал опевать богему, по-кулацки показывать наши заводы, нашу действительность (см. его изъятую книгу "Права на зброю"). Разоблачение этого маневра, видимо, заставило Морякова несколько призадуматься: он дал ряд неплохих стихов, обещая

[1] "Маладняк" за пяць гадоў".

перестроиться и стать действительно советским поэтом. Такое обещание он давал на общем собрании писателей, когда обсуждали в числе прочих вопросов его книжку – "Права на зброю".

Второй раз вопрос о Морякове стал осенью 1933 г., когда он обозвал ГосИЗДАТ БССР "деникинским учреждением" (о чем заявил на правлении тов. Зарембовский). Моряков заявил на президиуме, что он говорил не о ГосИЗДАТе, а о тов. Бэндэ, который, дескать, проявил к нему отношения "деникинского офицера". Зная грубость тов. Бэндэ по отношению к писателям, Правление Союза ограничилось решительным осуждением поступка Морякова и предупредило его о недопустимости подобного поведения в дальнейшем.

Во время обсуждения вопроса о богеме Правление Союза правильно связало этот вопрос с националистическим характером богемы. В итоге этого обсуждения Моряков был исключен из союза.

Моряков неоднократно вызывался мной в Правление союза, ему делались замечания как по творчеству, так и по поведению. Моряков всегда обещал исправиться и не исправлялся. На него установился взгляд как на слабовольного интеллигентика, все же имеющего несомненное дарование, которое можно и нужно воспитать. Исключение его из Союза имело не только репрессивный, но и воспитательный характер..."

* З пратакола допыту ад 22 сакавіка:

_Вопрос:_ Расскажите Вашу автобиографию.

_Ответ:_ Родился я в семье печника в 1909 г. в деревне Акалония Пригородного с/совета Минского района. До 1925 г. я жил на иждивении отца и учился в семилетке. В 1924 г. я окончил 4-ю Минскую семилетку и вместе с отцом работал до конца 1925 г. печником. По постановлению ЦП юных пионеров БССР я был назначен секретарем редакции журнала "Піянер Беларусі". Секретарем работал до 1927 г. С 1927 г. работал секретарем редакции журнала "Маладняк". В конце 1927 г. объединение писателей "Маладняк" и Наркомпроса БССР командировали меня в Белпедтехникум в г. Минске, но после 2-го курса я был отозван с учебы и назначен заведующим литературного отдела газеты "Савецкая Беларусь". На этой работе проработал до конца 1930 г. С 1930 г. по 1934 г. работал секретарем, а потом заместителем редактора журнала "Чырвоная Беларусь". В 1934 г. перешел на работу в литературную газету, где и работал до поездки в творческую командировку, т.е. до конца января 1935 г. В январе 1935 г. уехал в местечко Черневка Борисовского района на литературную творческую работу на лесоразработки и лесосплав. В Борисовском районе я прорабо-






Тодар Кляшторны.
Здымак з асабовай справы. 1936 г.

Алесь Якшэвіч.
1930-я гг.

тал до 1 марта 1935 г., а потом возвратился в Минск, где приступил к творческой работе по написанию романа "Вечная крыніца" и пьесы.

<u>*Вопрос:*</u> Какие Вы имеете личные литературные труды?

<u>*Ответ:*</u> Из личных моих литературных трудов вышли в свет книги в стихах: в 1926 г. - "Пялёсткі", в 1927 г. – "На залатым пакосе", в 1930 г. – "Вяршыні жаданняў". Написана и сдана в печать книга "Жыццё ў свеце..."

* З пратакола допыту ад 28 сакавіка:

<u>*Вопрос:*</u> В чем конкретно выражались Ваши связи с писателем Ковалем и др.?

Ответ: Моя связь с писателями Ковалем, Вольным, Дударом и Кляшторным выражалась в совместной читке художественной литературы.

<u>*Вопрос:*</u> За что Вы исключены из Союза писателей?

<u>*Ответ:*</u> Из Союза писателей я исключен вместе с Т.Кляшторным сроком на 6 месяцев за богему и написание стихотворения, которое печаталось в газете "Піянер Беларусі" ("Песня перамог". – *Л.М.*)... В 1935 г. в конце января месяца я зашел в дом писателей. Там я встретил писателя Т.Кляшторного, который пригласил меня вместе с ним написать стихотворение с целью, чтобы заработать денег, на что я дал свое согласие. После чего я с Кляшторным зашел в творческий кабинет и за два часа написали стихотворение, которое было напечатано... Позже нас ругали за него в Союзе писателей.

* З пратакола допыту ад 1 красавіка:

<u>*Вопрос:*</u> Расскажите, были ли Вы знакомы с учителем Сильвановичем?

*Ответ:* С учителем Сильвановичем я был знаком. Познакомил меня с ним Якшевич – начальник Главлита БССР в 1930 г., при каких обстоятельствах произошло мое знакомство с Сильвановичем, я не помню... У меня на квартире собирались один раз. Присутствовали Сильванович, Якшевич, Вольный и я... Я достал водку, закуску и угостил их как гостей... Все остались у меня ночевать... Ушли домой утром, на другой день.

*Вопрос:* Имелись ли у Вас с Сильвановичем разговоры на политические темы к-р нацдемовского характера?

*Ответ:* С Сильвановичем разговоров на политические темы к-р нацдемовского характера я не вел. Во время встреч, которые происходили у меня... я, например, читал напамять стихи Лермонтова и Пушкина, Никонович пел песни из картин "Златые горы" и "Путевка в жизнь" и т.д.

*Вопрос:* Имел ли место случай в 1932 г., когда Вы, белорусские писатели Никанович и Дударь, были совместно на квартире работника Белгоскино Поскребко и о чем у Вас тогда была беседа?

*Ответ:* В 1932 г. я действительно был на квартире у Поскребко совместно с белорусским писателем Никановичем, но чтобы был в это время с нами Дударь, я не помню. Беседа тогда у нас происходила вокруг письма Белинского к Гоголю. Никанович приводил некоторые выдержки из письма Гоголя – "Мракобес", "Поборщик кнута"... Одновременно с этим Никанович шутя назвал себя Николаем II-ым, писателя Асташенку (магчыма – З.Астапенку. – *Л.М.*) обозвал Рубинштейном (известный богач при царской власти), меня назвал Гришкой Распутиным, объясняя это тем, что я по его мнению много вожусь с девчонками...

* З пратакола допыту ад 2 красавіка:

*Вопрос:* Имел ли место у Вас разговор с кем-либо о существовании среди белорусских писателей "нелегального комитета?" Если – да, то когда и при каких обстоятельствах.

*Ответ:* Разговора с кем-либо у меня о существовании "нелегального комитета" среди белорусских писателей никогда не было.

*Вопрос:* Предлагал ли кто Вам вступить в к-р нацдемовскую организацию?

*Ответ:* Вступить в к-р нацдемовскую организацию мне никто не предлагал, и разговоров на эту тему я ни с кем не вел.

*Вопрос:* Были ли Вы знакомы со студентом Пединститута Мурзо?

*Ответ:* Со студентом Мурзо я учился в Пединституте на критико-творческом отделении и занимался с ним в одной группе. Знал его не больше, как студента-однокурсника...

Мурзо писал пессимистические стихотворения, в которых он высказывал мысль, что тяжело учиться и он покончит жизнь самоубийством... Во время учебы в Пединституте я одновременно работал по вечерам (в свободное от учебы время днем) секретарем редакции "Чырвоная Беларусь" и помню такой случай, когда Мурзо приносил стихи, написанные им для помещения в журнал, но я после просмотра вернул последние ему и для напечатания их не принял. Мурзо с моей оценкой стихов не согласился и начал апеллировать к редактору, Чароту. Чарот стихи также забраковал как не подходящие для печатания...

*Вопрос:* Знали ли Вы о приезде в БССР в 1934 г. осужденного нацдема М.Лужанина, встречались ли Вы с ним?

*Ответ:* О приезде в 1934 г. в БССР М.Лужанина я знал. В 1934 г. , под осень, я зашел в Дом писателей. Там я встретил жену писателя Лужанину- Пфляумбаум. Она пригласила меня к себе на квартиру. После этого я, Пфляумбаум и Дудар пошли на квартиру к Пфляумбаум. Придя на квартиру, мы увидели спящего М.Лужанина, который при нашем приходе встал с постели, поздоровался с нами и рассказал о том, что его освободили, что он полностью себя реабилитировал, а поэтому досрочно освободился и будет проживать в Москве.

*Вопрос:* Были ли у Вас разговоры с Лужаниным на политические темы?

*Ответ:* Разговоров на политические темы у нас с Лужаниным не было.

*Вопрос:* Имело ли место у Вас в литературной деятельности протаскивание белорусского национал-демократизма?

*Ответ:* Фактов протаскивания в литературу национал-демократизма с моей стороны не было... Причиной же написания мною пессимистических стихотворений было всеобщее увлечение Есениным, которое захватило и меня.

* На запыт УГБ па даручэнні кіраўніка Саюза пісьменнікаў ад 20 траўня 1935 г. А.Кучар напісаў характарыстыку "О творчестве Валерия Морякова":

"Белорусские буржуазные контрреволюционные националисты одним из оружий борьбы против советской власти избрали богему, богемский разврат и вырождение, упадничество и разложение. В этом смысле пьяная, разухабистая богема, упадничество, пессимизм, как в жизни, так и в творчестве, являлись оружием в руках буржуазных националистов в их борьбе против пролетарской революции.

В. Моряков является наиболее ярким представителем богемско-упаднического отряда буржуазного национализма в белорусской литературе. Моряков исповедует в своем твор-

честве общие для всех буржуазных националистов идеи, однако, оттененные богемским упадничеством. Явно контрреволюционные нацдемовские произведения вроде "Беларусі", "Чуеш, Беларусь" (Кастусю Калиновскому), "Рахунак паэта, пададзены да аплаты", "Фабрыка Дзвіна", "Мая паэма" чередуются у него с есенинско-упадническими стихами, выражающими безнадежность и неверие поэта. Обратимся к раннему творчеству В.Морякова (1926-29гг.), и мы увидим, что в первую очередь Моряков — белорусский нацдем и именно отсюда у него начинается упаднический, богемский разлад с действительностью. Советская действительность ему чужда, враждебна. Отсюда неверие ни во что, ни в какие перспективы, отсюда пессимизм. Линия упадничества, пьяной богемы идет через все три сборника Морякова, а также через "Мою поэму". В сборниках "Пялёсткі", "На залатым пакосе", "Вяршыні жаданняў" всюду пьяный разухабистый и безнадежный пессимизм:

І так моцна, так глуха галосіць душа,
І на сэрца з трывогай кладзецца рука.

Этот лейтмотив проходит через все стихи Морякова. А в "Моей поэме" мотив этот выражен еще более ярко:

Я стаміўся, прыціх, я не знаю:
Недзе вецер спраўляе магільны разгул,
І так хочацца зноў упівацца далёкім,
І ў азёрах душы захаваць чорнай восень.

Чего же тоскует и мечется Моряков? Это легко объяснить из содержания его же стихов. Видите ли, он недоволен существующим положением дел в Советской Белоруссии (он хотел бы ее видеть буржуазно-националистической республикой), недоволен классовой борьбой, которую ведет пролетариат против белорусской буржуазии. Он не может видеть того, как

Брат душыць брата сваімі рукамі.

В той же поэме он говорит, что самогон ему уже надоел, и надо "защищать свой край". В сборнике "Пялёсткі" он слово "айчына" пишет всюду с большой буквы, как и подобает националисту. При пролетарской диктатуре в БССР он не видит "вольным свой народ", а потому еще надеется на освобождение его, и тогда его народ заплачет от радости:

То праплача мой родны, мой любы народ,
Пралiе свае слёзы ад шчасця,
I на вольным прасторы шырокiх дуброў
Усё мiнулае ў песнi пагасне.

А пока что в советской республике Моряков потому ноет и мечется, что:

Ты i я сягоння будзем пець i жыць,
Хоць парой пад горлам зiхацяць нажы.

Вот что заставляет Морякова с буржуазно-националистических позиций показывать нашу действительность, и потому он в антисоветском порыве пишет:

I хачу так, як гэты месяц залаты,
Стаяць i старажыць сваю краiну.

Моряков пишет, что он готов даже "зубамi каменнi ламаць", лишь бы видеть свободной свою страну. Что это за свобода, нам хорошо известно из творческой практики Морякова, так же, как и других националистов. Это Беларусь нацдемовская, ее славит и любуется ею Моряков. Моряков говорит, что "усё наш народ гэта знёс" — это значит тяжесть "господства русских", но "досыць толькi ўзняць смелы шум", как все должно измениться. О нашей действительности он говорит, что живет "у цемры бруднай, пад прымусам". Не видя вольным "свой край" при советской власти, Моряков пишет, что готов жизнь отдать, "каб толькi бачыць радаснай краiну". В другом стихотворении он совершенно открыто заявляет, что в советской Белоруссии не нашел того, чего искал, к чему стремился:

Чаго ж тады я верыў i iмкнуўся,
Чаго я пеў, чаго хварэў душой,
Ў палях шырокiх роднай Беларусi
Каго шукаў, таго я не знайшоў.

Но особенно ярко белорусский буржуазный контрреволюционный национализм выявился в произведениях В.Морякова "Чуеш, Беларусь" и "Беларусi". Кастусь Калиновский объявляется в стихе "Чуеш, Беларусь" идейным вождем современной Белоруссии. Причем нацдем Моряков прямо заявляет, что нынешняя Беларусь не слышит слов своего вождя Калиновского и с истерикой в голосе призывает нынешнюю Беларусь идти по стопам своего "вождя". Вот что он пишет:

О Беларусь! Ці чуеш ты, ці чуеш?
Твой лепшы сын распяты за цябе.
Няўжо ў грудзях тваіх начуе
Яго вялікіх дум разбег?
О, мабыць, не!

Это яркий контрреволюционный протест против пролетарской диктатуры в советской Белоруссии и призыв к восстановлению нацдемовской Беларуси Калиновского.

В стихе "Беларусі" контрреволюционный призыв еще ярче. Моряков говорит, что он поднял, как знамя, дело освобождения Белоруссии.

І з любоўю таварыша, друга і сына
Я аддаўся табе ўсёй душой.
Я паверыў у здольнасць вялікай Айчыны
Й пакланіцца у ногі к табе я прыйшоў.

Дальше идет следующее:

Хай скрыгочуць здраднікі Айчыны.
………………………………………………
І ў агні палаючых паўстанняў
Край рука чужая не кране.

Тут уже Моряков прямо говорит, что он будет защищать Беларусь "в огне будущих восстаний". Имея в виду общенационалистическое содержание этих стихов, нельзя, конечно, думать, чтобы Моряков тут вызывался защищать советскую Беларусь.

Цитированные выше стихи относятся к 1927-1928гг.

Но вот в сборнике "Права на зброю", печатавшемся в БелР... (апошнія літары не чытаюцца – *Л.М.*) в 1933 г., мы тоже имеем буржуазно-националистические, враждебные нам стихи. Моряков проповедует в этом сборнике нацдемовскую теорию надклассовости искусства:

Любоў і паэзія ідуць праз вякі, —

пишет Моряков. В этом сборнике Моряков с кулацких позиций изображает завод. В стихе "Вынаходніцтва майго сябра Капусціна" завод выглядит так: "На вокны и сцены кладзецца дым, а на сэрца — серная руда, вочы пачынаюць слязіцца", дальше идет авария и искалеченный рабочий. Или в другом стихе фабрика выглядит так:

Фабрыка ўзніме жалезную лапу...
Да жахлівасці жорсткае цела станка
І будзе працягла па-воўчаму выць.

Так кулак воспринимает советскую фабрику.

На заводе Моряков видит исключительно аварии и самоубийства. О самоубийстве работницы Кати на Осиновской электростанции Моряков написал враждебное нам стихотворение "Рахунак паэта, пададзены да аплаты". В этом стихотворении Моряков не то бюрократов, не то советскую власть поучает так:

Чалавек— гэта вам не мумія,
Узяў са склепу і выштурхнуў вон.
Чалавек — гэта сад з залатымі думамі,
Дзе па жылах праходзіць блакітны агонь.

В стихе "М.Лынькову" Моряков снова обвиняет общественность, советскую власть, что его, богемщика, не сберегли:

Сябе не ўмелі зберагчы,
І зберагчы не ўмелі нас,
І пра юнацтва ты маўчы.

Таким образом, перед нами творческое лицо Морякова. Моряков на протяжении своего творческого пути исповедовал буржуазно-националистические, кулацкие взгляды. Эти взгляды теснейшим образом переплетались у него с пьяной богемой и упадничеством, с враждебным отношением к фабрике, заводу, индустриализации советской Белоруссии, с клеветническими обвинениями по адресу советской власти, что она не бережет и не заботится о рабочих так же, как и об интеллигенции, в том числе интеллигенции художественной. Если в последнее время Моряков вынужден был несколько маскировать свои взгляды, то в 1928 году он прямо заявлял, что будет бороться за буржуазно-националистическую Беларусь Калиновского. Общехудожественный уровень стихов Морякова, особенно в последнее время, был чрезвычайно низок. Появилось у Морякова в 1934г. большое количество стихов прямо халтурных. Да и прежние его стихи дальше мещанско-есенинского эпигона не шли..."

* У траўні быў арыштаваны стараста Козыраўскай царквы Дзмітры Маракоў, бацька паэта (у канцлагеры і ссылцы прабудзе 10 гадоў).

ЧЭРВЕНЬ– СНЕЖАНЬ

7 ліпеня справа В.Маракова была спынена і ён быў выпушчаны з Менскай турмы НКУС.

* Надрукаваны:

вершы - "З лагераў" ("Піянер Беларусі". 27 жніўня; суаўт. М.Багун); "На дарозе" ("ЛіМ". 16 верасня);

пераклады вершаў М.Галоднага "Навальніца" і "Я пра цябе" ("Полымя". № 11).

## 1936

СТУДЗЕНЬ – КАСТРЫЧНІК

*У артыкуле "На шляхах новай беларускай паэзіі" ("Маладая Беларусь". № 1) зазначаецца, што ў перыядзе, "сягаючым больш-менш да 1929 г., а часткова абымаючым год 1930, беларускія паэты і пісьменнікі карыстаюцца значнай свабодай тварэння і ўносяць у сваю прадукцыю элементы беларускія, народныя, надаючы ўсёй нашай літаратуры спецыфічны, індывідуальны характар. Пачынаючы ад 1930 г. аж да сённяшняга дня беларуская паэзія ў сувязі і з зменай палітычнага курса змушана развівацца выключна згодна з ведамым прынцыпам: нацыянальнае паводле формы, фактычна толькі языка, а камуністычнае паводле зместу..."

Аўтары бачаць "вялікую перавагу паэтаў і пісьменнікаў, звязаных арганічна з сялянствам, вёскай... На чале гэтае групы стаяць такія мастакі слова, як Язэп Пушча, Уладзімір Дубоўка, Алесь Дудар... Таксама да іх трэба залічыць ... Валерыя Маракова, Арка-дзя Моркаўку, Анатоля Вольнага, Адама Бабарэку, Язэпа Падабеда, Юлія Таўбіна..."



Аркадзь Моркаўка. 1930-я гг.

* Надрукаваны пераклады з рускай мовы:

"Помнік" А.Пушкіна ("ЛіМ". 6 студзеня);

"Лясная казка" Б.Рудэрмана ("Піянер Беларусі". 8 сакавіка).


Пятро Хатулёў.
1934 г.

* У арт. "Супраць безадказных адносін да класікі" ("ЛіМ". 26 красавіка) крытык П.Хатулёў (таксама выпускнік літфака педінстытута 1934 г.) піша: "Зараз будзе выкананы твор Рымскага-Корсакава на тэкст Майкава "О чем в тиши ночей...", перакладзены на беларускую мову Мараковым. Да слухача даходзіць мастацтва Рымскага-Корсакава. Але тэксту Майкава няма, а ёсць тэкст... Маракова...". Далей П.Хатулёў крытыкуе пераклады Маракова вершаў Бекетавай, арыі Керубіна (з оперы "Вяселле Фігаро"), тэксту "Думкі Парасі" (з оперы "Сарачынскі кірмаш"), вершаў А.Фета.

* Надрукаваны пераклады з рускай мовы:
"Чырвонаму байцу" ("ЛіМ", 27 мая) і "Савецкі вартавы" Д.Беднага (Тамсама. 1 жніўня).

* Перадавіца ў "Звяздзе" ад 30 кастрычніка пад назваю: "Вышэй рэвалюцыйную пільнасць! Яшчэ шчыльней згуртуем рады вакол партыі Леніна".

ЛІСТАПАД - СНЕЖАНЬ

* Перадавіца ў "Звяздзе" ад 1 лістапада пад назваю: "Да канца выкаранім трацкісцка-зіноўеўскіх мярзотнікаў — фашысцкіх разведчыкаў, шпіёнаў і шкоднікаў!"


Сымон Баранавых.
Здымак з асабовай справы. 1936 г.

* 3 лістапада. Вытрымка з ордэру на арышт № 703: "Начальник 3-го отдела НКВД БССР Шлифенсон нашел, что лит. работники Моряков В.Д., Зарецкий М.Е., Вольный-Ажгирей А.У., Барановых С.Я. являются акт. участниками контрнацдем. организации, а посему постановил: арестовать этих литературных работников..."

* 6 лістапада.

В.Маракоў быў зноў арыштаваны. Арышт быў праведзены супрацоўнікам ОО УГБ НКВД БССР Авербухам па адрасу: г.Менск, вул. Вялікая Марская, д. 4/7, кв. 1. згодна з ордэрам № 700, выдадзеным 3.11.1936 г. і сапраўдным на працягу сутак (арыштавалі па ўжо несапраўдных ордэрах, г.зн. беззаконнасць у беззаконнасці; таксама адзначым, што на арышт Маракова было выпісана два ордэры - №700 і №703. – *Л.М.*).

Успаміны Г.Рабковай[1] аб апошнім арышце:

"Гэта былі восеньскія канікулы 1936 г. Напэўна, яго хацелі арыштаваць у Бабруйску, куды ён быў накіраваны працаваць настаўнікам пасля заканчэння педінстытута, але там яго не было. Тады яны, НКУС, вырашылі, што ён дома, у Менску. Але і там яго не было. Тады яны арганізавалі засаду ў доме бацькоў Валерыя. (Адначасова яго "чакалі" і ў Бабруйску. – *Л.М.*) Заходжу ў дом, гляджу – сядзяць суседкі. Печ ужо пагасла. Паставіла чамадан, а ў пакоі ў бабулі (тут і далей сваю свякроў Г.Рабкова называе бабуляй. – *Л.М.*) ідзе вобыск – усё перакулена. А я не ведала і вярнулася на кухню да гэтых жанчын. Бабуля, бачу, плача, пытаю: "Што такое?" А суседкі кажуць: "Ціха, там вобыск ідзе". Адзін "энкавэдэшнік" сядзеў у калідоры. Я яго не заўважыла і зайшла туды. Два чалавекі корпаюцца ў пакоі, кнігі раскіданы па падлозе, кожную гартаюць. Адтуль выходжу, а ён за мной глядзіць. Я – на кухню і кажу бабулі: "Пайду пакуль у горад". А яна адказвае: "Цябе не выпусцяць". – "Як не выпусцяць?" – "Сюды ўпускаюць, а адсюль не выпускаюць. Думаю, так будзе, пакуль не арыштуюць Валерыя". Не выпускаюць для таго, каб нехта выпадкова не перадаў, што яго хочуць арыштаваць".


Ганна Цімафееўна Рабкова з маці паэта Вольгай Станіславаўнай Мараковай. 1960-я гг.

Усяго іх было чацвёра. Двое ў пакоі Валерыя, адзін – у калідоры, а ля ўваходу ў дом стаяла адкрытая чорная машына. Там быў яшчэ адзін.

Я ў бабулі пытаю: "А што шукаюць?" Бабуля адказвае, што гэта, напэўна, Валерыя чакаюць, ён жа павінен прыехаць, бо ў школах пачаліся канікулы. У гэты момант ГЭТЫЯ сталі ўсё "грэбці" – іншага слова не знаходжу. Галоўнае, што не толькі друкаванае, але і рукапісы "гра-

[1] Ганна Цімафееўна Рабкова - жонка брата паэта Леаніда.



Малодшы брат паэта Уладзімір Маракоў. 1937(?) г.

буць" і адносяць у машыну. У бабулі была Біблія і Евангелле. Дзядуля любіў нам чытаць іх, дык яны і гэта забралі. Потым бачу - выносяць кнігі Купалы, Коласа, Багдановіча, іншую літаратуру. А я сяджу і кажу: "А навошта вы іх бярэце? Па гэтых жа кнігах малодшы брат Валерыя, Уладзімір, у школе вучыцца. Яны з школьнай праграмы". Адзін з іх літаральна гаркнуў: "Замаўчы!" Малады такі, у скураной тужурцы па калені. Яму вельмі падабалася крычаць. Я падумала, што цяпер і мяне забяруць. І вельмі моцна адчула нейкі звярыны страх і села. Бабуля кажа: "Ты так не хвалюйся, можа, перакусі з дарогі". А ежа ад страху не лезе. Карацей, яны пагрузілі на машыну рукапісы і кнігі, а адзенне не бралі. Потым яго, напэўна, арыштавалі (Валеры быў арыштаваны на Менскім чыгуначным вакзале па дарозе дадому[1]. – *Л.М.*), бо знялі засаду. І суседкам дазволілі ісці па сваіх хатах. Бабуля доўга плакала, потым яна хадзі-ла шукаць Валерыя. Ёй доўга ніхто нічога не гаварыў. А потым неяк бабуля прыехала да нас у Жлобін (Г.Ц.Рабкова і яе муж працавалі ў Жлобіне настаўнікамі. – *Л.М.*), расплакалася і кажа, што Валеры сядзіць у турме. Ужо ў час летніх канікул я прыехала ў Менск, а бабуля ўсё насіла яму перадачы, але што дзіўна – яго ўжо не было сярод жывых (гэта высветлілася толькі ў канцы 80-х – *Л.М.*), а яны ўсё прымалі перадачы і нічога не казалі. Яна там спячэ што-небудзь... Аднойчы, памятаю, спякла бліны, памазала маслам. Бралі яны ўсё, і як потым у канцы 90-х у "мемуарах" прызнаваліся, што яны харчаваліся лепш за ўсіх у СССР.

А потым (фактычна адразу пасля арышту – *Л.М.*) яны пачалі правяраць усю сям'ю. Я вяла ў школе, у старэйшых

[1] Як потым высветлілася, выпадак узброенага супраціўлення пісьменніка пры арышце ўсё ж мог мець месца. Са слоў Тодара Кляшторнага, сказаных у верасні 1936 г. у Доме пісьменніка М.Багуну і П.Хатулёву, даведваемся, што "Маракоў, калі ад"язджаў з Менска на раён, узяў з сабой наган і казаў, што ён будзе са зброяй у руках бараніць сябе..." Калі б В.Маракова арыштоўвалі не на чыгуначным вакзале ў Менску, а ў пакоі, які ён здымаў у Барысаве, і дзе, магчыма, і быў схаваны так і не знойдзены "нкусаўцамі" наган, апошнія былі б вымушаны "браць" пісьменніка з боем...

ляюць сабою своеасаблівыя лірычныя паэмы-маналогі, — матэрыялу хопіць для кніжкі.

Вось яе змест:

Вершы – "Белае зімняе поле", "Здароў, мой таварыш, мой дружа", "На прыволлі", "Два франты", "Паўлюку Трусу", "Цыганка", "Леніну", "Дарогаю да чырвонай сталіцы", "За тысячы новых тваіх Асінбудаў", "Першы дзень на запалкавай фабрыцы", "Міхасю Лынькову", "Яшчэ раз пра паэзію і пра ружы", "Ліст да паэта Петруся Броўкі", "Жыццё за нас", "Майскім маршам", "З цыкла "Пальмы даліны", "На дарозе";

І — "Таварыш Нюрын", урыўкі з паэмы.

Чаму выбраны іменна гэтыя вершы і чым яны цікавыя?

Гэтыя вершы найбольш яскрава сведчаць аб творчым абліччы паэта, найбольш закончаныя і лепшыя па сваіх мастацкіх якасцях. І яшчэ: яны цікавы для сённяшняга чытача, бо ў гэтых творах мы адчуваем пульс таго часу, бурлівага часу першых пяцігодак.

Раю рэдактару зборніка:

1) У першую чаргу выправіць двухсэнсоўныя, нязграбныя і проста непісьменныя радкі.

2) Даць да зборніка невялікую прадмову – 2-3 старонкі машынапісу.

3) Захаваць усюды даты.

У такім выглядзе можна выдаваць выбраныя вершы В.Маракова".



Рыгор Кобец.
1930-я гг.

* З успамінаў беларускага драматурга Р.Кобеца ("Народная воля". 1998. 18 ліпеня):

"...Іван Дамінікавіч "вісеў" на тэлефоне.

Ало!.. Броўка?.. Вельмі добра. Пятрусь?.. Так, так. Купала. Слухай, Пятрусь. Прыхапі там Вольнага, Маракова, Александровіча... на рыбу... спаткаеш Дудара – цягні і яго. Толькі хутчэй.

Праз гадзіну кватэра Янкі Купалы гудзела, як пчаліны вулей. Любіў Іван Дамінікавіч "маладнякоўцаў"...

* Выходзіць кніга В.Маракова "Лірыка" з пасляслоўем С.Баркоўскага.

Змест зборніка "Лірыка":
1."Белае зімняе поле..."
2.На прыволлі.
3.Два франты.
4.Паўлюку Трусу.
5.Цыганка.
6.Леніну.
7.Дарогаю да чырвонай сталіцы.
8.За тысячу новых тваіх Асінбудаў.
9.Першы дзень на запалкавай фабрыцы.
10.Яшчэ раз пра паэзію і пра ружы.
11.Ліст да паэта Петруся Броўкі.
12.Жыццё за нас.
13.Майскім маршам.
14.З цыкла "Пальмы даліны".
15.На дарозе.
16.Таварыш Нюрын.

* У даведніку "Пісьменнікі Савецкай Беларусі" змешчаны артыкул "Валеры Маракоў" (с.285-286).

## 1960

* У "ЛіМе" за 1 лістапада надрукавана рэцэнзія К.Васільева "Моваю сэрца" на зборнік "Лірыка":

"У плеядзе маладых паэтаў 20-30-х гадоў свой адметны голас меў Валеры Маракоў. В.Маракоў быў паэт лірычнага складу... Ужо ў адным з ранніх вершаў паэт пісаў аб намеры даць сваёй краіне вольныя, дзівосныя песні. Вершы, змешчаныя ў зборніку, яскрава сведчаць, што яны не толькі часціца гісторыі беларускай паэзіі, але і своеасаблівая пераклічка з нашымі днямі".

## 1961

У трохтомнай "Анталогіі беларускай паэзіі" змешчаны вершы В.Маракова "Белае зімняе поле", "Леніну", "Першы дзень на запалкавай фабрыцы".

# 1962

У кнізе Н.Гілевіча "Акрыленая рэвалюцыяй: паэзія "Маладняка" разглядаецца творчасць В.Маракова (с. 115—117).

# 1963

У № 8 "Полымя" з'яўляецца верш П.Броўкі "Адшчапенец".

Кастусь Акула напісаў "Адказ "роднапартыйнаму" Петрусю":

Не табе, сыну "партыі роднай",
Нас, выгнанцаў, імя ганьбаваць, -
Беларусі ты камень надгробны
Памагаеш чужым майстраваць.

Ты дурманіш народ, ганіш Бога,
Праслаўляеш прыгон і ману.
Абіваеш тырана парогі,
Панегірыкам знаеш цану.

Табе рай, а народу Галгофа,
На крамлёўскі спяшыш ты шабаш,
Там нячысцік – партыйны прайдоха,
Рабаўласнік трымае кірмаш.

Мы – выгнаннікі часу ліхога
Не парвалі з народам вязьмо,
Нам мілей вольнасць свету чужога,
Чым маскоўскае дома ярмо.
Ты ня звягай, што мы прадаліся
Чужніку, так як ты...
спіны гнём,
Не табе зведаць зорныя высі,
Што радзіўся на свет паўзуном.

Нашы сэрцы не знаюць патолі,
У бяздзейнасці рук не кладзём,
Пакуль родзічаў глуміць няволя,
Пакуль прыйдзе чарга вольных дзён.

Цэлы свет мы у сведкі паклічам –
Не мінець вам страшны Нюрэнберг! –
Наш народ сваіх вырадкаў зліча,
Справядлівасць, святло возьме верх!

## 1964

* 16 верасня з Масквы У. Дубоўка піша наступны ліст С.Шушкевічу:

*"Дарагі Станіслаў Пятровіч!*

*Вы далі мне цяжкую задачу – расказаць аб справах і падзеях, якія адбываліся аж сорак гадоў таму назад.*

*Хлусіць цяпер, як робяць некаторыя "мемуарысты", неяк нядобра.*

*Вось жа я і мушу адказаць Вам у агульных рысах.*

*Правільна Вы кажаце, што самая думка выдання кніжніцы (бібліятэчкі) "Маладняка" была пададзена мною, прычым выключна для папулярызавання творчасці так званых "маладзейшых" пісьменнікаў. На чале дзяржаўнага выдавецтва тады стаяў чалавек, пра якога наш сатырык пісаў, што ў яго "капялюш берлінскі, а характар свінскі". Праўда гэта ці не, але ў кожным разе той чалавек мог размаўляць толькі з аўтарам, які прыносіў яму том аркушаў друкаваных на дваццаць. А куды ж было падацца тым, чые "тамы" не перавышалі аднаго, а то і паловы друкаванага аркуша? Як бачыце, пытанне было паднята самім жыццём, а таму яно і было жыццёвае.*

*Тагачасныя кіраўнікі культурнага жыцця Беларусі (А.Р. Чарвякоў, Ус.М.Ігнатоўскі, Язэп Ал.Адамовіч і А.В.Баліцкі) сардэчна прывіталі і падтрымлівалі гэную думку. Яны паставілі толькі адну умову: "Давайце мастацкія, цікавыя для чытача, прасякнутыя рэвалюцыйным пафасам творы. Не клапаціцеся аб фінансавай старане, бо яна, — пры выкананні вышэйзгаданае ўмовы, будзе забяспечана поўнасцю".*

*Вам вядома, якія кніжкі былі надрукаваны. З сучаснага пункту погляду, не ўсе яны, магчыма, каштоўныя. Але ў той час яны былі патрэбны, сустракаліся прыхільна чытачамі і не ляжалі доўга ў кнігарнях.*

*Не адна з тых кніжак рэдагавалася пры маім непасрэдным удзеле. Тады ніякага "апарату" не было, нас было двое: адказны сакратар ЦБ "Маладняка" – я і літсакратар – Я.Пушча.*



Уладзімір Дубоўка.
Здымак з асабовай справы. 1949 г.

*Рэдагаванне адбывалася ў пакойчыку пры Інстытуце Беларускай Культуры (тады – Рэвалюцыйная, 21) пры ўдзеле саміх аўтараў, а часта-густа пры ўдзеле другіх пісьменнікаў, якія наведваліся ў той пакойчык. "Глянь, паслухай! Гэты радок гучыць кепска, туманна, або непрыгожа. Вось трэба сказаць як!" Аўтар згаджаецца або не. У кожным разе з такімі заўвагамі, "пры адчыненых дзвярах" справа прыходзіць да канца. Пасля гэтага – друкарня. Не буду хлусіць – ці праходзіў такую аперацыю Хадыка. Думаю, што праходзіў, бо ў яго вершах сустракаюцца многія словы, якія тады ўводзіў з народнай мовы я. У кожным разе, калі Вас глыбока цікавіць тэхніка рэдагавання таго часу, запытайцеся яшчэ ў каго, напрыклад – у Жэні Лужа-нінай. Я добра памятаю, што я асабіста рэдагаваў іхнюю калектыўную кніжку (Я.Пфляўмбаум, Н.Вішнеўская, З.Бандарына). Можа, ў яе памяць лепшая, яна здолее папраўіць мяне альбо дапоўніць, у кожным разе – не дасць схлусіць. А больш я дадаць не магу. Хіба яшчэ вось што: Іван Дарафеевіч Казека казаў мне, што ён у адным архіве чытаў пратаколы і розную перапіску "Маладняка". Давядайцеся ў яго – дзе дакладна і зусім магчыма, што Вы сустрэнеце там яшчэ што цікавага для Вас па Вашай тэме.*

*А ад мяне – прыміце прывітанне, найлепшыя пажаданні і перадайце іх сваім таварышам па працы, у першую чаргу – Раману Карпавічу.*

*З пашанаю да Вас:*
*У.Дубоўка..."*

* З артыкулка С.Хмары "Дубоўка" ў часопісе "Баявая ўскалось"[1]:

"Прадстаўнікі "Комитета возвращения на Родину" адведалі яго (Ул.Дубоўку. – *Л.М.*) з прапановай напісаць процiў С.Хмары пісьмо ў газету, пры гэтым не толькі прынеслі яму вашыя газеты і часопісы, але і выданы вамі (С.Хмарай. – *Л.М.*) ягоны зборнік вершаў "Крэда", за які ён пакутваў у Сібіры і аб выданні якога ён і не знаў.

[1] Антарыо, Канада, 1977. № 16. С. 25-26.

Дубоўка наадрэз адмовіўся нешта напісаць проціў нас, а наперакор: захоплены вашай дзейнасцяй, парашыў неяк даць знаць вам, што яго не зламілі і што ён на нашым боку. Зрабіў ён гэта дасціпна, каб абыйсці цэнзуру, і даволі ясна для тых, каму прызначана. Быў гэта вялікі вершаваны твор пад выглядам апрацоўкі палескай казкі для дзяцей, ды азагалавіў гэты твор: "Як Сінячок да сонца лётаў", пусціўшы ў друк. Вось гэты твор у часопісе і прасіў (Ул.Дубоўка. – *Л.М.*) перадаць ці пераслаць праз другіх Хмары. "А ён ужо будзе ведаць!"

Так мы даведаліся аб нязломным Дубоўку. Дубоўку – змагару, Дубоўку – Чалавеку і сябру!"

* У Саўт-Рыверы (ЗША) выходзіць зборнік У.Клішэвіча "Далячынь", дзе надрукаваны і верш "Менская турма":

Пад дзікі крык нямых разлучын
Там Цішка Гартны быў замучан.

Таўклі чырвоным каты ботам
Алеся Звонака й Чарота.

Спаткаў таксама лёс свой чорны
За кратамі паэт Кляшторны.

Далёкі Ўсход, нямы і дзікі,
Закрыў зямлёй шкілет Хадыкі.

Як языком, змяла завея
Александровіча Андрэя.

Даносчык Кучар быў праворны:
Прапаў Зарэцкі, спасся Чорны.
За недагляд якогась слова
Душыў забойца Маракова.

Жыццё турмы адведаў кожны:
Там быў Знаёмы і Дарожны.

Сярод нявольнікаў зямных
Прысеў Сымон Баранавых.

Калі ўжо секлі з-за пляча,
Прывалаклі Галавача.

Прыйшлося й мне ў юнацкім ранку
Паспрабаваць "Амерыканку".

Застаўся там тавар "дзяшовы":
То Кучары, то Куляшовы.

Яшчэ два дробных недалепкі –
Якіясь Броўкі ці то Глебкі.

1957 г.

## 1965

У кнізе М.Хведаровіча "Пасля навальніцы: Выбранае. 1925—1961" змешчаны яго верш "Сябру", прысвечаны В.Маракову, а таксама сумесны фотаздымак Валерыя Маракова і Рыгора Мурашкі (1935). На с.184 чытаем:

"Пракурор Беларускай ССР Г.С.Тарнаўскі ў сваім інтэрв'ю для БелТА расказаў, як мужна паводзіў сябе на допытах паэт Валеры Маракоў,— ён так і не прызнаў за сабой ніякай віны".

## 1967

У кнізе "Мастацкая літаратура народаў СССР у перакладзе на беларускую мову. 1917–1965 гг." згадваюцца пераклады В.Маракова.

## 1968

З кнігі С.Шушкевіча "Вяртанне ў маладосць":

"Калі ў 1926 годзе я скончыў сямігадовую школу, адразу пабег у рэдакцыю газеты "Чырвоная змена" параіцца, куды мне ісці вучыцца далей. Тут я сустрэў паэта А.Вольнага і празаіка Іларыя Барашку. Яны мне, свайму селькору, расхвалілі Менскі педагагічны тэхнікум.

—Там жа выкладчыкамі працуюць Якуб Колас і іншыя пісьменнікі,— падзадорыў А.Вольны.

Такая парада запаланіла ўсю маю душу. Толькі ў Менскі педагагічны тэхнікум – так было вырашана ў той дзень.

Мая заява была 803-й, а прымалі толькі 80 чалавек. Я безнадзейна апусціў галаву...

Чуецца вясёлая гамонка (сябры Менскай філіі "Маладняка" збіраліся на сход. – *Л.М.*). Мне чамусьці нагадваў лясную птушку У.Прыбыткоўскі, які вельмі таропка і адрывіста гаварыў і, нібы крыламі, размахваў рукамі. З.Бандарына часта перабівала яго, але і з яе гаворкі не мог зразумець нічога. Маўчаў нізенькі Я.Тумiловіч і нібы няспынна насміхаўся над усімі, а С.Дарожны зрэдку перабіваў усіх жартамі. І.Барашка часта паглядаў на гадзіннік, і здавалася, што даражыў кожнай хвілінай. Н.Вішнеўская грэлася каля кафлянай печы. Я.Падабед, перацiснуты шырокім рамянём, сустракаў усіх здзіўленымі вачыма, а Р.Мурашка паціраў хусцінкай рабацiністы спатнелы твар. І вось напоўнілася зала людзьмі, апошнімі працiснуліся А.Дудар і А.Вольны, і ўжо з-за стала пачуўся стук алоўка па шкляной накрыўцы графі-на і "кіруючы" заклік: "Будзем пачынаць,таварышы? Чытае свае вершы Паўлюк Трус".

У кнізе таксама змешчаны артыкул пра В.Маракова.

## 1969

* У зборніку "Жыве між нас геній" надрукаваны верш В.Маракова "Леніну".

* У "ЛіМе" за 14 сакавіка да 60-годдзя В.Маракова надрукаваны артыкул А.Звонака "Запісаны ў полк Акцябра".

## 1970

* У кнізе "З Леніным заўсёды Беларусь" перадрукаваны верш В. Маракова "Леніну".

* У даведніку "Пісьменнікі Савецкай Беларусі" змешчаны артыкул "Маракоў Валеры" (с. 246).

## 1971

Ва ўкраінскай двухтомнай анталогіі "Білоруська радянська поэзія" змешчаны верш В.Маракова "Леніну" (перакладчык Ю.Пятрэнка).

## 1973

* У 7-м томе "Беларускай Савецкай Энцыклапедыі" надрукаваны артыкул В.Бечыка "Маракоў Валерый Дзмітрыевіч" (14(27).3.1909—7.5.1940). Дата смерці ўказана памылкова, няма ніводнага слова аб арыштах у 1935 і 1936 гг.

* Выйшла кніга А.Звонака "Неспакойныя сэрцы", дзе змешчаны ўспаміны аўтара пра В.Маракова.

## 1975

Выйшла кніга доктара філалагічных навук М.Мушынскага "Беларуская крытыка і літаратуразнаўства. 20—30-я гады", у якой даецца агляд творчасці паэтаў 20—30-х гадоў, у тым ліку і В.Маракова (с. 198, 261, 287, 293, 296, 347).

## 1978

Выйшлі "Выбраныя творы" ў 2-х тамах С.Шушкевіча. У другім томе змешчаны нарыс пра В.Маракова "З Вяелікаморскай вуліцы".

## 1979

* С.Шушкевіч апублікаваў у "ЛіМе" за 23 сакавіка артыкул пра В.Маракова "Залаты пакос паэта".

* У кнізе М.Яроша і В.Бечыка "Беларуская савецкая лірыка" ("Навука і тэхніка") маюцца спасылкі на творчасць В.Маракова (с. 30, 46, 89 – 90).

* З кнігі У.Глыбіннага "Паэта з божай ласкі" (Нью-Ёрк):

"У паэзіі, прыкладам, Валерыя Маракова, гэта (матывы адышоўшай маладосці – *Л.М.*) адбілася вельмі частымі гаворкамі пра тое, што "маладосць адгарэла"[1], і гэта тады, калі самому носьбіту тых настрояў было ўсяго 18 гадоў".

## 1981

У кароткім даведніку "Пісьменнікі Савецкай Беларусі" змешчаны артыкул пра В.Маракова.

## 1982

У пятым томе кароткай энцыклапедыі "Белорусская ССР" (с. 440) надрукаваны артыкул "Моряков Валерий Дмитриевич" (27.3.1909—7.5.1940). Аб арыштах і расстрэле ў 1937г. — ніводнага слова. Дзень смерці дадзены памылкова.

## 1983

* Са "Слоўніка беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI – XXст ст.)" Янкі Саламевіча:

"Псеўданімы В.Маракова:
Армак В. (з А.Мардвілкам);
Армар В. (з А.Мардвілкам);
С.Ш. і В.М. (з С.Шушкевічам)."
Псеўданіма В.Бор даследчык не зафіксаваў.

* У кнізе М.Мішчанчука "Літаратура, народжаная Кастрычнікам: Аглядныя лекцыі па беларускай савецкай літаратуры" ("Народная асвета") на с.23 успамінаецца творчасць В.Маракова.

---

[1] Словазлучэння "маладосць адгарэла" няма ні ў адным творы В.Маракова. У «Маёй паэме» аднойчы сустракаецца слова "адгарэлі":
Яшчэ не адгарэлі
Ў маіх грудзях уздыхі навальніц.
І покуль ёсць
Хоць кропля сілы ў целе,
Я перад лёсам не схілюся ніц.

## 1984

У № 3 "Полымя" ў раздзеле "Наш каляндар" надрукаваны артыкул С.Шушкевіча да 75-годдзя з дня нараджэння В.Маракова.

## 1985

У сур'ёзнай навуковай працы супрацоўнікаў Інстытута літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі "Беларускі літаратурны працэс 20—30-х гг." адзначаецца ўклад у развіццё літаратуры В. Маракова (С. 9, 12, 15...).

## 1986



Сяргей Грахоўскі.
1970-я гг.

* З кнігі С.Грахоўскага "Так і было":

"...На рагу бялелі муры Белпедтэхнікума. Праз яго я праходзіў, як перад Пушкінскім ліцэем. Тут жа вучыліся Трус, Глебка, Маракоў, Ліхадзіеўскі, Бандарына, Якімовіч, Дарожны, - амаль уся паэзія таго часу. А вучыў іх сам Якуб Колас...

Штодня з Козырава пехатою прыходзіў у Дом пісьменніка статны сінявокі Валеры Маракоў. Усе былі яго сябрамі, усе гарнуліся да яго з асаблівай пяшчотай. Часта ў непагадзь або пасля позніх пасяджэ-нняў Валерыя запрашаў да сябе начаваць Янка Купала. Аднойчы даволі позна я сустрэў Маракова на апусцелай Савецкай вуліцы. Гарадскіх аўтобусаў тады не было, а пехатою да Козырава не блізкі свет, прайшліся з ім, і я прапанаваў ісці да мяне. Наймаў я тады малюпасенькі пакойчык з вузенькім салдацкім ложкам, столікам і гнутым венскім крэсельцам. Удвох на ложку не улегчыся, а каб нікому не было крыўдна, пасталіся на падлозе і прагаварылі ледзь не да світання. Валеры ведаў напамяць амаль усяго Лермантава і ў тую ноч чытаў мне "Дэмана", сцэны з "Маскарада", дзесяткі любімых вершаў і ўсё гаварыў: "Вось як трэба пісаць! А пісаў гэта юнак!" (Грахоўскі С. "Так і было". Мн., 1986).

* У "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі" ў 5 тамах (т. 3, "Беларуская савецкая энцыклапедыя імя Петруся Броўкі", с. 438) надрукаваны артыкул В.Бечыка "Маракоў Валерый Дзмітрыевіч". Дата смерці зноў указана памылкова.

* У энцыклапедычным даведніку "Янка Купала" (БелСЭ. С.379) надрукаваны артыкул пра Валерыя Маракова.

## 1987

* У № 8 часопіса "Беларусь" надрукаваны артыкул Ірыны Багдановіч "Валерый Маракоў". Там жа змешчаны вершы В.Маракова "Я цяпер зхлапцамі ў радасці бягу...", "Мне хочацца любіць, задумацца і верыць...", "Паэтам", "Была восень у роднай краіне...", "Жыццё, як мора-акіян". Дата смерці названа няправільна – 7 траўня 1940 г.

* У выступленні на пленуме Саюза пісьменнікаў Беларусі "Перабудова і літаратура" (1988) П.І.Прруднікаў сярод "нацдэмаў", "ворагаў народа", якіх "замоўчвалі дзесяцігоддзямі", назваў В.Маракова.

## 1989

* Выйшла з друку выбранае В.Маракова "Вяршыні жаданняў: Вершы, паэмы" ("Мастацкая літаратура"). На жаль, пры складанні зборніка былі выкарыстаны "познія" варыянты твораў паэта, якія яшчэ з 30-х гадоў "прайшлі" не адну "рэдактарскую" праўку.

* У "ЛіМе" за 23 чэрвеня ў рубрыцы "Кнігапіс" паведамляецца пра выхад кнігі "Вяршыні жаданняў": "У аднатомніку "Вяршыні жаданняў", якім выдавецтва "Мастацкая літаратура" адкрыла новую серыю "Спадчына", найбольш поўна прадстаўлена творчасць аднаго з папулярных паэтаў трыццатых гадоў..."

* У № 3 часопіса "Бярозка" Галіна Тычка надрукавала артыкул "Валеры Маракоў". Змешчаны таксама вершы В.Маракова: "Я помню, — яблыні цвілі...", "Прайшлі жалезныя гады...", "Жыццё, як мора-акіян..."

* Алесь Марціновіч надрукаваў у "ЛіМе" за 14 красавіка грунтоўны артыкул пра творчасць В.Маракова "Так многа патрэбна сказаць нам. Зусім не юбілейныя развагі ў сувязі з 80-годдзем з дня нараджэння Валерыя Маракова".

* У № 4 "Полымя" Вячаслаў Рагойша надрукаваў артыкул пра В.Маракова "На зломе часу".

* Першы сакратар СП Беларусі Н.Гілевіч 11 траўня звяртаецца ў КДБ з просьбай "дазволіць азнаёміцца з матэрыяламі архіва КДБ БССР, якія датычацца незаконна рэпрэсаваных у 30-я гады і цяпер рэабілітаваных беларускіх паэтаў С.Астрэйкі,У.Хадыкі, З.Астапенкі, С.Дарожнага, Ю.Лявоннага і В.Маракова, з мэтай выяўлення і публікацыі іх твораў". З КДБ атрыманы адказ ад 31 ліпеня 1989г.: "Рукапісаў і друкаваных выданняў, у тым ліку і належачых упамянёным паэтам, у архіўных справах на іх не маецца" (подпіс намес-ніка старшыні Э.І.Шыркоўскага).

* З артыкула Я.Гаварушкі "Настаўнік-паэт" ("Шлях камунізма", 28 кастрычніка):

"Мне давялося два гады вучыцца разам з Валерыем Мараковым на літфаку Вышэйшага педагагічнага інстытута. Гэта быў сарамлівы, сціплы і прыгожы юнак. Вельмі ветлівы ў абыходжанні з таварышамі і любімы намі паэт-лірык. Яго вершы і паэмы мы, студэнты, чыталі з захапленнем. Яны нечым нагадвалі паэзію Сяргея Ясеніна, творы якога нам у тыя часы чытаць забараняілі...

Паэзія Маракова была... перапоўнена ўдалымі параўнаннямі і душэўнымі перажываннямі...

Цёплая, сардэчная, жыццесцвярджальная лірыка Валерыя Маракова захапляе, натхняе...

Мінула шмат гадоў. Але імя таленавітага паэта-настаўніка В.Д.Маракова не забыта, хоць доўгі тэрмін утойвалася ад чытача..."

* У артыкуле "А суд гісторыі цяжкі!" Барыс Сачанка расказаў пра мужныя паводзіны Валерыя Маракова ў апошнія месяцы свайго жыцця ("ЛіМ". 13 студзеня).

## 1990

* Вячаслаў Рагойша надрукаваў у маскоўскім часопісе "Вопросы литературы" (№ 6) грунтоўны артыкул "Сердце,

согретое грустью..." пра творчасць і жыццёвы шлях В.Маракова (с. 150—157).

* У кнізе Б.Сачанкі "Сняцца сны аб Беларусі" апавядаецца аб мужных паводзінах Валерыя Маракова на допытах і аб тым, што "ён так і не прызнаў за сабой ніякай віны, заявіў на судзе, што выстаўленыя супраць яго абвінавачванні з'яўляюцца "прымітыўнай хлуснёй".

## 1993

* У другім томе трохтомнай "Анталогіі беларускай паэзіі" (с. 276—277) змешчаны біяграфічныя звесткі і вершы Валерыя Маракова "Белае зімняе поле...", "Першы дзень на запалкавай фабрыцы".

* Доктар гістарычных навук Уладзімір Міхнюк надрукаваў у "ЛіМе" за 8 студзеня артыкул "Балада пра арыштаваныя вершы", дзе піша, што "паэты А.Дудар, М.Чарот, М.Зарэцкі, П.Галавач, А.Вольны, В.Каваль, В.Сташэўскі, В.Маракоў Выязной сесіяй Ваеннай калегіі Вярхоўнага Суда СССР, якая лютавала ў Менску ў канцы кастрычніка 1937г., былі асуджаны да вышэйшай меры пакарання. Прыгавор быў выкананы тэрмінова — назаўтра ж, 29 кастрычніка 1937г. Напэўна, такога ніколі не было ў гісторыі сусветнай цывілізацыі, каб тая ці іншая нацыя страціла ў адзін дзень адразу восем паэтаў. А можа, і больш..."

## 1994

* У газеце "Віцебскі рабочы" за 16 красавіка ў рубрыцы "Спадчына" быў змешчаны артыкул В.Собаля "З пафасам маладосці" пра В. Маракова, які ўяўляў з сябе кампіляцыю з успамінаў С.Шушкевіча без спасылкі на апошняга.

* У біябібліяграфічным слоўніку "Беларускія пісьменнікі" ў 6 тамах ("Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі". Т.4. С.208—210) паэт і літаратуразнавец І.П.Чыгрын апублікаваў артыкул "Маракоў Валерый", бібліяграфію склала Г. І. Рэут.

* У даведніку "Беларускія пісьменнікі (1917—1990)" (складальнік А.К.Гардзіцкі) змешчаны артыкул "Валерый Маракоў" (с. 364).

* У кнізе А.Марціновіча "Сувязь: Літаратурна-крытычныя артыкулы" ("Мастацкая літаратура". С.38 – 52) змешчаны агляд творчасці В.Маракова пад назвай "...Вінаватым сябе не прызнаў":

"...Свядома не называю зборнік В.Маракова "Лірыка", выдадзены ў 1958 годзе (1959 г. – *Л.М.*), тады, калі грамадскія вятры падзьмулі на адлігу. Канечне, выхад гэтай кнігі быў падзеяй ужо таму, што вярталася новым пакаленням чытачоў імя творцы, якое замоўчвалася добрых дваццаць гадоў. І ўсё ж радасць вяртання В.Маракова была азмрочана, бо перадрукавалася толькі нямногае з яго не такой ужо і малой спадчыны, ды і трапіла пад вокладку "Лірыкі", як на маю думку, не самае характэрнае: чамусьці ў асноўным толькі вершы сацыяльна-грамадзянскага кірунку, хоць В.Маракоў, як вядома, найперш быў лірыкам...

Паэтам В.Маракоў быў па сваёй сутнасці. Лірычнасць, песеннасць яго натуры кідалася адразу ў вочы. Гаваркі, шчыры, непасрэдны...

Ці не гэтыя якасці прыхінулі паэта-юнака да самога Янкі Купалы? Хто-хто, а дзядзька Янка добра ведаў цану сапраўднай дружбе і сяброўству...

У гэтай атмасферы сардэчнасці, сапраўднай творчай прыязні і ўзаемаразумення, калі кожны шчыра і адкрыта радуецца поспехам сябра, і з’яўляліся вершы В.Маракова. На самым пачатку свайго мастакоўскага шляху малады аўтар, падобна сваім калегам па пяру, адчуваў здзіўленасць перад новым светам і гэтае захапленне імкнуўся перадаць на паперы...

Валерый Маракоў нічога не хацеў браць напавер. Ні ў жыцці, ні ў літаратуры. Яму самому хацелася прайсці там, дзе ўжо прайшлі іншыя, каб адчуць тое самае, што ўжо адчувалі і яны. Невыпадкова ў адным са сваіх тагачасных твораў ён прызнаўся: "Мне хочацца любіць, задумацца і верыць, душу з другімі душамі зліваць"...

* Алена Ціхановіч у "Звяздзе" за 29 кастрычніка надрукавала артыкул "...І касіў нас мор вялікі..." з фотаздымкамі дзевяці беларускіх пісьменнікаў, расстраляных 29 кастрычніка 1937 г., у тым ліку В. Маракова. Аўтарка з дапамогай А.Звонака і Л.Савік узняла ў гэтым артыкуле шэраг вострых праблем захавання памяці і спадчыны двухсот рэпрэсаваных беларускіх пісьменнікаў.

* З "Масеевай кнігі" М.Сяднёва:

"...Кожны дзень прыносіў нечаканыя навіны... Скончыў самагубствам Чарвякоў, скончыў самагубствам Галадзед... Арыштаваны паэты Чарот, Александровіч, Хадыка, Дудар, Кляшторны, Маракоў, Звонак, арыштаваны пісьменнікі Галавач, Зарэцкі, Скрыган, Баранавых, Знаёмы, Мікуліч, Шашалевіч і г.д. Турма набівалася біткам. На допыты цягаюць дзень і ноч і б'юць...

У 1936 годзе (1937. – *Л.М.*) доля звяла нас (М.Сяднёва, В.Хомчанку, Я.Нёманскага, Я.Туміловіча, Блохмана. – *Л.М.*) у падвальнай камеры на рагу Савецкай і Урыцкага. Тая камера цяпер замураваная, і калі цяпер мы глядзелі на тое замураванае месца, нам здавалася, што і мы замураваныя там навекі..."

## 1996

У кнізе У.М.Міхнюка "Арыштаваць у высылцы: дакументальны нарыс пра АлесяДудара" (Мн., БелНДІДАС, серыя "Вернутыя з небыцця") разам з паэтамі А.Дударом, М.Чаротам, М.Зарэцкім, П.Галавачом, А.Вольным, В.Кавалём, В.Сташэўскім, якія былі расстраляны 29 кастрычніка 1937г., названы В.Маракоў (с. 3, 69, 87, 110).

## 1997

* З кнігі Аляксандра Лукашука "За кіпучай чэкісцкай работай" (Мн., "Наша Ніва"):

"Прынятую літаратуру спальваць.

(Раздзел "Выданні БССР" загаду №33 ГалоўлітуБССР ад 3 чэрвеня 1937 г.)

...212. Маракоў В. – усе кнігі".

* У"Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" (Т.4. С.378) уартыкуле В.Чамярыцкага, У.Мархеля, І.Багдановіч, Л.Гарэлік "Літаратура" сярод пісьменнікаў, якія прыйшлі ў беларускую літаратуру ў 20-я гады, згадваецца В.Маракоў.

* У "ЛіМе" за 2 мая Пятро Выспа надрукаваў артыкул "Рэвізоры над кнігай", у якім зазначае, што амаль усе вершы В.Маракова, "перавыдадзеныя пасля смерці паэта, не

адпавядаюць арыгіналам", падпраўленыя, скажоныя. Аўтар прыводзіць прыклады праўкі, літаратурных "рэвізій".

* З артыкула Лявона Юрэвіча "Тавізаўцы" ("Роднае слова". № 11):

"В.Маракоў быў адным з самых таленавітых паэтаў 20-30–х гадоў. Ён хутка ўзыходзіў. Моладзь любіла ягоную паэзію. Дзіўна, але яе чамусьці вабіў той песімізм, разгубленасць. Мабыць, настрой паэзіі Маракова адпавядаў настроям чытачоў? Гэта была паэзія кахання, надзей і расчараванняў, паэзія адыходу ад грамадскага і афіцыёзу ў свет хараства, у свет чалавечнасці".

# 1998

* У газетах "Народная воля" (20 сакавіка) і "ЛіМ" (3 красавіка) змешчаны артыкулы "Жыццё, як бліскавіца, Валерыя Маракова" і "Думаў пра Беларусь" за подпісам Людмілы Герасімёнак, адкуль мы даведаліся, што аўтарка з'яўляецца "ўнучкай" В.Маракова (гэта пры тым, што дзяцей у паэта не было), што ў 1930 г. ён "вучыўся ў Менскім Белпедтэхнікуме", што, калі яго арыштоўвалі, "ён якраз гасцяваў у Янкі Купалы" і г.д. Многія факты ў публікацыях не адпавядаюць рэальнасці.

* У "ЛіМе" за 17 красавіка надрукаваны ўспаміны пра Валерыя Маракова пісьменніка М.Лужаніна "Дзень з Валерыем Мараковым".

* У газеце "Голас Радзімы" за 7 траўня надрукаваны ўспамі-ны пісьменніка С.Грахоўскага пра сустрэчы з В.Мараковым.

* У "ЛіМе" за 14 жніўня змешчана інтэрв'ю з пляменнікам паэта Леанідам Мараковым. Размова ішла пра жыццё і творчасць Валерыя Маракова ("Жыццё, як мора-акіян"). Апублікаваны вершы "Я веру", "О вясна!", "У гэтай смерці...".

* У інтэрв'ю "Сто вузлоў памяці..." ("ЛіМ" за 13 лістапада) Ніл Гілевіч гаворыць:

"Першыя кнігі вершаў выдалі: А.Куляшоў у 16 гадоў, В.Маракоў і С.Дарожны ў 17 гадоў...".

* Эдзі Агняцвет надрукавала ў газеце "Культура" за 27 чэрвеня ўспаміны пра свайго аднакурсніка паэта В.Маракова.

* У № 11 "Роднага слова" надрукаваны "Успаміны пра Валерыя Маракова" С.Шушкевіча. Уступнае слова і публікацыя Л.Маракова.

* № 10-11 часопіса "Першацвет" надрукаваны ўрывак "З успамінаў пра В.Маракова" А.Звонака.


Павел Пруднікаў
1971 г.

* У № 12 часопіса "Маладосць" надрукаваны ўспаміны П.Пруднікава "Паэт эмоцый", інтэрв'ю Л.Маракова з Ганнай Цімафееўнай, жонкай брата В.Маракова Леаніда, і падборка вершаў паэта.

* У № 11 часопіса "Крыніца" надрукаваны шэраг матэрыялаў, якія паказваюць " удзел" А.Кучара ў лёсе В.Маракова.

* У "Звяздзе" за 17 снежня ў рубрыцы "Краса і сіла: анталогія беларускай паэзіі" А.Сыс надрукаваў нататку пра Валерыя Маракова.

## 1999

* У № 2 "Роднага слова" надрукаваны артыкул В.Рагойшы "На пераломе жалеза і песні" і падборка вершаў паэта.

* У часопісах "Беларусь" (№2), "Полымя" (№ 3), "Бярозка" (№ 3), "Вясёлка» (№ 3) надрукаваны артыкулы Л.Маракова пра В.Маракова.

* У "ЛіМе" за 26 сакавіка змешчаны артыкул В.Бора "Чалавек — гэта Вам не мумія...".

# Дадатак

Бацька паэта Дзмітры Захаравіч Маракоў нарадзіўся ў 1880 годзе ў вёсцы Азяроўка Пскоўскай губерні.

4 мая 1935 года стараста Козыраўскай царквы Дзмітрый Захаравіч Маракоў быў арыштаваны. Следства працягвалася тры месяцы. 10 жніўня 1935 года быў абвешчаны судовы вырак:

"Именем Белорусской Социалистической Советской Республики.

Специальная судебная коллегия Верхсуда БССР в составе:

Председательствующего – председателя спецколлегии т. Биксона, членов спецколлегии т. Карпина и Милярчика при секретаре т. Виноградовой.

Заслушали и рассмотрели в закрытом судебном заседании уголовное дело по обвинению:

Семеняко Николая Адамовича, 1879 года рождения, русского, со средним образованием, служителя религиозного культа - епископа гор. Минска, беспартийный, уроженец с. Дятлово Слонимского уезда (Польша), прожив. в гор. Минске, одинокого, в Красной Армии не служил, судимого в 1925 г. РОГПУ на 2 года ссылки за контрреволюционную деятельность, наказание отбыл, по ст.ст. 72-б и 76 УК БССР...

Зенюк Ивана Петровича, 1872 года рождения, белоруса, окончил духовную семинарию, беспартийный, уроженец п. Погост Березинского района БССР, проживает в гор. Минске, женатого, на иждивении жена, служителя религиозного культа, настоятеля Козыревской церкви в гор. Минске, лишенный избирательных прав, в Красной Армии не служил, не судимого, по ст.ст. 72-б і 76 УК БССР...

Морякова Дмитрия Захаровича, 1880 года рождения, русского, грамотного, беспартийного, уроженца д. Озеровка бывшей Псковской губернии, жителя гор. Минска, женатого, на иждивении жена и трое детей от 11 до 27 лет, по профессии печника, церковного старосты Козыревской церкви, в РККА не служил, не судимого – по ст. 72-б и 76 УК БССР... (усяго па справе праходзіла 25 чалавек. – *Л.М.*)

Нашла предварительным и судебным следствием доказанным, что, начиная с 1933 года, после приезда в гор. Минск обвин. Семеняко Н.А. на должность епископа Минской (...) в гор. Минске, в Козыревской церкви стали формироваться религиозн., кулацкие и прочие антисоветские

элементы, часть из коих ранее репрессировалась Советской властью за контрреволюционную деятельность, поставившие себе целью под покровом церкви и исполнения религиозных обрядов, как легальную возможность для обрабатывания в антисоветском духе населения города и ближайших районов.

Для этой цели на квартирах у отдельных активных церковников под видом ночлега устраивались сборища приезжающих в церковь верующих, где церковный актив проводил с ними антисоветские беседы, распускали слухи о близкой войне, о скорой гибели Советской власти... опасности вступать в колхозы; читалась и распространялась контрреволюционная литература (проповеди Иоанна Крондштатского и др.)...

В результате проведенной этой группировкой контрреволюционной работы... тормозилось колхозное строительство и другие хозяйственно-политические компании. Имели место массовые выезды крестьян... массовое крещение детей... Распространялись контрреволюционные религиозные письма...

Только после ареста этой контрреволюционной группы церковников (...) прекратилось распространение провокационных слухов и начался массовый прилив в колхозы.

Конкретно виновность проходящих по делу лиц установлена следующая:

Обвиняемые Семеняко Н., Зенюк И., Моряков Д. (...) являлись руководящим ядром Козыревской церкви... (далей ідзе стандартны для "ворагаў народа" пералік абвінавачванняў. – *Л.М.*).

А посему спецколлегия Верхсуда БССР...

Приговорила:

(...) Семеняко Н.А. (...) к заключению в исправительно-трудовые лагеря сроком на ВОСЕМЬ лет (...), Зенюка И.П. (...), Морякова Д.З. (...) к лишению свободы в исправительно-трудовых лагерях сроком на ПЯТЬ лет... считая срок наказания (...) Морякова с 4 мая".

Пакаранне Дзмітры Маракоў адбываў у Тайшэтлагу ("працаваў" у шахце ў г.Кісялёўску Кемераўскай вобласці).

Аб тым, як рэлігійныя дзеячы, "антысаветчыкі", "нацдэмы" і інш. зняволеныя адбывалі пакаранне ў канцэнтрацыйных лагерах, тады ж, у 1938 годзе, паэт С.Хмара (вязень савецкіх, а раней польскіх канцлагераў) напіша:

Капаем. Няўпынна звініць
Аб камень стальная лапата,
І ззяюць ў вачах знямогі агні;
Далоні – крывавая лата.

Ці ў дождж, ці ў пагоду – ўсё рухам адным
Паспешна мы вернем дзярніну.
Нам сонца з сарочак выпарвае дым,
Шрамоў плечы поўныя сініх.

Капаем без слова, без гуку ў цішы.
Лёг цень на галодны аблiччы.
Рве крык прыганятага: - Гэй, пасляшы, -
Бо зноў вашы рэбры палічым!

Капаем, капаем праз цэлыя дні, -
Магілу капаем пракляццю!
Прыедзе вясна к нам на сонцы-кані!...
Капайце ж, лапаты, капайце!..

Толькі ў жніўні 1943 г. Д.Маракоў быў вызвалены. Але ў сувязі з забаронай уезду ў Беларусь дадому вернецца толькі ў 1945 г.

" Секретно.

Экземпляр 1.

В Пленум Верховного Суда БССР.

Протест

По делу Морякова Д.З. и других.

Приговором специальной судебной коллегии Верховного суда БССР от 9-10 августа 1935 года осуждены... (далей ідзе ñï ³ñ ç 22 ï ðî çâ³ø÷à¢, ¸ñöü ïðî çâ³ø÷à Ä.Ì àðàêî âà. – *Л.М.*)

Вместе с названными лицами по этому делу были осуждены: Семеняко Н.А., Зенюк И.П. (...), протест в отношении которых не вносится.

Дело по обвинению Морякова и других утрачено.

При проверке были истребованы прекращенное дело Морякова за 1934 год (і такая справа была? – *Л.М.*), контрольно-наблюдательное производство по делу 1935 г. с копией обвинительного заключения и копия приговора суда от 9 августа 1935 года.

Из копии приговора видно, что Моряков и другие признаны судом виновными в том, что, начиная с 1933 года, после приезда в г. Минск Семеняко Н.А. на должность епископа, в Козаревской церкви г. Минска стали группироваться религ., кулацкие и прочие антисоветски настроенные элементы, поставили себе целью под прикрытием церкви и исполнения религиозных обрядов, как легальную возможность для обрабатывания в антисоветском духе население города и ближайших районов...

Между тем, показания обвиняемых записаны необъективно, трафаретно, общими фразами...

При таком положении считаю, что Моряков и другие осуждены без достаточных оснований.

Руководствуясь ст.48 Уголовного законодательства Союза ССР и союзных республик, -

Прошу:

Приговор специальной судебной коллегии Верховного суда от 9-10 августа 1935 года в отношении (...) Морякова Д.З. (...) отменить..."

З тлумачальнай запіскі Маракова Д.З. Камітэту дзяржбяспекі:

1960 года, мая 30 дня. Гор. Минск.

"Прокурор следственного отдела прокуратуры гор. Минска мл. советник юстиции Вилько, сего числа принял объяснения от гр-на Морякова Д.З.

Моряков Дмитрий Захарович, 1880 года рождения, уроженец дер. Озерявка Холмского района Псковской области, из крестьян... прожив. В гор. Минске, ул. Великоморская д.10.

В настоящее время я проживаю вместе со своей женой Моряковой Ольгой Станиславовной, 1889 года рождения, и Моряковым Владимиром Дмитриевичем, 1924 г. рождения. Сын страдает психическим заболеванием (паслядопытаў у НКУС. – *Л.М.*) и в настоящее время находится на излечении в одной из больниц гор. Минска...

Второй мой сын – Леонид Дмитриевич, 1913 года рождения, в 1941 г. был призван на военную службу в Советскую армию, затем попал в плен. В 1942 году ему удалось бежать из плена и возвратиться в Минск. В 1943 году в Василишках (Западная Белоруссия) Леонид был убит из-за угла. Третий сын Валерий Дмитриевич, 1909 года рождения, в конце 1936 года в гор. Минске был арестован и, как мне сообщили, он погиб в заключении в январе м-це 1940 года (расстраляны 29 кастрычніка 1937 г. – *Л.М.*). На погибшего сына Валерия мне и жене назначили пенсию в сумме 447 руб. в месяц. Сам я в 1935 году в гор. Минске был арестован и находился в заключении по август 1943 г. Осужден я был по ст. 58 п.10 УК РСФСР. По освобождению я до 1945 года работал на шахте в гор. Киселевске Кемеровской обл., а затем я возвратился в гор. Минск в 1945 г. и по настоящее время я работал в разных организациях печником...

Пенсию я не получаю потому, что у меня нет документов, подтверждающих мой рабочий стаж...

Мной прочитано, записано верно.
Моряков.

Объяснения принял прокурор следственного отдела прокуратуры гор. Минска."



Праваслаўную царкву ў прадмесці Менска Козыраве наведаў архіепіскап Магілёўскі і Мсціслаўскі Філафей у суправаджэнні пратаіерэя Мікалая Лапіцкага. 1943 г.

Па якой прычыне Д.Маракова "запрашалі" ў КДБ, дзе ён пісаў "объяснительные записки", пакуль застаецца невядомым.

"Характеристика

Дана Морякову Дмитрию Захаровичу, 1880 года рождения, русский, б/партийный... Действительно работает вдомоуправлении №4 КЭЧ Минского района с 1956 года в качестве печника и каменщика (у 80 год. – *Л.М.*). За время работы в Д/У №4 т. Моряков Д.З. показал себя дисциплинированным и исполнительным работником, добросовестно относится к работе, пользуется заслуженным авторитетом среди рабочих и служащих домоуправления.

Нач. Д/У №4 Ярошевич. 31.5.1960 г."

Памёр Дзмітры Маракоў 18 лістапада 1968 г. Так ніводнага разу і не атрымаў ён пенсію, бо не меў дакументаў (згубіліся ў НКУС, як і асабістая справа), якія б пацвердзілі яго працоўны стаж (з 1895 года).



Бацька паэта Дзмітры Захаравіч Маракоў. 1960-я гг.

# Імянны паказальнік

## А



## Б

**В**

## Г

**Д**

## Е



## Ж



## З



## І



## К

## Л



## М

**Н**



**О**



**П**

**Р**

**С**



**Т**

**У**



**Ф**



**Х**



**Ц**

**Ч**



**Ш**



**Э**



**Ю**

**Я**

# Змест

# Summary

At midnight on October 28th, 1937 seventeen Belarusian writers were executed by shooting in the Minsk prison of MKUS (People's Commissariat of Internal Affairs). The action was unprecidented in the history of mankind.

Those writers were: Yakau Branshtein, Anatol Volny, Platon Halavach, Ales Dudar, Khatskel Dunets, Mikhas Zaretsky, Vasil Kaval, Maisey Kulbak, Yurka Liavonny, Valery Marakou, Ziama Pivavarau, Vasil Stasheusky, Izi Kharyk, Piatro Khatuliou, Piatro Shastakou, Mikhas Charot, Aron Yudelson. While working at the lifestory of V.Marakou I gathered a lot of information about hisfriends and companions-in-arms. More than 250 from 300 Belarusian writers, who participated in the library life in the twenties and thirties, were shot or to concentration camps exiled. The history of mankind has no analogue of exterminating intellectuals of the whole nation. The book contains more than 100 photographs, many of them being published for the first time.

*Навукова-папулярнае выданне*

**Маракоў Леанід Уладзіміравіч**

**Валеры Маракоў.**
Лёс, хроніка, кантэкст

*Адказны за выпуск* Г. Вінярскі
*Рэдактар* М. Скобла
*Дызайн* С. Кайдак
*Карэктар* А. Ляховіч
*Вёрстка* С. Кайдак

Падпісана да друку 15.03.1999 г.
Фармат 84x108 1/32
Друк афсетны. Папера афсетная.
Ум.-др. арк. 12,0. Наклад 100 ас. Заказ № 58

МФ «Беларускі кнігазбор».
Ліцэнзія ЛВ № 105 ад 31.12.97 г.
220034, Мінск, вул. Фрунзе, 5.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў друкарні ТАА «БЕЛГІПРАБУД»
г. Мінск, вул. Альшэўскага, 24
ЛП №54 ад 17. 11. 97 г.